**Бібліятэка “Беларускі калегіюм” рэпрэзэнтуе тэксты вядомых беларускіх інтэлектуалаў. Гэта эсэ, аналітыка, дасьледаваньні і дыялёгі пра Беларусь, грамадзтва, культуру і час.**

Кніга выбраных артыкулаў рэдактара часопіса “ARCHE” Валера Булгакава прысьвечана некаторым аспэктам функцыянаваньня беларускага грамадзтва і ўлады ў першыя 10 гадоў пасьля атрыманьня Беларусяй незалежнасьці. У ёй разглядаюцца пытаньні тыпалёгіі беларускага нацыяналізму, аналізуюцца культурныя і гуманітарныя прычыны яго палітычнага краху ў сярэдзіне 1990-х. Шмат увагі надаецца асобе першага беларускага прэзыдэнта А. Лукашэнкі – у прыватнасьці, разглядаюцца прычыны, якія абумовілі яго працяглае знаходжаньне на пасадзе прэзыдэнта Беларусі.

## Зьмест

1. Беларускі нацыяналізм:
этнічны, эсхаталягічны або папулісцкі?...............................5

2. Беларускі і расійскі сцэнары інтэграцыі ........................46

3. Геній Лукашэнкі,
альбо Пра фэномэн беларускай улады ............................66

4. Культурны застой і эканамічны рост:
першыя 10 год Лукашэнкавага кіраваньня .......................72

Біяграфія ............................................................................116

## 1. Беларускі нацыяналізм: этнічны, эсхаталягічны або папулісцкі?

Публікацыі, якія абмяркоўваюцца ў артыкуле:

*Уладзімер Арлоў. Незалежнасьць — гэта... // Уладзімер Арлоў. Мой радавод да пятага калена. Менск: ВЦ Бацькаўшчына, 1993.*

*Сяргей Дубавец. Практыкаваньні. Менск: Мастацкая літаратура, 1992.*

*Аляксандар Лукашук. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста. Менск: Наша Ніва, 1997.*

*Сяргей Дубавец. Дзёньнік прыватнага чалавека. Менск: БГАКЦ, 1998.*

*Сергей Дубавец. Русская книга. Менск: БГАКЦ, 1998.*

*Сяргей Ёрш. Усевалад Родзька. Правадыр беларускіх нацыяналістаў. Менск: Голас Краю, 2001.*

*Беларускі нацыяналізм. Даведнік. Менск: Голас Краю, 2001.*

*Леанід Лыч. Міжнацыянальныя дачыненні ва ўмовах нацысцкай акупацыі // Спадчына. 2002. № 1.*

*Ryszard Radzik. Między zbiorowością etniczną a wspólnotą narodową. Bial·orusini na tle przemian narodowych w Europie Środkowo-Wschodniej XIX stulecia. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu Marii Curie-Skl·odowskiej, 2000.*

Крызыс камуністычнай ідэалёгіі і здабыцьцё Беларусяй незалежнасьці актуалізавалі дэбаты над беларускім нацыяналізмам. Ці то ў яго "паліткарэктнай" іпастасі — "нацыянальнай самасьвядомасьці", "нацыянальнай ідэі", "нацыянальнага сьветапогляду", ці то ў навукападобнай трактоўцы як "пошуку нацыянальнай ідэнтычнасьці", яна задамінавала ў мысьленьні часткі беларускіх элітаў, якую складаюць ня толькі пісьменьнікі і навукоўцы-гуманітарнікі малодшага і сярэдняга пакаленьняў, але і некаторыя найвышэйшыя дзяржаўныя ўрадоўцы ды прадстаўнікі "тэхнічнай інтэлігенцыі". "Нацыянальная тэма" — гэта і прадмет дыскусій і канфэрэнцый, ёй прысьвячаюць артыкулы і манаграфіі, яе выносяць у назвы кніг.

**1**

Адным з найбольш папулярных твораў перабудовачнае пары на гэтую тэму стала эсэ Ўладзімера Арлова "Незалежнасьць — гэта...". Яно было напісанае ў лютым 1990 г. і прыпала на час актыўнага пошуку самабытнага "нацыянальнага шляху" ня толькі ў нас, але і ў суседніх зь Беларусяй рэспубліках па гэты і той бок мяжы СССР. Не выпадкова, што тэкст быў цёпла сустрэты грамадзкасьцю сумежных краін і вокамгненна перакладзены на прыбалтыйскія мовы, на расійскую, а таксама прынамсі двойчы апублікаваны на польскай.

Аўтар публікацыі выступае за незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыны. Для яго, тагачаснага грамадзяніна змрочнай таталітарнай імпэрыі, гэтая незалежнасьць асацыюецца нават ня столькі з "нацыянальным выбарам" краіны, колькі зь яе эўрапеізацыяй і дэмакратызацыяй. Арлоў ня бачыць Беларусі ў найбліжэйшай будучыні дзяржавай, у якой будзе агрэсіўна дамінаваць культура тытульнай нацыі, і таму сур'ёзна гаворыць, што пры незалежнасьці беларускіх дзетак у Беларусі будуць вучыць па-беларуску, польскіх — па-польску, жыдоўскіх — па-жыдоўску,

*“і дзеля гэтага тваім тату й маме ня трэба будзе ўсё лета зьбіраць па кватэрах заявы бацькоў”*.

У палітычным вымеры, паводле аўтара эсэ, незалежнасьць надыходзіць тады, *“калі з тэлеперадач і газэт раптам зьнікаюць лісты нястомна-таямнічых вэтэранаў і вусьцішныя паведамленьні пра нацыяналістаў і экстрэмістаў”*, *“калі ты пазбаўлены магчымасьці пачуць, як твой прэзыдэнт вучыць з экрану суайчыньнікаў: “Хто как хаціт, той так і гаварыт”*, бо твой прэзыдэнт — чалавек пісьменны і хоць адну мову ўсё ж ведае” (няма сумневу, беларускую — **Аўт.**). І, натуральна, незалежнасьць гэтая ёсьць перадусім незалежнасьцю ад Расіі зь яе побытавай неўладкаванасьцю (*“каб купіць малому малака, трэба займаць чаргу а пятай гадзіне раніцы”*) і нязьмернымі імпэрскімі амбіцыямі (*“калі ніхто ня страшыць цябе, што твой народ ня зможа выжыць безь вялікага старэйшага брата”*). Карацей, “незалежнасьць” паводле Арлова — гэта камуністычнае “сьветлае заўтра” наадварот, час, калі цудоўным, але нікому пакуль невядомым чынам будуць выпраўленыя асноўныя заганы масавага савецка-беларускага грамадзтва і Беларусь з паўночна-заходняй ускраіны імпэрыі ператворыцца ў арганічную частку Эўропы.

Арлоў выбудоўвае сваю нацыяналістычную ўтопію, не ўсьведамляючы, што яе правобразам выступае сучасная яму марксісцка-ленінская камуністычная тэлеалёгія зь яе аднесеным у неакрэсьленую будучыню грамадзтвам усеагульнага дабрабыту, у якім будуць вырашаныя асноўныя палітычныя, сацыяльныя, нацыянальныя і іншыя супярэчнасьці і ў гістарычна абумоўлены надыход якога трэба беззасьцярожна *верыць*. У сваю ўтопію верыць і сам аўтар, пра што ён сакрамэнтальна заяўляе пры канцы свайго эсэ, пабудаванага ў форме пэдагагічнай гутаркі з падрастаючым пакаленьнем: *“Я веру, што калі-*

*небудзь так будзе. Бо йначай проста ня варта жыць”*.

Бальшыня “замалёвак з будучыні” Арлова, дзеля сваёй утапічнасьці, сёньня ўспрымаецца зь вялікай доляй іроніі. Здабыцьцё незалежнасьці не дало Беларусі прапусткі ў сям’ю эўрапейскіх нацый, дый сама гэтая незалежнасьць выйшла нейкая малакроўная, неэўрапейская, хутчэй мо афрыканская (менавіта ў Афрыцы здабыцьцё незалежнасьці ад мэтраполіі за рэдкім выняткам адзначалася рэзкім пагаршэньнем узроўню жыцьця). Шараговы беларус па-ранейшаму ня мае шанцаў выехаць на выхадныя ў Вену, каб выпіць кавы *“насупраць палацу Шонбрун”*, спэцслужбы як раней усюдыісныя і падкантрольныя толькі кіраўнічай кліцы, а таму ў любы момант могуць выклікаць цябе для прафіляктычнай гутаркі, у школе на ўроках гісторыі гавораць і пра Лядовае пабоішча, а ня толькі Грунвальдзкую бітву, а на Дзяды ніхто не гарантуе, што “новая мадэль гумовага дручка” ня будзе апрабаваная на тваёй галаве. Нарэшце, у радзільні, у якой зьяўляюцца на сьвет нашы дзеткі, як і ўперад, у вялікай колькасьці вядуцца прусакі, а радыё і тэлебачаньне запаланілі адыёзныя прапагандысцкія перадачкі, проці якіх свавольныя штукарствы савецкіх вэтэранаў выглядаюць няйначай як дзіцячае лепятаньне. І што самае фатальнае, ладная частка беларусаў успрымае пару, якая папярэднічала здабыцьцю незалежнасьці, як своеасаблівы “залаты век”, калі іх матэрыяльныя і духоўныя запыты задавальняліся куды больш гарманічна.

Гады незалежнасьці азначыліся таксама відавочным зьдзічэньнем палітычных элітаў, якіх грамадзтва надзяліла абавязкам ажыцьцяўленьня палітычнай улады ў краіне. Пазбаўленыя ранейшых, хай сабе эфэмэрных маральна-этычных стрымак, яны ня гідзяцца самых брудных сродкаў пры дасягненьні сваіх палітычных мэтаў. Для беларускай палітыкі ўжо каторы

год звыклымі рэчамі зьяўляюцца публічнае хамства і нецярпімасьць да іншадумства, закулісныя інтрыгі і ўстараненьне палітычных праціўнікаў незаконнымі мэтадамі.

Можна падумаць, што адзіны недагляд пісьменьніка Арлова — гэта недагляд, так бы мовіць, з *краінай прызначэньня незалежнасьці* — маўляў, падставіць бы на месца Беларусі Польшчу або Эстонію, і ўсё адразу стане на свае месцы. Але за гэтым недаглядам стаіць нешта большае: ён сьведчыць пра неразуменьне бягучых сацыяльна-палітычных працэсаў беларускай інтэлігенцыяй канца 80-х — пачатку 90-х гг. XX ст., яе хваравітую цягу да абсалютызацыі адных зь іх і ігнараваньня другіх. Беларускія інтэлігенты верылі, што крызыс камуністычнай ідэалёгіі ў краіне, у якой не ўкарэнена масава нацыянальная ідэнтычнасьць і адсутнічаюць традыцыі палітычнай культуры, мэханічна прывядзе ня толькі да дэцэнтралізацыі і развалу Савецкага Саюзу, але і да эўрапеізацыі нашай Бацькаўшчыны.

Першыя гады незалежнасьці паставілі беларускую інтэлігенцыю на мяжу фізычнага выжываньня. Рэзкае зьніжэньне даходаў беларускага інтэлігента суправаджалася непрадказальнымі зыгзагамі культурнай палітыкі дзяржавы, якая ахвотна фінансавала адно тыя культурныя ініцыятывы, якія давалі імгненны прапагандысцкі эфэкт. Адчуўшы пэрманэнтныя матэрыяльныя цяжкасьці, а нярэдка і палітычны перасьлед, былыя трыбуны БНФ і аракулы ТБМ масава перайшлі на службу “рэжыму” або выехалі ў эміграцыю, перакваліфікаваліся ў работнікаў трэцяга сэктару ці проста зьніклі з публічнай прасторы.

Чаму? Мо таму, што ўсе яны марылі пра ідэальную незалежнасьць з гіпэртрафавана беларускай дзяржавай, якая ў адпаведнасьці з прынятым

“Законам аб адукацыі” перавядзе навучаньне ў школах і ўнівэрсытэтах на беларускую мову, стварыўшы тым самым новыя працоўныя вакансіі для носьбітаў матчынай мовы, павялічыць выданьне беларускамоўных кніг, выплочваючы завоблачныя ганарары беларускім пісьменьнікам і іншым работнікам беларускага слова, адным махам забясьпечыць інфармацыйны сувэрэнітэт краіны і г.д., — адным словам, пра гэткую сабе незалежнасьць з рэзкім павелічэньнем магчымасьцяў кар’ернага росту. Рэальная ж незалежнасьць і насталая пры ёй камэрцыялізацыя беларускай эканомікі прынесла ў культурнае жыцьцё краіны іншы дух, запатрабавала новай этыкі працы і жыцьця. Для дасягненьня посьпеху раптам стала замала быць шчырым беларускім патрыётам або незаплямленым дэмакратычным апазыцыянэрам.

**2**

Сяргей Дубавец, шматгадовы рэдактар газэты “Наша Ніва”, у канцы 80-х — 90-х гг. XX ст. атрымаў прызнаньне як ідэоляг беларускага нацыяналізму ці “беларускага шляху” — выраз, які часта сустракаецца ў яго публікацыях.

Дубаўцоў зборнік “Практыкаванні”, выдадзены ў 1992-м, уяўляе сабой важны і павучальны зрэз яго рэфлексіяў на тэмы нацыі і нацыяналізму на самым пярэдадні і падчас здабыцьця незалежнасьці.

Уласна “рэфлексійны” блёк “Практыкаванняў”, разьдзел “Эсэ” (агулам кніга мае тры разьдзелы — “Проза”, “Эсэ”, “Крытыка”), пачынаецца з артыкулу пад назовам “Мова”, у якім аж роіцца ад стандартных, “тэбээмаўскіх” фармулёвак накшталт *“Свая мова — гэта інтымная рэч нацыі, дарагая і неабходная толькі ёй. Без інтымнага (патаемнага) і чалавек, і нацыя — назвы, абалонкі, напхатыя немаведама чым,*

*толькі не сабою”*. Або: *“Стагоддзямі адбіралі ў нас мову. То цалкам, то па сказе, па слове, па гуку”*. На гэтую тэму аўтар разважае доўга і ахвотна.

Будучы прапагандыстам моўнага нацыяналізму, С. Дубавец азартна крытыкуе культурную палітыку БССР. Прадметам крытыкі стаецца, у прыватнасьці, Саюз пісьменьнікаў Беларусі (*“сталінскае дзецішча сталінскага гарту”*), а таксама засельля ў ім *“літаратурныя адміралы”* накшталт Івана Навуменкі, якія ўсяляк душаць сваіх маладзейшых калегаў “па пяру”. 80-я гг. XX ст. — гэта час, калі беларускія нацыяналісты мабілізаваліся пераважна зь літаратурнага асяродзьдзя, таму ў нататках Дубаўца часам не адчуваецца дыстанцыі паміж тагачасным нацыянальным і літаратурным рухам. Дарэчы, акурат розныя драбніцы зь літаратурнага жыцьця робяць Дубаўцовы “Практыкаванні” кнігай, якую зь неабходнасьцю давядзецца прачытаць будучым гісторыкам беларускае літаратуры: напрыклад, што работнікі выдавецтва “Мастацкая літаратура” не хацелі прапускаць аўтарскай назвы першай паэтычнай кнігі Адама Глёбуса “Парк” і намаўлялі перайменаваць яе ў якія-небудзь “Гронкі радасьці”, або як пры канцы 70-х аднаго маладога беларускамоўнага паэта моцна хвалілі ў друку за тое, што ён валодае беларускай мовай, або як цкавалі паэтычны геній Алеся Разанава...

Канчаюцца “Практыкаванні” тэкстам-маніфэстам *“Новая культурная сітуацыя. Тэзісы новых кніг”*, навеяным абвяшчэньнем незалежнасьці. У гэтым артыкуле многа гаворыцца пра патрэбу выбудовы беларускае Беларусі на прагматычнай аснове. У прыватнасьці, С. Дубаўца не задавальняе мэханічная беларусізацыя, навязаная дзяржаўным апаратам: *“Беларуская культура не стане грамадскай з’явай ад таго толькі, што ўсе школы і дзяржаўныя інстытуты будуць пераведзеныя на беларускую мову”*. Тады, на пачатку 1990 г., праводжаная зьверху

“беларусізацыя” ўспрымалася як дадзенасьць, якую “не спыніць не стрымаць”.

Далей С. Дубавец з халоднай безуважнасьцю выстаўляе трывожны дыягназ бягучай культурнай сытуацыі. Ён гаворыць пра хранічную культурную анэмію беларусаў: *“Беларуская культура не распрацоўвае жыццёвыя праекты і сітуацыі, яна ўжо не стварае самабытныя беларускія краявіды. Тое, чаго не робіць беларуская культура, ёсць нормай культуры, праз якую самасцвярджаюцца нацыянальны светапогляд і мова”*. Палітычныя падзеі сярэдзіны 90-х з усёй відавочнасьцю пацьвердзяць яго абгрунтаванасьць.

Па азнаямленьні з Дубаўцовымі рэфлексіямі ў чытача ўзьнікае дваістае ўражаньне. Так, яны напоўненыя геніяльнымі здагадкамі і інтрыгоўнымі хадамі, адзначаюцца вышуканай мовай і філігранным стылем. Але ўсё гэта датычыць Дубаўца-пісьменьніка. Як ідэоляг ён часта аказваецца бездапаможны. У распрацоўцы інтэлектуальнага апарату беларускай нацыянальнай ідэалёгіі, наагул у разуменьні нацыянальнага праекту Дубавец сваім бескампрамісным сьцьверджаньнем багацьця беларускай мовы не пайшоў далей за Францішка Багушэвіча. Прычыны гэтага ляжаць у гуманітарнай сфэры. Напярэдадні распаду СССР у краіне толькі-толькі пачалі зьяўляцца пераклады сучаснага заходняга мысьленьня, а таксама фармавацца мода — сьпярша вельмі плыткая і несур’ёзная — на заходніх інтэлектуалаў. У якасьці сваіх духоўных настаўнікаў Дубавец — ідэоляг беларускага нацыяналізму — бярэ першае-лепшае, разрэклямаванае менска-маскоўскімі выдаўцамі і акадэмічнымі інтэрпрэтатарамі, — францускі экзыстэнцыялізм сярэдзіны XX ст. (Жан-Поль Сартр, Альбэр Камю) і нямецкую філязофію жыцьця канца XIX ст. (Фрыдрых Ніцшэ). Самыя схематычныя тэксты “Практыкаванняў” акурат і прысьвечаныя гэтым

постацям (эсэ “Фрыдрых Ніцшэ — гіпсавы мысляр” і “Тлумачэнне Сартра”, якое грашыць хадульнымі высновамі ў духу *“Пра Сартра кажуць, што ён адвучвае верыць у Бога і прывучвае верыць у чалавека. Гэта праўда.”*).

У канцавым рахунку інтэлектуальная непераборлівасьць Дубаўца (пра сьвядомую спробу злучыць францускі экзыстэнцыялізм зь беларускім нацыяналізмам гаварыць не выпадае) і абумовіла яго слабасьць як нацыянальнага ідэоляга. Застаецца спадзявацца, што аўтаравы наступнікі і сам аўтар улічаць гэты досьвед і зьвернуць нарэшце ўвагу на творы Бэнэдыкта Андэрсана, Міраслава Гроха, Эрнэста Гельнэра, Энтані Д. Сміта, Эрыка Дж. Гобсбаўма.

**3**

У адрозьненьне ад Уладзімера Арлова або Сяргея Дубаўца, Аляксандар Лукашук ня робіць стаўкі на “нацыяналістычны ўтапізм” або “моўны нацыяналізм”. Ён хоча даць нацыі сваіх герояў. Таму інтэлектуальную стратэгію, якую ён адстойвае ў сваёй кнізе, можна акрэсьліць як “распрацоўку і стварэньне нацыянальнага героя”.

Кожны нацыяналізм стварае пантэон сваіх герояў. Ладная іх частка — гэта “вечна жывыя” гістарычныя пэрсанажы, якія ў нацыянальнай гістарыяграфіі асэнсоўваюцца як вестуны нацыянальнай дзяржаўнасьці або абароньнікі нацыянальных інтарэсаў — нягледзячы на свой экстэрытарыяльны і наднацыянальны статус, як, напрыклад, у выпадку Сьцяпана Батуры, Ягайлы або нават Тадэвуша Касьцюшкі, які дагэтуль свой прынамсі для беларусаў, украінцаў, палякаў і літоўцаў. Праблема, аднак, палягае ў тым, што ўсе гэтыя гістарычныя дзеячы ніколі не валодалі канкрэтна беларускай, польскай або літоўскай нацыянальнай сьвядомасьцяй (якая

ёсьць зьявай мадэрных часоў, то бок у строгім сэнсе пра яе можна гаварыць толькі пачынаючы з XIX ст.), і таму нацыянальны ідэоляг патрабуе ўключэньня ў нацыянальны пантэон таксама і сучасных нацыяналістаў, г.зн. такіх, якія і важнае значэньне нацыянальнае мовы разумелі, і сапраўдныя межы сваёй краіны правільна ўяўлялі, і чужынцам супраціў чынілі.

Пантэон беларускіх нацыянальных герояў родам з XIX—XX стст. складаецца амаль з адных пісьменьнікаў і выдаўцоў, якія часта паміралі ў росквіце сілаў ад невылечных хваробаў і цяжкіх варункаў працы. Гартаеш старонкі паваенных эміграцыйных часопісаў (у тым ліку і “Моладзі”, якую выдаваў Янка Філістовіч) і дзівішся, які малы культурны капітал назапасіла нацыя: усе яны поўняцца просталінейным узьвелічэньнем Мацея Бурачка, Максіма Багдановіча, Івана Луцкевіча або Янкі Купалы. Культ вайсковых герояў, як, напрыклад, у палякаў зь іх Юзафам Пілсудзкім або Эдвардам Рыдз-Сьміглым, не разьвіўся ў нас зусім (Кастусь Каліноўскі не ўваходзіць у рахубу, бо яго нацыянальная сьвядомасьць не была “беларускай” — гэта пазьнейшая мадэрнізацыя). Дый скуль яму ўзяцца, калі ўласна беларускія нацыянальныя дзеячы зьяўляюцца параўнальна позна, толькі на зломе XIX і XX стст., і рэкрутуюцца пераважна зь літаратурна-выдавецкага асяродзьдзя.

Аляксандар Лукашук у сваім творы (аўтарскае жанравае азначэньне — радыёп’еса) робіць спробу запоўніць гэтую галу ў нацыянальным пантэоне герояў вяртаньнем зь нябыту постаці беларускага ваякі Янкі Філістовіча.

Янка Філістовіч нарадзіўся 14 студзеня 1926 г. у сяле Паняцічы, што на Вялейшчыне. Увосень 1943 г. быў мабілізаваны ў 13-ы батальён войскаў СД, які быў сьпярша разьмешчаны ў Вялейцы, пасьля — у Менску

(дзе, паводле прыведзенага ў п’есе сьведчаньня, *“батальён выконваў розныя заданьні, у іх ліку і па канвоі габрэяў з гета ў шталяг 32, вядомы лягер сьмерці ў ваколіцах Менску”*). Служыў у ім да заняцьця тэрыторыі Беларусі Чырвонай арміяй, пасьля быў прыкамандзіраваны да 30-й дывізіі СС і ў складзе гэтай вайсковай адзінкі быў перакінуты праз Польшчу ў Італію, адкуль быў пераведзены ў Чэхію, дзе засьпеў канец вайны. Пасьля вайны без асаблівага посьпеху вучыўся ў парыскай Сарбоне і Лювэнскім каталіцкім унівэрсытэце (Бэльгія). Супрацоўнічаў з амэрыканскай выведкай, пры дапамозе якой быў дэсантаваны на тэрыторыю Беларусі 9 верасьня 1951 г. За год свайго пабыту ў краіне з групай аднадумцаў выдаў адозву “Жыве Беларусь”. Быў бяз бою арыштаваны і пасьля паўгадавога сьледзтва расстраляны. Ось і ўся гераічная гісторыя.

Трэба прызнаць, што Лукашукова спроба ўдалася толькі часткова. З аднаго боку, аўтар, як ён сам прызнаецца, з падачы Вінцука Вячоркі і Сяргея Навумчыка стварыў па-свойму незабыўны вобраз беларускага паўстанца-нацыяналіста, які цалкам сьвядома паклаў сваё жыцьцё на алтар Бацькаўшчыны. Гэты амаль хрысьціянскі матыў самаахвярнасьці, хай сабе ў імя Бацькаўшчыны, а не нябеснага Валадарства, праходзіць скрозь усю кнігу і няяўна выступае галоўнай падставай для залічэньня Філістовіча ў корпус нацыянальных герояў. Пры вострым дэфіцыце апошніх можна заплюшчыць вочы на тое, што гэты ваяка пасьля дэсантаваньня ня вёў ніякіх вайсковых дзеяньняў, а таму гераізм яго быў выключна духоўнай прыроды і апісваецца ў мэтафарычных тэрмінах *“не скарыўся”, “ня паў духам”, “высока трымаў сьцяг беларушчыны”*. З другога боку, нельга заплюшчваць вочы на тое, што ў якасьці нацыянальнага героя выбраны калябарант, заплямлены самім фактам удзелу ў фашыстоўскіх параміліатрных фармаваньнях і які, да ўсяго ж, мог мець дачыненьне да вынішчэньня

жыдоў (у п’есе Філістовіч адкідае абвінавачаньне ў ваенных злачынствах, сьцьвярджаючы, што ў ягоным батальёне служыў іншы Іван Філістовіч, старэйшы). Як мы неўзабаве пабачым, акурат гэтая лінія гераізацыі калябаранта-вайскоўца беларускіх паравайсковых фармаваньняў часоў Другой сусьветнай вайны атрымае ў дамарослых тэарэтыкаў нацыяналізму энэргічны працяг.

Аляксандар Лукашук, пішучы сваю кнігу, выкарыстоўваў зьвесткі з розных крыніц (лісты, публікацыі ў часопісе “Моладзь”, успаміны, пратаколы допытаў). Відаць, гэтай неабсяжнай шматстайнасьцю фактаў і зьвестак, якія давялося апрацаваць падчас працы над п’есай, тлумачыцца прыкры недагляд, які лучыў у яе: на пачатку кнігі гаворыцца, што Філістовіча *“затрымалі недалёка ад Горадні”*, але пасьля аказваецца, што арышт праводзіла Маладэчанская ўправа МГБ у суседняй зь вёскай Вязынь вёсцы Ярмолічы (і першая, і другая знаходзяцца ў Маладэчанска-Вялейскім рэгіёне) і што арыштаваны Філістовіч быў у хаце свайго былога аднаклясьніка Пятра Соніча...

**4**

“Русская книга” Сяргея Дубаўца пабачыла сьвет неўзабаве пасьля шырака- і сумнавядомых падзеяў у грамадзка-палітычным жыцьці краіны: абраньня прэзыдэнтам папуліста Аляксандра Лукашэнкі і рэзкага зьмяненьня палітычнага курсу краіны. У канцы 1990-х нацыянальна-дэмакратычныя сілы краіны ўяўляюць сабой сумнае відовішча: яны разгромленыя і выціснутыя за борт палітычнага жыцьця. Горыч паразы ўзмацняецца ад барбарскай замены нацыянальнай сымболікі і імклівай дэбеларусізацыі сыстэмы асьветы і інфармацыйнага рынку краіны. Гэтая горыч няўзнак перарасьце ў дэмаралізаванасьць зь яе навязьлівай думкай, што кожная акцыя нацыянальна-дэмакратычных сілаў загадзя вырачаная на няўдачу.

Храналягічна “Русской книге” (зьбертыя ў ёй тэксты пабачылі сьвет у расійскамоўных выданьнях Беларусі і Расіі ў сярэдзіне 90-х) папярэднічаў зборнік апавяданьняў, імпрэсіяў і эсэ “Дзёньнік прыватнага чалавека”, які ствараўся паміж 1989 і 1998 гг., а значыць, быў беспасярэднім працягам вышэйпамянёных “Практыкаванняў”. З “Практыкаваннямі” “Дзёньнік...” лучаць тэмы, стыль, характар мысьленьня. Нязьменна прысутнічаюць францускія экзыстэнцыялісты і раманісты пяцідзесяцігадовай і большай даўніны (*“праціўнік сьмяротнае кары Альбэр Камю”, “Я падобны да Марсэля Пруста, які па дарозе да Свана шукае страчаны час”*), тэма мовы (*“мова, якой няма, але...”*), беларускага шляху (*“парадокс, уласьцівы й сучаснаму пашпартнаму беларусу, — дзьве крайнасьці сыходзяцца ў ім: нацыянальная індыфэрэнцыя й патрэба нацыянальнае ідэнтыфікацыі”* [толькі хіба *“патрэба нацыянальнае ідэнтыфікацыі”* — гэта крайнасьць? — **Аўт**.] і г.д.

Адным словам, як у выпадку “Практыкаванняў”, сэнсавая нэрва “Дзёньніка...” — гэта нацыянальнае пытаньне. Пры яго асэнсаваньні Дубавец выкарыстоўвае якасна іншы досьвед: калі да 1991-га разважаць пра незалежнасьць можна было толькі ўва ўмоўным ладзе, абапіраючыся на ўласныя інтуіцыі, асабістыя ідэалы і абстрактныя сусьветныя заканамернасьці, то пасьля 1991-га гэтая незалежнасьць абрасла рэальнымі фактамі і падзеямі. Сапраўдная незалежнасьць, рэальная палітычная гісторыя незалежнай Беларусі дае падставу Дубаўцу сьцьвярджаць: а) слабасьць нацыянальнага руху (*“заняпад беларускай ідэі ёсьць, і ён непераадолены ў тых формах, у якіх гэтая ідэя йснавала ды йснуе”*), б) цьмянасьць і нераспрацаванасьць ідэалёгіі беларускага нацыяналізму (*“...беларушчына — гэта творчасьць. Шматгадовыя ваганьні й прыблізны сэнс адраджэнства склаліся ў адзіную прычыну*

*паразы на пераможным шляху”*), в) прадажнасьць і непрадукцыйнасьць дэмакратычнай апазыцыі (*“Бог даў Беларусі ня толькі самае горшае ў сьвеце начальства, але й самых нікчэмных патрыётаў, самых баязьлівых палітыкаў, самых бязвольных змагароў”)*, г) нераспрацаванасьць і нявызначанасьць альтэрнатыўнай дзяржаўнай культурнай палітыкі беларускіх культурных элітаў (*“так і ня ўзгоднены адраджэнцамі правапіс роднай мовы, ня створана дзяржаўная ідэалёгія беларускага парадку”*). Наступная інвэктыва няўзнак абарочваецца супраць стратэгіі “распрацоўкі і стварэньня нацыянальнага героя”, якую мы прыпісалі былі Аляксандру Лукашуку: *“Яшчэ гадоў 10 таму фатакопіі твораў Луцкевіча, Станкевіча, Варонкі... прыносілі асалоду здабыткаў. Але сёньня самая ідэя вяртаньня — гэта прафанацыя”*.

Сам Сяргей Дубавец з 1991 г. стала жыве ў Вільні, і таму вобраз праэўрапейскай Літвы прысутнічае на даляглядзе яго твораў як пазытыўная альтэрнатыва прарасійскай Беларусі:

*Літва, нібы адмыслова дзеля Беларусі, стварае хрэстаматыйныя ілюстрацыі — узоры быту нацыянальнай дзяржавы. Літва — выдатніца ў школе постсавецкіх народаў, акуратная й старанная, прагная да вучобы, яна пераходзіць з клясы ў клясу, павялічваючы адлегласьць ад трэцягодніцы-Беларусі, якая прагульвае ўрокі, як прагульвае іх неахайная дзяўчынка ў зношанай школьнай форме — прагульвае не дзеля кіно ці нейкіх іншых забаваў, а дзеля самога прагульваньня. І гэтаксама, як дзяўчынка-трэцягодніца, Беларусь недалюблівае Літву, пазьбягае гэтай стараньніцы, якая марыць паступіць ва ўнівэрсытэт аб’яднанай Эўропы, бо сама Беларусь ня марыць ні пра што.*

Чым тут кіруецца Дубавец? Відавочна, ня станам эканомікі абедзьвюх краін, які, ведама, адрозны, але не настолькі, каб даваць грунт для такой змрочнай ацэнкі. Інакш кажучы, яўнага разрыву ўва ўзроўні жыцьця сярэдняга беларуса і сярэдняга літоўца не было і няма. Відаць, Дубавец схільны ўспрымаць лукашэнкаўскі праект незалежнасьці сама меней як акт нацыянальнага прыніжэньня, а мо нават як нацыянальны крах. І сапраўды, як інакш рэагаваць нацыянальнаму ідэолягу на беларускую рэальнасьць часоў Лукашэнкі зь яе крахам усіх ранейшых нацыяналістычных утопіяў, зь яе нізкапаклонствам перад зьненавіджанай Расіяй і ледзяной абыякавасьцю да Захаду?

На жаль, аўтар "Дзёньніка..." у сваёй кнізе абмяжоўваецца толькі пастаноўкай нацыянальных праблемаў. Да іх тэарэтычнага вырашэньня ён зьвернецца ў "Русской книге".

Цяжка сказаць, каму была адрасаваная гэтая выдадзеная на расійскай мове кніга. Яна настолькі насычаная беларускімі культурнымі рэаліямі, што звычайны расіец з Расійскай Фэдэрацыі наўрад ці патрапіць прадзерціся скрозь іх дрымучыя нетразі. Магчыма, кніга была прызначаная расійскамоўным беларусам? Але аўтарскі тэкст мае досыць гермэтычны характар, а яго наклад абмяжоўваецца 500 асобнікамі. Застаецца адзін верагодны адказ: тутэйшай расійскамоўнай інтэлігенцыі, якая дагэтуль ніяк не прасякнецца гаючымі ідэямі нацыянальнага адраджэньня.

Пачынае Дубавец здалёку, і ў гэтым "далёку" чуецца водгульле дыскусій у асяродзьдзі літоўскай інтэлігенцыі часоў "Саюдзісу". Яшчэ ў "Дзёньніку" аўтар хінецца да думкі, што нацыянальная нясьпеласьць беларусаў тлумачыцца ня ўнутранымі прычынамі, а вонкавымі, у прыватнасьці, несупыннымі чужынскімі акупацыямі.

На думку Дубаўца, калі прызнаём францускую або нямецкую акупацыю Беларусі, трэба прызнаваць і расійскую, бо яны валодаюць аднолькавым *“шэрагам тыпалягічных прыкметаў”*. Гэты тэзыс будзе разьвіты ў “Русской книге” ў духу “этнічнага нацыяналізму”, згодна зь якім адказнасьць за цяжкасьці этнічных супольнасьцяў з выбудовай мадэрнай нацыі кладзецца на зламысны чужаземны элемэнт.

Не прапаноўваючы свайго тэарэтычнага асэнсаваньня расійскай калянізацыі Беларусі, Дубавец, тым ня менш, стварае ўласную тыпалёгію расійскага апанаваньня Беларусі. Ударнай сілай расійскай пятай калёны ў Беларусі выступаюць расійскія вайсковыя пэнсіянэры, якія прышчапляюць грамадзтву ня толькі сацыяльна дэфэктыўныя вартасьці, але і ўкараняюць лад жыцьця, непрымальны з гледзішча нацыянальнага сьветапогляду. (*“Кто-то из современников назвал Беларусь “страной отставников”. Это правда. Ведь до последнего времени офицеры советской армии, уходя в отставку и выбирая себе место жительства, отдавали нашему краю абсолютное предпочтение”.*) Іх бязьбеднае існаваньне ў Беларусі, сваёй чаргой, робіцца магчымым дзеля надзейнага тылу ў выглядзе былой савецкай вайсковай інфраструктуры. (*“Кстати, о военных городках. Некоторые считают, что именно из этих лепрозориев расползлась по нашей земле проказа пренебрежения к крестьянскому труду, а заодно и ко всему белорусскому”.*) Падступныя расійцы, каб дасягнуць стратэгічнага кантролю над краінай, не абмежаваліся патураньнем сваім вайсковым пэнсіянэрам і пабудовай вайсковых гарадкоў, а апанавалі дзяржаўны апарат. (*“200 лет мы, белорусы, с ними живем, под ними обретаемся, от них терпим. Нашествие этих чиновников “из центральных губерний” началось в прошлом* (у XIX — **Аўт.**) *столетии. Тогда десятки тысяч администраторов хлынули на захваченные земли, чтобы возглавить тут новые военные и цивильные*

*учреждения, школы и церкви”.*) Апошняя хваля расійскага пранікненьня ў Беларусь і выпхнула на палітычны алімп А. Лукашэнку. (*“Последней волной такого приезда из России и отмечен период правления Лукашенко”.*)

Этнічны нацыяналізм Дубаўца ўступае ў супярэчнасьць з афіцыйнай ідэалёгіяй лукашэнкаўскага рэжыму, але і канфрантуе з ідэалёгіямі нацыянальных дзяржаваў эўрапейскага Захаду, напрыклад, Францыі. Апошняя будавалася шляхам пераадоленьня этнічных сэпаратызмаў і сьціраньня рэгіянальных адметнасьцяў. Статус законапаслухмянага грамадзяніна нацыянальнай дзяржавы даваў значна большы сацыяльны аванс, чымся статус прадстаўніка лякальнай супольнасьці або пэрыфэрыйнай этнічнай групы, таму ўжо ў XIX ст. у Францыі масава адміраюць рэгіянальныя мовы і культуры.

Бадай, Беларусь ня будзе выняткам з гэтага эўрапейскага правіла. Пры пабудове ў краіне нацыянальнай дзяржавы палітычным элітам *volens nolens* давядзецца стварыць варункі для хуткай і бязбольнай інтэграцыі ў нацыю ўсіх этнічных групаў, якія жывуць у нас. І чым хутчэй і лягчэй адбудзецца асыміляцыя этнічных расійцаў, найбольшай этнічнай меншыні, тым будзе лепей для супольнай нацыянальнай справы. Але для гэтага трэба мець прынамсі разьвітую, “канкурэнтаздольную” нацыянальную культуру і цьвёрдую палітычную волю.

Заўважым у дыскусійным парадку, што побыт у фармальна фэдэрацыйнай дзяржаве, Савецкім Саюзе, даваў беларусам пэўныя магчымасьці для захаваньня нацыянальнай культуры — іншая рэч, што нацыя не карысталася імі ў поўным аб’ёме, як тыя ж прыбалты. Калі ж уявіць, што пасьля Другой сусьветнай вайны Беларусь цалкам увайшла б у склад Польшчы, нармальнай, г.зн. унітарнай нацыянальнай

дзяржавы, ніякай бы беларускай незалежнасьці мы не дачакалі, бо польская дзяржаўная машына куды больш эфэктыўна працавала на асыміляцыю этнічных меншыняў.

Зрэшты, “этнічны нацыяналізм” Дубаўца ўзьнік не на голым месцы, а быў нацыяналістычным адказам на выклік, кінуты лукашэнкаўскім рэжымам незалежнаму беларускаму грамадзтву, выклік, які палягаў у аднаўленьні былой каляніяльнай практыкіператварэньня беларусаў у моўную і культурную меншыню ў краіне, у якой яны фармальна зьяўляюцца тытульнай нацыяй. Выразная перавага нацыянальных крыўдаў і фрустрацый над палітычным прагматызмам і фармальнай паліткарэктнасьцю тут сьведчыць перадусім пра тое, наколькі сьвежыя і глыбокія былі яшчэ раны. Але зь цягам часу яны загояцца, і ў 2002 г. Сяргей Дубавец будзе заклікаць да асьцярожнага супрацоўніцтва з лукашэнкаўцамі ў справе абароны беларускай незалежнасьці.

Абвінавачаньне тутэйшых расійцаў у нацыянальнай катастрофе беларусаў не дае поўнага адказу на пытаньне, як і чаму ў першай дэкадзе постсавецкай Беларусі нацыяналістычная ідэалёгія аказалася ня ў стане канкураваць з сваёй савецкай інтэрнацыянацыялістычнай адпаведніцай. Прыклад Украіны, дзе расійская этнічная меншыня складае да 25% ад усёй папуляцыі, але вонкавая палітыка якой значна больш антырасійская, пераканаўча сьведчыць, што такая інтэрпрэтацыйная мадэль мае больш супольнага з выдумкай, чымся з праўдай. У нявыра бленасьці і непрывабнасьці нацыянальнай ідэалёгіі вінаватыя перадусім нацыянальныя ідэолягі, а не ананімныя “жыхары вайсковых гарадкоў” і шкадлівыя “вайсковыя пэнсіянэры”. І наагул, палітыку робяць ня масы (хай сабе этнічна чужыя), а колькасна нешматлікая палітычная кляса, што ў сваіх палітычных паводзінах кіруецца бягучай палітычнай

рацыянальнасьцю, якая недвухсэнсоўна санкцыянуе адно (напрыклад, зьнішчэньне беларускамоўнага школьніцтва) і забараняе іншае (антырасійскую гістэрыю ў дзяржаўных мэдыях, да нядаўняга часу).

Нягледзячы на свой этнічны антырасійскі нацыяналізм, Дубавец карыстаецца надзіва русіфікаваным тэрміналягічным апаратам. Расійцы не ўспрымаюць уведзенага заходняй нацыялёгіяй разьмежаваньня этнасу/народу як групы, якая ўва ўмовах капіталістычнай гаспадаркі і адпаведных ёй формаў міжасабовай камунікацыі самаакрэсьліваецца пры дапамозе супольнай мовы, культуры, узвычаеньняў і тэрыторыі пражываньня, і нацыі як рукатворнай, створанай элітамі культурна-палітычнай супольнасьці, чальцоўства ў якой легітымізуецца стандартызаванай мовай і ўніфікаванай культурай, вырабамі ўсё тых жа элітаў, і не прадугледжвае адзінага этнічнага паходжаньня. Напрыклад, сярод чыньнікаў, якія ствараюць *“нацыянальную спэцыфіку прадстаўніка кожнай нацыі”*, Дубавец цалкам у рэчышчы расійскай традыцыі называе *“кроў (генэтычную памяць), прыроду, клімат, традыцыі”*. Відаць, усё тыя ж расійскія гісторыкі культуры, пачынаючы зь Мікалая Данілеўскага, прышчапілі Дубаўцу разуменьне нацыянальнага шляху як *“свайго тыпу цывілізацыі”*. *“Немцы, итальянцы, шведы на основе собственных культур создали свои типы цивилизации — немецкий, итальянский, шведский”*, — піша Дубавец, і нам няма нічога да гэтага дадаць.

У шматмоўнай і шматкультурнай Беларусі Дубаўцова пропаведзь этнічнага нацыяналізму не дала яму надзейных пасьлядоўнікаў, здольных да сыстэматычнага выкладу свайго ідэйнага крэда. Гэтага, аднак, нельга сказаць пра ўжо апісаную нацыяналістычную стратэгію гераізацыі нацыянальнай мінуўшчыны, якая на зломе стагодзьдзяў была вернутая да жыцьця.

## 5

Брашура маладога гісторыка Сяргея Ярша, прысьвечаная ваяку Ўсеваладу Родзьку, пабачыла сьвет у афіцыйна не зарэгістраваным выдавецтве “Голас Краю”, якое саматужна вырабляе кніжную прадукцыю нацыяналістычнага зьместу. Толькі за апошнія паўгоду ў ім выйшлі брашуркі “Нацыянальнае пакліканьне”, “Нацыяналізм у сьвеце. Мінулае, сучаснасьць, пэрспэктывы”, “Песьні краю. Сьпеўнік” і, нарэшце, нарыс нейкага Яна Каваля “Генэрал вызвольнага фронту”, прысьвечаны Родзькаваму паплечніку Дзімітру Касмовічу. Усе гэтыя выданьні друкуюцца на офіснай друкарцы і распаўсюджваюцца ў вузкім асяродзьдзі. Якісь сур’язьнейшы дасьледнік ня ўзяўся б іх разглядаць зусім: нашто ж калупацца ў дылентанцтве і аматаршчыне? Нас жа яны зацікавілі тым, што па-свойму адбіваюць ідэйную эвалюцыю беларускага нацыяналізму ў сучасных умовах.

“Усевалад Родзька. Правадыр беларускіх нацыяналістаў” — гэта ня першая буйная публікацыя Сяргея Ярша. У 1998 г. ён выдаў кнігу “Вяртаньне БНП”, дзе асьвятлялася дзейнасьць падпольнай Беларускай незалежніцкай партыі часоў Другой сусьветнай вайны, “правадыром” якой быў усё той жа Ўсевалад Родзька. Прысьвечаны яму нарыс заснаваны фактычна на ранейшых фактах і дакумэнтах, але вылучаецца хіба вастрэйшымі ацэнкамі асобы і дзейнасьці гэтага “правадыра”. Хто ж такі Ўсевалад Родзька? Ня хто іншы, як яшчэ адзін узор чалавека-калябаранта.

Усевалад Родзька нарадзіўся ў 1920 г. (Ёрш не падае дакладнай даты) у вёсцы Чучэвічы на Лунінеччыне. Вучыўся ў польскай гімназіі імя А. Міцкевіча ў Наваградку. Падчас польска-нямецкай вайны 1939 г. трапіў у нямецкі палон, здолеў зацікавіць сабой нямецкае камандаваньне, якое прызначыла яго кіраўніком філіі варшаўскага Беларускага камітэту

ў Кракаве. Пасьля акупацыі Нямеччынай Беларусі працуе бургамістрам Віцебску, у мэтах, як піша Ёрш, *“беларусізацыі горада... супрацоўнічае з абвэрам (нямецкай вайсковай выведкай і контрвыведкай)”*. У студзені 1944 г. немцы кааптуюць Родзьку ў прэзыдыюм Беларускай цэнтральнай рады. Пасьля ўцёкаў зь Беларусі ўлетку 1944-га Родзька апынаецца ўва Ўсходняй Прусіі, дзе стварае *“спэцыяльны дэсантны батальён “Дальвіц”*, які рыхтаваў дывэрсантаў і самалётамі закідваў іх у Беларусь. Заканчэньне вайны батальён “Дальвіц” разам з Родзькам сустракае ў Чэхіі, дзе яго бясслаўна раззбройваюць чэскія партызаны. Далей будуць арышт Родзькі ў Беластоку, дзе ён жыве пад імем Яна Ермаловіча, сьледзтва, падчас якога Родзька, баючыся за сваё жыцьцё, *“заламаўся”* і выдаў сваіх супольнікаў, суд і, нарэшце, пакараньне сьмерцю.

Для Сяргея Ярша Ўсевалад Родзька — нацыянальны герой, і да гэтай высновы ён не падводзіць чытача ў заключных радках сваёй брашуры, а сьцьвярджае гэта адразу амаль зь дзіцячай непасрэднасьцю. Нават кампазыцыйна яго брашура складаецца зь дзьвюх частак — “Шлях героя” і “Дадатак”.

Каб давесьці Родзькаў гераізм, Ёрш ня грэбуе ніякімі сродкамі. Найбольш ахвотна для “распрацоўкі і ўкараненьня свайго нацыянальнага героя” ён сягае да абмежаванай толькі рамкамі сваёй фантазіі мітатворчасьці. Як і ў выпадку Янкі Філістовіча, геройскі чын Родзькі апісваецца ў мэтафарычных тэрмінах — *“няспынна змагаўся за вызваленьне бацькаўшчыны”*, *“энэргічна арганізоўваў беларускія вайсковыя адзінкі”*, *“чыніў супраціў польскаму ўплыву ў Беларусі”*, — за якімі ў найлепшым выпадку стаяць элемэнтарныя нацяжкі, у найгоршым — сьвядомае перакручваньне і фальшаваньне гістарычных фактаў. Ёрш бяз жадных згрызотаў сумленьня гаворыць пра анэкдатычную падрыхтоўку антынямецкага паўстаньня Родзькам

у чэрвені 1944-га з мэтай абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі (паўстаньне сарвалася таму, што немцы не далі вагонаў, а палякі пастралялі яго будучых удзельнікаў).

Брашура мае больш супольнага з казкамі для малодшага і сярэдняга школьнага веку, чымся з гістарычнай навукай. Эфэкт гераізацыі нацыянальнай мінуўшчыны дасягаецца коштам прымітывізацыі, крайне спрошчанага і адначасна тэндэнцыйнага трактаваньня адвольна ўзятых гістарычных падзеяў. У дадатак да ўсяго, аўтар сьвядома адмаўляецца ад навуковай мэтадалёгіі, кладучы ў аснову свайго нарысу не гістарычныя факты, а вусныя аповеды неназваных наратараў.

Зрэшты, усё гэта — лягічны працяг стратэгіі “нацыяналістычнай гераізацыі”, якая ўнікае рацыянальнай пазыцыі ў дачыненьні да мінуўшчыны і сучаснасьці. Як і ў розныя рэлігійныя дактрыны, у такую карціну нацыянальнай гісторыі належыцца верыць, перажываючы хвалявальны эмацыйны ўздым. Каб нэафіт адчуў непаўторны водар гісторыі, Ёрш насычае матэрыю свайго тэксту тэрміналёгіяй, наўпрост запазычанай зь беларускіх калябарацыйных выданьняў часоў апошняй вайны. *“Бальшавіцкія акупанты”* тут суседнічаюць з *“сваімі Героямі і Абаронцамі”*, *“бальшавіцкія банды”* — з *“акупанцкім прыгнётам”* і *“нацыянальнымі правадырамі”*. Праўда, за таталітарнай тэрміналёгіяй прыходзіць чарод і таталітарнай манеры мысьленьня, якое не схаваеш за прызнаньнямі любові да Бацькаўшчыны. *“У школе абвэра*, — піша малады гісторык у 2001 г., — *беларускія нацыяналісты праходзілі дывэрсійную падрыхтоўку, каб пасьля вярнуцца на Бацькаўшчыну й змагацца за вольную Беларусь”*.

Такім чынам, стратэгія вырабу і шырокай дыстрыбуцыі нацыянальных герояў пайшла ў народ, а значыцца,

сталася больш вульгарнаю і менш вытанчанаю. Іншай яна і не магла быць — каб зрабіцца масавай, то бок каб прадукавацца не адным асобна ўзятым нацыянальным ідэолягам, а фактычна любым носьбітам нацыянальнай сьвядомасьці з гуманітарнай адукацыяй, яе прыхільнікам давялося адмовіцца ад хоць нейкай навукападобнасьці, цалкам сьвядома зрабіўшы стаўку на ўкараненьне новых вераньняў сярод тутэйшых тубыльцаў.

Засмучае адно: захапіўшыся адраджэньнем нацыянальных герояў, нашы маладыя ды верныя сыны Бацькаўшчыны самі не заўважылі, якую неацэнную паслугу зрабілі лукашэнкаўскай прапагандзе. Лукашэнкаўскія, а да іх савецкія ідэолягі і прапагандысты з ног зьбіваліся, каб убіць у масавую сьвядомасьць беларусаў знак роўнасьці паміж паняцьцем “беларускі нацыяналіст” і “фашысцкі паслугач-калябарант”. І, трэба сказаць, небеспасьпяхова, — нарэшце гэтую ўстаноўку засвоіла і новая хваля беларускіх адраджэнцаў.

Гэта, між іншым, відаць зь іншай “краёўскай” брашуры “Беларускі нацыяналізм. Даведнік”, укладальнік якой схаваўся пад псэўданім “Пятро Казак”. Як і мае быць, галоўнымі беларускімі нацыяналістамі ў ёй выстаўленыя ўсё тыя ж дзеячы, якія супрацоўнічалі зь немцамі падчас апошняй нямецкай акупацыі. За годнасьць нацыянальных абуджальнікаў у ёй спаборнічаюць не культурныя дзеячы, якія і прыдумалі саму “беларускую нацыю”, акрэсьліўшы прыкладны сэнсавы зьмест “беларускай ідэі”, а адыёзныя Фабіян Акінчыц з Уладзіславам Казлоўскім, Міхась Ганько з “генэралам” Міхалам Вітушкам (які, паводле словаў укладальніка, здолеў арганізаваць партызанскі аддзел “Чорны Кот”, *“праводзіў акцыі на чыгунцы, узрываючы або захопліваючы цягнікі, рабіў напады на савецкія склады й гарнізоны, на вёскі, мястэчкі й гарады, вызваляў вязьняў з турмаў і канцлягераў”*), Дзімітры

Касмовіч з загадкавым атаманам Дзяргачом і, нарэшце, усё той жа Ўсевалад Родзька з батальёнам “Дальвіц”, які, як сказана ў брашуры, *“адыграў выключную ролю ў падрыхтоўцы каманднага складу для беларускага партызанскага руху. Ягоныя дэсантнікі здолелі часткова аб’яднаць стыхійную партызанку й аформіць яе ў арганізацыйныя рамкі”*.

Біяграфічным нататкам пра гэтых і іншых дзеячоў, сярод якіх зрэдзьчас трапляюцца сапраўды годныя людзі, накшталт Яна Станкевіча або Кастуся Каліноўскага, папярэднічае азначэньне “беларускага нацыяналізму”:

*Беларускі нацыяналізм — гэта вызвольны, аб’яднаўчы грамадзка-палітычны рух, які на аснове яднаньня ў суцэльны фронт усіх паборнікаў дзяржаўнай самастойнасьці мабілізуе найшырэйшыя народныя масы да барацьбы за волю народа й чалавека, за нацыянальную, палітычную ды сацыяльную справядлівасьць, за аднаўленьне на беларускіх этнічных землях Беларускай Незалежнай Нацыянальнай Дзяржавы — адзінага гаранта існаваньня й працьвітаньня нацыі.*

Кожная складовая частка гэтага азначэньня дэмаскуе таталітарна-мэтафарычны склад мысьленьня яго складальніка. На беларускіх этнічных землях ніколі не існавала Беларускай Незалежнай Нацыянальнай Дзяржавы — хаця б таму, што мадэрная беларуская нацыя дагэтуль перабывае ў працэсе фармаваньня, дзеля чаго гаварыць пра аднаўленьне гэтай дзяржавы можа толькі самаўпэўнены вар’ят. У сваю чаргу, Незалежная Нацыянальная Дзяржава ня ёсьць і ніколі не была адзінай зарукай працьвітаньня нацыі — пра гэта вымоўна сьведчыць досьвед нацысцкай Нямеччыны або камуністычнай Альбаніі. Нельга пра беларускі нацыяналізм у яго дагэтулешніх рэдакцыях гаварыць і як пра аб’яднаўчы грамадзка-палітычны рух,

паколькі ён заўсёды дамагаўся асаблівых культурных і іншых правоў для беларусаў, што зазвычай выклікала хваравітую рэакцыю з боку іншанацыянальных элітаў, асымілятарскія і імпэрскія амбіцыі якіх задавальняла толькі такое становішча, пры якім беларусы заставаліся па сутнасьці этнічнай групай зь немадэрнізаванай, сацыяльна непрэстыжнай культурай. Не вычэрпваецца любы эўрапейскі нацыяналізм толькі адстойваньнем дзяржаўнай самастойнасьці, наадварот, пасьля яе дасягненьня ён часта з канструктыўнага культурнага ператвараецца ў дэструктыўны грамадзкі рух.
Да таго ж, у Беларусі “пабornікамі дзяржаўнай самастойнасьці” ўжо цяпер выступаюць усе лукашэнкаўцы пагалоўна, якіх ніяк не западозрыш у беларускім нацыяналізьме ў яго клясычнай рэдакцыі. І нарэшце, нацыяналізм ня мае ніякага дачыненьня да *“мабілізацыі найшырэйшых народных масаў да барацьбы за волю народа й чалавека, за нацыянальную, палітычную ды сацыяльную справядлівасьць”*. Эўрапейская і сусьветная гісторыя поўняцца бясконцымі прыкладамі таго, як у імя абстрактнай нацыі зьнішчаліся цэлыя народы і масава парушаліся правы чалавека.
Узяць бы сёньняшнюю Беларусь, у якой у імя захаваньня нацыянальнага міру і спакою, а фактычна дзеля забесьпячэньня дамінантнага становішча расійскамоўных рэгулярна парушаюцца правы беларускамоўнай лінгвістычнай або польскай нацыянальнай меншыні. Што ж да *“нацыянальнай і палітычнай справядлівасьці”*, то нацыяналістычныя эліты ўва ўсім сьвеце грашаць ірэдэнтысцкімі прэтэнзіямі, то бок дамагаюцца пашырыць сваю палітычную юрысдыкцыю на носьбітаў дадзенай нацыянальнасьці, якія пражываюць у сумежных краінах. Лёзунгі ж *“барацьбы за волю народу і чалавека”* і *“ўстанаўленьня нацыянальнай, палітычнай і сацыяльнай справядлівасьці”*, як паказвае эўрапейская гісторыя XX ст., характэрныя больш для сацыялістычных і марксісцкіх дактрынаў,

адкуль, відаць, і былі запазычаныя эфэмэрычным “Пятром Казаком”.

Трэба сказаць, што маладзейшыя гісторыкі не засталіся самотнымі ў сваёй спробе абяліць і ўзьвесьці на нацыянальны пантэон колішніх калябарантаў. Пасільную дапамогу ў гэтай справе ім аказваюць іх старэйшыя калегі. У першым сёлетнім нумары часопісу “Спадчына” ў рубрыцы “Памяць мінулае вайны” апублікаваны артыкул гісторыка Леаніда Лыча “Міжнацыянальныя дачыненні ва ўмовах нацысцкай акупацыі”. Яго агульны сэнс зводзіцца да наступных тэзысаў: беларусы напярэдадні нацысцкай агрэсіі знаходзіліся ў стане нацыянальнай разьяднанасьці (яны падзяляліся на *“людзей свядомых”, “асобаў антыбальшавіцкай накіраванасці”* і *“тых, хто меў арыентацыю на Маскву”*) і таму з прыходам нямецкіх войскаў усе моцна захваляваліся, ці не зашкодзіць гэта нацыянальнаму жыцьцю. Але страхі аказаліся дарэмнымі, бо *“на здзіўленне не толькі песімістаў, але і аптымістаў, пашырэнню беларускай нацыянальнай ідэі акупацыйныя ўлады не пярэчылі”*. Пабачыўшы, што *“нацысцкая акупацыя не вяла да згортвання, забароны беларускай нацыянальнай духоўнай дзейнасці”*, яшчэ нядаўна разгубленымі беларусамі *“ўсцяж, дзе толькі былі для гэтага магчымасці, пачалася мэтанакіраваная ідэалагічная праца па прапагандзе беларускай нацыянальнай ідэі”*. Як канкрэтна вялася гэтая праца, Леанід Лыч не гаворыць, але шматлікія фашысцкія прапагандысцкія плякаты і ўлёткі, зьмешчаныя ў тым самым нумары “Спадчыны”, не пакідаюць найменшага сумневу ў яе асноўным кірунку. Далей аўтар акрэсьлівае рэальную пагрозу, якая тады навісла над нацыяй. Аказваецца, падчас Другой сусьветнай вайны беларусам найбольш пагражала не фізычнае вынішчэньне або масавыя дэпартацыі на прымусовыя работы ў Нямеччыну, а... германізацыя. У пацьверджаньне свае тэзы Леанід Лыч паважна гаворыць пра інтэлігентаў,

якія *“лічылі за гонар перакінуцца і некалькімі нямецкімі фразамі”*.

У адказ на гэты выклік беларуская інтэлігенцыя вырашыла згуртавацца і *“як праз вуснае, так і пісьмовае слова”* заклікаць народ да нацыянальнай кансалідацыі. Напрыклад, таму, што тагачасны рэдактар “Беларускай газэты” Ўладзіслаў Казлоўскі цалкам у духу расісцкай дактрыны нямецкага нацызму выступаў супраць мяшаных шлюбаў, аказваецца, можна даць тлумачэньне ў нацыянальным духу: *“...лёгка зразумець, чаго яму хацелася дасягнуць ад гэтага: узрастання ролі сем’яў у фармаванні нацыянальнай сведамасці беларускае моладзі”*. Увогуле, працягвае Леанід Лыч, *“асноўны акцэнт беларускія журналісты імкнуліся рабіць на выкрыццё злачынстваў бальшавізму”*, і ён пералічвае шэраг публікацыяў, у якіх антыбальшавіцкая прапаганда звычайна пераціналася з антыжыдоўскай і антыпольскай. Дарэчы, і сам аўтар схільны да разьдзьмухваньня беларуска-польскіх супярэчнасьцяў. На яго думку, якая мае шмат супольнага з этнічным нацыяналізмам, толькі гэтым разам антыпольскай скіраванасьці, палякі падчас вайны ставілі варожыя да беларусаў мэты, *“не збіраліся здаваць беларусам без бою адказныя пасады ў акупацыйных адміністрацыйных органах”*.

На заканчэньне публікацыі Леанід Лыч называе парамілітарнае калябарацыйнае фармаваньне “Беларуская Краёвая Абарона” беларускім войскам (якому, паводле прыведзенага ў артыкуле сьведчаньня ўжо вядомага нам Усевалада Родзькі, перашкаджалі зламысныя палякі) і на розны лад гаворыць пра *“этнічную і нацыянальную кансалідацыю беларускага народу”*, дасягнутую падчас нямецкай акупацыі дзякуючы самаахвярнай працы беларускіх калябарантаў.

Мэтадалягічна публікацыя Леаніда Лыча мала чым адрозьніваецца ад безьлічы працаў савецкіх беларускіх гісторыкаў пра падзеі апошняе вайны ў Беларусі. Як і ў яго савецкіх папярэднікаў, у Лыча вельмі шмат ідэалёгіі і параўнальна мала ўласна гістарычнага аналізу. Дзеля гэтага ён вымушаны задавальняцца чыста фармальнай пераацэнкай грамадзка-палітычнага і нацыянальна-культурнага значэньня тых ці іншых гістарычных постацяў. Самі падыходы сутнасна не зьмяняюцца: як раней савецкія партызаны і падпольшчыкі ўсяляк набліжалі перамогу над гітлераўскай Нямеччынай, так цяпер колішнія калябаранты з усіх сілаў дбаюць пра адраджэньне Бацькаўшчыны, спрыяюць пашырэньню беларускай ідэі ў шырокіх народных масах. Як раней савецкія гісторыкі замоўчвалі з тых ці іншых прычынаў нязручныя падзеі мінуўшчыны, так і цяпер па-за рамкамі дасьледаваньня апынаюцца істотныя праблемныя аспэкты разгляданае тэмы. У артыкуле ня знойдзеш адказу на пытаньне, чаму за часоў нямецкай акупацыі асноўным культурным дасягненьнем нацыі стала ператварэньне беларускай мовы ў мову гітлераўскай прапаганды або чаму немцы пярэчылі адкрыцьцю ўстановаў вышэйшае асьветы.

Нарысы аўтарства Сяргея Ярша або Леаніда Лыча маюць адну кідкую супольную рысу: дзякуючы сваёй вульгарна-нацыяналістычнай заангажаванасьці яны неўпрыцям для чытача навязваюць яму ўяўленьне пра “малы залаты век” беларускага адраджэньня, у дадзеным выпадку тры гады нямецкай акупацыі. Адзіная рэч, што такая нацыяналістычная ўтопія існуе толькі ў сьвеце ўявы і не вытрымлівае найменшага сутыкненьня з рэчаіснасьцю.

**6**

Праца Рышарда Радзіка “Паміж этнічнай групай і нацыянальнай супольнасьцю. Беларусы на фоне нацыянальных ператварэньняў у Сярэдне-Ўсходняй

Эўропе XIX стагодзьдзя” асноваcяжна розьніцца ад усіх вышэй памянёных публікацыяў найперш тым, што ўяўляе сабой позірк звонку на пытаньне нацыянальнага станаўленьня беларусаў, кінуты прафэсійна кампэтэнтным навукоўцам. Іншымі словамі, гэта навуковая кніга, а не публіцыстычная, эсэістычная або мастацкая літаратура. Жанр гуманітарнага дасьледаваньня абумовіў большую аб’ектыўнасьць польскага дасьледніка. У адрозьненьне ад беларускіх аўтараў (бэлетрыстаў, публіцыстаў або маладых гісторыкаў), якія ў сваіх творах намагаліся не адрэфлексаваць паняцьце беларускага нацыяналізму, а прышчапіць яго ў сваёй пэўнай іпастасі (этнічнага, моўнага або эсхаталягічнага, а ля Арлоў, нацыяналізму) нацыянальна несьвядомым масам, а таму напару зьбіваліся да самага прымітыўнага нацыяналістычнага мітабудаваньня, Рышард Радзік ніяк не заангажаваны ў беларускі нацыянальны рух. Сам гэты рух, асабліва яго пачаткі ў XIX ст., цікавіць навукоўца выключна як прадмет строга навуковага дасьледаваньня, безуважнага да якіх-любя сантымэнтаў.

Праца ўяўляе сабой першы сыстэматычны выклад перадгісторыі беларускага нацыяналізму XIX ст. з пазыцыі гістарычнай сацыялёгіі (часам вельмі набліжанай да культурнай антрапалёгіі) і ня мае сваіх папярэднікаў у польскай гуманітарнай навуцы. У прадмове аўтар не бяз прыкрасьці канстатуе, што *“веды пра гісторыю і культуру беларускага грамадзтва ў Польшчы ледзьве не сымбалічныя”*, а *“ў СССР ажыцьцяўленьне якасных навуковых дасьледаваньняў, прысьвечаных фармаваньню беларускай нацыянальнай адметнасьці, было немагчымым як з палітычных, так і з ідэалягічных прычынаў”*. На думку аўтара, становішча істотна не зьмянілася і ў апошнія гады, *“працаў, прысьвечаных нацыянальнай праблематыцы, вельмі мала”*, дзеля чаго *“ў беларускай навуковай літаратуры*

*беларускія нацыянальныя інтэнцыі досыць свабодна прыпісваюцца людзям, якія ня маюць нічога супольнага з мысьленьнем у гэтых катэгорыях”*.

Пераходзячы да ўласна беларускага нацыяналізму, Радзік канстатуе, што як рух ён разьвіўся ў XX ст. і быў адным з самых позьніх і найбольш слабых нацыяналізмаў у Эўропе. Передумовы ж яго ўзьнікненьня ён бачыць у XIX ст., хаця толькі гэтым матэрыялам кніга не вычэрпваецца. Яе адкрывае разьдзел *“Паміж этнічным грамадзтвам і нацыянальнай супольнасьцю”*, у якім на падставе распрацовак малавядомых у Беларусі польскіх сацыёлягаў і гісторыкаў (Флярыяна Знанэцкага, Станіслава Асоўскага, Яна Абрэмскага і г. д.), прапаноўваецца навукова карэктнае азначэньне этнасу/народу і нацыі. Першы характарызуе звычаёвая лучнасьць (więź nawykowa), другую — ідэалягічная (więź ideologiczna). Гэтую ідэалягічную лучнасьць, якая паўстае сярод індывідаў дзякуючы ўкарэненай у іх сьвядомасьці супольнай *“ідэалягічнай айчыны”*, Радзік зусім у духу Бэнэдыкта Андэрсана трактуе як уяўленую супольнасьць, зь якой і самаатаясамляецца канкрэтны індывід.

Другі разьдзел Радзікавай кнігі мае назоў *“Фармаваньне нацыяў у Сярэдне-Ўсходняй Эўропе”*. У ім прасочваецца інтэлектуальная гісторыя паняцьця “нацыя” ад антычнасьці і да часоў падзелаў Рэчы Паспалітай. Шмат месца Радзік адводзіць разгляду катэгорыі “этнічнасьці”, асабліва ў сувязі з аналізам архаічнай візіі паняцьця “нацыя”, пашыранага за часоў існаваньня Рэчы Паспалітай. Ход разважаньняў Радзіка прыкладна такі: у дамадэрных грамадзтвах сацыяльная ідэнтыфікацыя важыла больш за нацыянальную ідэнтыфікацыю індывіда. На працягу апошніх стагодзьдзяў зьмянілася не намэнклятура паказьнікаў, на аснове якіх адбываецца самаідэнтыфікацыя індывіда (мова, пол, канфэсія, сям’я, прафэсія і г.д.),

а адносная важнасьць гэтых паказьнікаў, у прыватнасьці, значна ўзрасла роля этнічнасьці пры індывідуальнай ідэнтыфікацыі.

Трэці разьдзел кнігі, *“Нацыянальная эвалюцыя польскай супольнасьці ў Беларусі (пад ціскам расійшчыны)”,* — найбольш цяжкі для разуменьня беларускаму чытачу, паколькі ён цалкам заснаваны на польскім культурным досьведзе. Прыблізны сэнс Радзікавых разважаньняў такі: стваральнікі (Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч і г.д.) мадэрнага беларускага нацыяналізму, які да канца XIX ст. вылучаўся перадусім сваім культурным характарам, мелі шляхецкае паходжаньне і каталіцкае веравызнаньне. Дзеля гэтага, на думку аўтара, яны былі членамі польскай палітычнай нацыі, якую ён разумее ў надэтнічных катэгорыях. Падчас навалы расійскага імпэрыялізму ў XIX ст. гэтыя палітычныя палякі зь беларускім этнічным паходжаньнем знайшлі ў сабе змогу выпрацаваць свой трэці шлях — шлях беларускага нацыяналізму. Радзік пры гэтым надта не заглыбляецца ў пытаньне ідэйнай эвалюцыі польскага нацыяналізму канца XVIII — XIX стст. Але, калі згадзіцца з вышэй пададзенай тэзай пра вызначальны ўплыў польскага нацыяналізму на ўзьніклы ў XIX ст. беларускі, яно набывае вельмі важны характар.

На момант свайго краху Рэч Паспалітая была *“аддаленай культурнай правінцыяй рамана-германскай Эўропы”*( Роман Шпарлюк. Націоналізм після комунізму: Росія, Украіна, Білорусь та Польща // Імперія та націі з історичного досвиду Украіни, Росіі, Польщи та Білорусі. Київ, 2000. С.) і таму нацыяй у гэтай дзяржаве сябе ўсьведамлялі кіраўнічыя эліты, якія мелі пэўныя адміністрацыйныя, інстытуцыйныя і іншыя магчымасьці для запачаткаваньня нацыянальнага праекту. Ува ўмовах безьдзяржаўнасьці іх ня стала, але іх функцыянальную ролю перанялі польскія літаратурныя колы, перадусім так званыя

“польскія рамантыкі”, якія далі моцны імпульс нацыятворчаму працэсу. Іх сьветапогляд быў у значнай меры інсьпіраваны апалёгіяй роднай старонкі, паэтыкай барацьбы дабра са злом, ідэалам вызваленчага змаганьня супраць захопнікаў. Рамантычная эстэтыка прымусіла іх інакш зірнуць на ранейшыя стасункі паміж панскім дваром і сялянскай хатай. На месца ранейшага адчужэньня, пачуцьця дыстанцыі паміж прадстаўнікамі розных сацыяльных слаёў прыходзіць замілаваньне чалавекам працы і яго непаўторным культурным асяродзьдзем — фальклёрам, індывідуальнай мовай, патрыярхальным ладам жыцьця. У польскіх рамантыкаў вобраз прадстаўніка патрыярхальнай культуры перастае асэнсоўвацца пры дапамозе “нізавога” сьмехавога дыскурсу і зазнае нават пэўную ідэалізацыю як носьбіта сацыяльна значных маральных вартасьцяў і этычных ідэалаў. Гэта рыхтавала “змычку” паміж сацыяльнымі вярхамі і *“людзьмі подлымі”*, спрыяла ўцягваньню ў працэс нацыятварэньня шырэйшых сацыяльных масаў. Характэрна, што пры гэтым нікога асабліва не цікавіла этнічнае паходжаньне гэтых масаў — у аснову была пакладзена супольная культурная тоеснасьць.

Шмат зрабіў для трансфармацыі паняцьця нацыі ў польскім інтэлектуальным кантэксьце Адам Міцкевіч: пропаведзьдзю любові да сваёй малой радзімы “Літвы” ён на эмацыйным узроўні спрыяў таму, каб гістарычныя ліцьвіны (насельнікі Цэнтральнай і Заходняй Беларусі і сучаснай Літвы ў цяперашнім разуменьні) адчулі “адзінства лёсу” з гістарычнымі палякамі. Для ўзмацненьня прыцягальнасьці новай польскай нацыянальнай супольнасьці польскія рамантыкі прапагандавалі ідэю надзвычайнай цывілізацыйнай місіі Польшчы, яе мэсіянскае пакліканьне. Некаторыя дасьледнікі нават прыпісваюць Адаму Міцкевічу новае паняцьце — “мэсіянізм”, якое асабліва рэльефна выявілася ў адным зь першых

паэтавых твораў эміграцыйнага пэрыяду — “Кнігах народу польскага і польскага пілігрымства”. Для польскага нацыяналіста XIX ст. вера ўва ўваскрашэньне Хрыста натуральным чынам спалучалася зь верай ува ўваскрашэньне Польшчы. Таму ўсё, што спрыяе адраджэньню бацькаўшчыны, мае пазытыўную маральную вартасьць. Міцкевіч быў перакананы, што паколькі на зьмену *“міталягічным эпохам”* (дахрысьціянскай і хрысьціянскай) ідзе новая, калі галоўнай дзейнай асобай стане нацыя, то якраз Польшча, названая ім у першай лекцыі з цыклу прачытаных у 1840–1844 гг. у парыскім College de France *“Капэрнікам новай маралі”*, закладае такім *“нацыяцэнтрычным”* маральным кодэксам падваліны новай цывілізацыі.

Такім чынам, пашыранае ў першай палове XIX ст. сярод польскіх элітаў паняцьце нацыі ня мела ярка выражанай этнічнай або моўнай дамінанты. Асновай для яднаньня станавілася дэмакратычная ідэалёгія адзінства культурных і гістарычных лёсаў былых насельнікаў Рэчы Паспалітай пры затушоўваньні яе герархічна-станавай прыроды. Адначасна культурнае адзінства прадугледжвала момант супольнай рэлігійнай тоеснасьці.

Далейшай рэакцыяй на “прабуксоўваньне” ў першыя дзесяцігодзьдзі XIX ст. ранейшай, “элітарнай” “рэдакцыі” польскага нацыянальнага праекту стала інтэлектуальнае крэда польскага рэвалюцыйнага дэмакратызму, якое пачало фармавацца ў 40-я гг. XIX ст. (яго ўплыў перажыў Францішак Багушэвіч). Адсталая сацыяльная структура польскага грамадзтва прывяла да таго, што паміж элітамі грамадзтва і народнымі масамі заставалася непераадольная дыстанцыя. У адрозьненьне ад эўрапейскага Захаду, тут так і не разьвіўся да канца трэці стан, не адбылося іншых, адбытых на Захадзе, значных сацыяльных трансфармацыяў. Таму пераадоленьне

гэтага адчужэньня паміж нацыянальнымі, часам разнароднага этнічнага паходжаньня, масамі і нацыянальнымі элітамі разумелася як пераадоленьне станавых разьмежаваньняў, паяднаньня другіх зь першымі (Р. Шпарлюк, напрыклад, параўноўвае польскіх сялянаў з рабамі ў сацыяльнай герархіі Паўночнай Амэрыкі). У польскіх рэвалюцыйных дэмакратаў "народ" становіцца прадметам узьвелічэньня і *"служэньня"*. Неўзабаве такая пазыцыя будзе асвоеная і беларускім культурным нацыяналістам Францішкам Багушэвічам.

Радзік прыводзіць надзвычай цікавае сьведчаньне таго, як яшчэ напярэдадні распаду Рэчы Паспалітай, у другой палавіне XVIII ст., сярод польскіх культурных элітаў пачынае пашырацца канцэпцыя палітычнай нацыі, падобная да заходнеэўрапейскай. Ён цытуе Францішка Язерскага, польскага "рэспубліканца", які даў наступную дэфініцыю: *"Нацыя — гэта супольнасьць людзей, якія маюць адну мову, норавы і ўзвычаеньні, зацьверджаныя адзіным і супольным для ўсіх грамадзянаў заканадаўствам"*.

Інтрыгуе і прыведзенае Радзікам выказваньне Тадэвуша Касьцюшкі, які ў нашай нацыянальнай гістарыяграфіі традыцыйна асэнсоўваецца як "правадыр беларускіх паўстанцаў".
Яшчэ ў 1789 г., падкрэсьліваючы важнае значэньне мовы для станаўленьня польскай нацыі і польскага нацыянальнага адзінства, Касьцюшка пісаў аб "русінах" (сёньняшніх беларусах і ўкраінцах): *"Прызвычайваць іх трэба да польскай мовы, хай у польскай мове ўсе іх набажэнствы будуць. З часам дух польскі ўвойдзе ў іх. Непрыяцелем абвясьціць таго потым трэба, хто б ня ведаў нацыянальнай мовы"*.

Трансфармацыю паняцьця "нацыі" сярод элітаў Рэчы Паспалітай часоў яе заняпаду Радзік падмацоўвае цытатамі з польскага сацыёляга Юзафа Шацкага

(*“Бяру на сябе рызыку сьцьвердзіць, што польскае Асьветніцтва наблізілася да разуменьня нацыі ня толькі ў прасторы, але і — калі карыстацца выразам Бёрка — як лучнасьці ў часе. Людзей зьвязвае ня толькі “айчына”, але і “нацыянальнасьць”, якая зьяўляецца іх супольнай гістарычнай спадчынай, а ня толькі зьбегам акалічнасьцяў, зь якімі трэба лічыцца заканадаўцу. Некаторыя аўтары, зрэшты, падкрэсьліваюць, што польскае Асьветніцтва было значна менш “касмапалітычным” за францускае”*) і Анджэя Валіцкага (*“Шляхецкая ідэя нацыі-сувэрэна лёгка паддавалася мабілізацыі: досыць было адкінуць атаясамленьне нацыі з шляхтай, каб уся рэшта шляхецкай рэспубліканскай ідэалёгіі станавілася сугучнай мадэрнаму рэспубліканізму”*).

Гэтаму разьдзелу дасьледаваньня польскага навукоўца падводзіць рысу думка вядомага дасьледніка нацыяналізму Ісаі Бэрліна аб тым, што пасьля разьдзелаў Рэчы Паспалітай ідэя нацыі, узятая на ўзбраеньне польскімі элітамі, выконвала свайго роду ролю *“групавой тэрапіі”*: *“Ідэя нацыі як найвышэйшага аўтарытэту, часам насычаная містычным або мэсіянскім духам, якая заступае Царкву, сувэрэна, вяршэнства права або іншыя крыніцы абсалютных вартасьцяў, загойвала траўмы калектыўнай сьвядомасьці, незалежна ад таго, хто іх прычыніў — чужы вораг, айчынныя капіталісты, імпэрыялістычныя эксплюататары або накінутая зьверху бяздушная бюракратыя”*.

Радзік асобна спыняецца на асаблівасьцях успрыняцьця паняцьця нацыі тагачаснымі расійскімі элітамі. Запачаткаваны ў Расіі ў першай палове XIX ст. працэс фармаваньня новай нацыянальнай ідэнтычнасьці моцна гамавалі традыцыі расійскай жа палітычнай культуры, якія мелі эўрапейска-азіяцкае паходжаньне, а таксама эканамічная адсталасьць краіны, дзе да рэформы 1861 г.,

зьдзейсьненай Аляксандрам II, існаваў прыгон — фактычна ўсходнеэўрапейская форма рабства. Аўтарытарна-азіяцкія палітычныя і эканамічныя традыцыі Расійскай імпэрыі ўваходзілі ў супярэчнасьць як з узьніклым у Францыі паняцьцем палітычнай нацыі (бо патрабавалася маштабная мадэрнізацыя сацыяльнага і эканамічнага жыцьця імпэрыі, ператварэньня падданых у грамадзянаў), так і з культываваным у Нямеччыне паняцьцем нацыі культурнай (бо сфэра пашырэньня высокай расійскай культуры была невялікая і абмяжоўвалася пераважна імпэрскімі адміністрацыйнымі асяродкамі).
Ува ўмовах адсутнасьці ці недастатковасьці палітычных, эканамічных, сацыяльных і культурных перадумоваў для выбудовы расійскай мадэрнай нацыі нацыяналістычна настроеныя расійскія эліты спрабавалі інтэлектуальна абгрунтаваць *“апрычоны”* характар разьвіцьця расійскага народу, які не ўкладаўся ў прыняты ў Эўропе інтэлектуальны дыскурс. Распрацоўвалася канцэпцыя *“особого российского пути”*, пры гэтым сам наратыў “особого пути”, як пераконліва даводзіць Ален Бэзансон, быў запазычаны ад нямецкіх рамантыкаў.

Радзік прыводзіць цытату з польскага гісторыка Маўрыцага Махнацкага, які ў выдадзенай яшчэ ў 30-х гг. XIX ст. кнізе “Powstanie narodu polskiego w roku 1830 i 1831” улавіў неадпаведнасьць паміж наднацыянальным характарам Расійскай імпэрыі і станам нацыянальнай самасьвядомасьці расійцаў: *“Масква, Прусія і Аўстрыя ў сёньняшняй Эўропе ўтвараюць вялізную сыстэму разнародных палітычных арганізмаў. Гэтыя дзяржавы, ня будучы грамадзкімі целамі, ня будучы народамі, існуючы толькі дзякуючы сіле сваіх урадаў, перастануць існаваць пасьля ўнутраных ці вонкавых узрушэньняў, якія зьменяць форму гэтых урадаў. Завядзі ў Маскве рэспубліку, увядзі ў Аўстрыі і Прусіі канстытуцыйную манархію, і гэтыя краіны адразу распадуцца на*

*часткі, зь якіх паўсталі... У Эўропе ёсьць іншыя дзяржавы, таксама моцныя, як і гэтыя тры агляматэраты, больш арганічныя, чымся яны, бо не складаюцца з разнародных частак або сьцёрлі гэтую разнароднасьць у сабе, як, напрыклад, Францыя і Англія. Не выпадае, напрыклад, гаварыць, што ёсьць* ***аўстрыйская нацыя****”*. З гэтага апісаньня Расія паўстае не як нацыянальная дзяржава, а як палітычная юрысдыкцыя сваіх шматнацыянальных падданых, няздольная эфэктыўна навязваць усім ім супольную, “уніфікаваную” форму нацыянальнае сьвядомасьці.

Увесь гэты эмпірычны матэрыял можна падсумаваць наступным чынам: на зломе XVIII і XIX стст. інтэнсіўныя працэсы нацыятварэньня разгарнуліся на Захадзе эўрапейскага кантынэнту, дзе ў розных гістарычных варунках узьніклі дзьве канцэпцыі нацыі — палітычнай нацыі, прыклад якой дала Францыя, і культурнай нацыі, якая разьвілася сьпярша ў раздробленай на 38 княстваў Нямеччыне. Важны досьвед пабудовы “культурнай” нацыі дае падзеленая паміж Расіяй, Аўстра-Вугоршчынай і Прусіяй Польшча. Нацыяналістычна настроеныя польскія нацыянальныя эліты, на якіх вялікі ўплыў аказаў прыклад Нямеччыны, дзе нацыяналізм давёў сваю здольнасьць эфэктыўна вырашаць палітычныя задачы, у прыватнасьці, аб’яднаць раздробленую на асобныя тэрыторыі нацыю ў супольную дзяржаву, фармулююць такую нацыянальную ідэалёгію, якая пасьля акажацца вельмі прыцягальнай для ўкраінскіх і беларускіх элітаў, свайго роду прыкладам для пераймaньня. Што да расійскіх інтэлектуальных элітаў, то бальшыня іх прадстаўнікоў вызнавала ўтапічныя погляды на прыроду нацыі, палічыўшы эканамічную адсталасьць Расійскай імпэрыі перадумовай яе асаблівага гістарычнага шляху і тым самым не прапанаваўшы вырашэньня нацыянальнай праблемы, якая ў краіне з кожным годам абвастралася. Іншымі словамі, трэба канстатаваць **залежнасьць** формаў нацыянальнай і сацыяльнай сьвядомасьці

“нерасійскіх” грамадзтваў эўрапейскай часткі Расійскай імпэрыі ад інтэлектуальных і сацыяльных працэсаў ува ўсёй Эўропе.

Чацьверты разьдзел кнігі, які мае досыць дзіўны загаловак — *“Lud”* (што на беларускую мову можна перакласьці ня толькі як “Народ”, але і як “Насельніцтва” або “Папуляцыя”), мае пераважна сацыялягічнае значэньне і прысьвечаны такім тэмам, як структура беларускага грамадзтва, а таксама працэсам яго палянізацыі і русіфікацыі, якія параўнальна няблага разгледжаныя ў адпаведнай беларускай навуковай літаратуры. Радзік таксама шмат гаворыць пра гістарычную і этнічную сьвядомасьць беларусаў XIX ст., іх стаўленьне да ўласнай мовы, разглядае рэлігійны фактар у кантэксьце фармаваньня мадэрнай беларускай нацыі.

Пяты і апошні разьдзел манаграфіі — *“Пратаганісты беларускасьці XIX стагодзьдзя”* — адзначаецца тым, што ў ім польскі дасьледнік пасьлядоўна выступае супраць прыпісваньня беларускай нацыянальнай сьвядомасьці Кастусю Каліноўскаму, Францішку Багушэвічу і Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу. *“Дарма што ў беларускай літаратуры Каліноўскі,* — піша Радзік, — *досыць катэгарычна прызнаецца беларускім нацыянальным дзеячом, творцам беларускасьці ў ейным палітычным вымеры, у яго творах цяжка дашукацца мадэрнай беларускай ідэалёгіі”*. Радзік указвае на тое, што ў творах Каліноўскага “нацыя” трактуецца як палітычная катэгорыя, а не культурная. Таму, на думку аўтара, Канстанцін Каліноўскі быў палітычным палякам, схільным, аднак, да рэгіянальных сантымэнтаў.

Аб Францішку Багушэвічу Радзік гаворыць як аб дзеячу, які застаўся паміж традыцыйнай палітычна-культурнай польскасьцю і этнічна-культурнай беларускасьцю. Радзік ні слова не гаворыць пра ўплыў украінскага

нацыянальнага руху на фармаваньне нацыянальнага сьветапогляду Багушэвіча і тым самым паказвае павярхоўнасьць свайго знаёмства з творчасьцяй гэтага “пратаганіста беларускасьці”.

Тымчасам Багушэвічаву рэдакцыю беларускага нацыяналізму памылкова зводзіць толькі да польскіх інсьпірацыяў. Злучальным вязьмом паміж “беларускім” і “польскім” нацыяналізмам Багушэвіча быў беспасярэдне — зь першакрыніцы — успрыняты, пераняты і разьвіты ўкраінскі досьвед нацыяналізму. Тое, што Багушэвіч добра ведаў украінскую мову і наагул цікавіўся ўкраінскім жыцьцём, пацьвярджае ў сваіх успамінах, датаваных 1938 г., і ўкраінскі нацыянальны дзеяч першай паловы XX ст. Дзьмітро Дарашэнка, які падчас навучаньня ў Віленскай гімназіі ў 90-х гг. XIX ст. колькі разоў сустракаўся з Багушэвічам.

Украінскі ўплыў адбываўся ня толькі на Багушэвічаву паэзію, але і, шырэй, на фармаваньне яго сьветагляду. Але на паэтычным узроўні яго прасачыць значна прасьцей, бо тут ён падмацоўваецца фактамі. Прафэсар Мюнстэрскага ўнівэрсытэту Фрыдрых Шольц пераканаўча давёў уплыў вэрсыфікацыі Тараса Шаўчэнкі на вэрсыфікацыю Францішка Багушэвіча. Ёсьць таксама мноства іншых сьведчаньняў таго, што станаўленьне Багушэвіча як “пратаганіста беларускасьці XIX стагоддзя” адбывалася пад моцным украінскім уплывам.

На заканчэньне сваёй манаграфіі Радзік вызначае прычыны слабасьці беларускага нацыянальнага руху (адна зь іх выглядае ў яго трактаваньні так: мадэрны беларускі нацыяналізм узьнік у асяродзьдзі каталіцкай шляхты, якая захоўвала і сацыяльную, і рэлігійную дыстанцыю ад пераважна сялянскага і праваслаўнага беларускага насельніцтва) і дае змрочную ацэнку яго сучаснага стану: культурна Беларусь застаецца значна

бліжэйшая Расіі, чымся Польшчы, бо беларускія эліты так і не збудавалі сучаснай беларускай нацыі.

Нягледзячы на пэўны навуковы канфармізм і пэўную канцэптуальную праблематычнасьць, манаграфія Рышарда Радзіка заслугоўвае высокай ацэнкі з шмат якіх пазыцый. Яна зьмяшчае ўнікальны фактаграфічны матэрыял, пераважна недаступны беларускім дасьледнікам, вылучаецца мэтадалягічнай стройнасьцю і культурай мысьленьня. Беларусам застаецца толькі зьлёгку пашкадаваць, што першая салідная манаграфія, прысьвечаная беларускаму нацыяналізму, выйшла з-пад пяра польскага сацыёляга і пабачыла сьвет у люблінскім выдавецтве ўнівэрсытэту Марыі Складоўскай-Кюры. Зрэшты, беларускі нацыяналізм генэруе такое праблемнае поле, якое ня вычарпаць і дзясяткам падобных манаграфіяў.

**7**

Мы прасачылі, як эвалюцыянавала ідэя беларускага нацыяналізму ў сьвядомасьці айчынных аўтараў (назавём гэта нацыяналістычным мысьленьнем), а таксама прадставілі пазыцыю польскага інтэрпрэтатара (назавём гэта мысьленьнем пра нацыяналізм). Як і варта было чакаць, беларускі нацыяналізм застаецца праблемным паняцьцем як на ўзроўні тэорыі, так і на ўзроўні практыкі.

Уплывы, якія прадвызначылі кірунак нацыяналістычнага мысьленьня Ўладзімера Арлова і Сяргея Дубаўца, паказваюць, што яшчэ нейкія 10–15 гадоў таму Беларусь цалкам знаходзілася ў зоне расійскага культурнага ўплыву і фактычна ня мела сваёй традыцыі гуманітарнай думкі. Тэксты, створаныя Сяргеем Яршом і Леанідам Лычом, сьведчаць, што пасьля 1991 г. Беларусь стала ня столькі незалежнай, колькі самаізаляванай краінай, дзе так і не адбылося абнаўленьня гуманітарнай адукацыі.

Незалежная Беларусь асуджаная на пашырэньне нацыяналістычных настрояў. Незавершанасьць іх тэарэтычнага асэнсаваньня нясе, аднак, пагрозу таго, што яны будуць разьвівацца стыхійна і, магчыма, у дэструктыўным рэчышчы. Адкрытым застаецца таксама пытаньне, ці здолее нейкі зь цяпер наяўных разнавідаў беларускага нацыяналізму ў чыстым выглядзе здабыць сабе перамогу або ў будучыні нас чакае яго прыйсьце ў зборным, інтэграваным выглядзе.

Пакуль жа гэтае пытаньне застаецца адкрытым, гаварыць пра нацыянальнае самавызначэньне Беларусі заўчасна.

2002

## 2. Беларускі і расійскі сцэнары інтэграцыі

**1.**

Інстытут краін СНД Канстанціна Затуліна[1] — адна зь нешматлікіх расійскіх *think tanks*, якая прафэсійна займаецца аналітыкай палітычных працэсаў на постсавецкім прасьцягу. Гэтая прафэсійнасьць спалучаецца зь вялікадзяржаўнымі, імпэрскімі падыходамі і геапалітычнымі амбіцыямі. У № 28 Інфармацыйна-аналітычнага бюлетэню, выдаванага маскоўскім Інстытутам Дыяспары і Інтэграцыі, які, у сваю чаргу, зьяўляецца структурным элемэнтам Інстытуту краін СНД, зьмешчаны артыкул Аляксандра Фадзеева “Што значыць быць прэзыдэнтам у Беларусі”, дзе чытаем: “Беларусы, як і ўкраінцы, ня мелі ў мінуўшчыне “сваёй” дзяржаўнасьці, і таму, у сутнасьці, беларускія грамадзяне цалкам укладваюцца ў сучаснае разуменьне найноўшай *расійскай дыяспары* з усімі вынікаючымі з гэтага наступствамі, уключаючы, перадусім, усьведамленьне сваёй этнічнай ідэнтычнасьці з жыхарамі Расіі. У расійцаў і беларусаў супольная геаграфічная лякацыя, калектыўная памяць і гісторыя, нацыянальныя героі, культура і культурныя

1 Канстанцін Затулін — расійскі парлямэнтар са стажам, гарачы прыхільнік расійска-беларускага аб’яднаньня. Этапы яго біяграфіі характэрныя для расійскіх палітыкаў “новай хвалі”: пры канцы 80-х ён памочнік сакратара ЦК УЛКСМ, у 1993—94 гг. — сакратар партыі “ПРЕС” у расійскай Дзяржаўнай Думе, з 1997 г. — дараднік мэра Масквы. У лютым 1996 г. пастановай ураду Ўкраіны за прапаганду расійскіх прэтэнзій на Крым быў абвешчаны на 5 год пэрсонай нон грата для ўезду ў Рэспубліку Крым**. 21 траўня 1999 году Затулін быў затрыманы ўкраінскімі памежнікамі ў кіеўскім аэрапорце. Летась ён шмат сілаў паклаў на прыняцьцё расійскім парлямэнтам законапраекту аб выбарах у саюзны парлямэнт дэпутатаў ад Расіі.

дасягненьні. І, што галоўнае — супольная радзіма... Больш за тое, сучасная Беларусь ня можа разглядацца як спачатнае (изначальное) этнадзяржаўнае ўтварэньне, якое мае глыбокае гістарычнае карэньне, паколькі ейная тэрыторыя — адвольна вызначаная ў якісьці пэрыяд існаваньня СССР адміністрацыйная адзінка, абмежаваная адміністрацыйнымі, насамрэч віртуальнымі, межамі тэрыторыя. У малой Беларусі сёньня толькі расійцаў (ня лічачы грамадзян з расійскай крывёю ад мяшаных шлюбаў) каля 1,5 мільёна, г. зн. гэтулькі, колькі расійцаў ува ўсім далёкім замежжы. Падкрэсьлім, што толькі стварэньне ў сапраўднасьці (на деле) саюзнай расійска-беларускай дзяржавы здыме гэтую найвайстрэйшую праблему, адновіць гістарычную справядлівасьць у справе вызначэньня тытульнай нацыі".

Чаму ж настолькі важнае месца адводзіцца Беларусі расійскімі аналітыкамі[1], што яны гатовыя нават скінуць беларусаў з п'едэсталу тытульнай нацыі

1 Аляксандар Фадзееў не самотны ў сваіх далёкасяжных высновах. Навуковы супрацоўнік Інстытуту параўнальнай паліталёгіі РАН Барыс Кагарліцкі ў сваім аналізе "Саюз мядзьведзя і вялізнага катá" ("Союз медведя и очень большой кошки" (http://www.intellectualcapital.ru/iss3-1/icissue1-1.htm)) апісвае значэньне "беларускага чыньніка" цалкам у духу "новых дыскусій пра расійскі фэдэралізм": "Аб'яднаньне зь Беларусяй ... можа стаць пераломным момантам, зь якога пачнецца пабудова нармальнай фэдэратыўнай дзяржавы, якая будзе складацца з 30—40 раўнапраўных суб'ектаў. Прапанаваны Лукашэнкам рэфэрэндум дазваляе як бы пачаць з чыстага аркуша, стварыўшы фактычна новую дзяржаву, з новымі тэрытарыяльнымі структурамі. Эмацыйную падтрымку аб'яднаньня можна выкарыстаць, каб зламіць супрацьдзеяньне некаторых рэгіянальных элітаў, пагатоў што асобныя рэгіёны самі зацікаўленыя ў рэформе...". У публікацыі Кагарліцкага прысутнічаюць такія выказваньні, характэрныя для мысьленьня маскоўскай інтэлігенцыі, як, напрыклад, "Беларусь сапраўды паліцыйная дзяржава: у цэнтры Менску можна пакінуць незачыненую машыну, цьвёрда ведаючы, што зь ёй нічога ня здарыцца" або "Хто насамрэч ненавідзіць прэзыдэнта, дык гэта адукаваная менская сярэдняя кляса. Гэтыя людзі з зайздрасьцю пазіраюць на сваіх маскоўскіх калегаў і знаёмых, якія забясьпечылі сабе заходняе спажываньне за кошт галадуючай краіны".

ў сваёй уласнай краіне? Адказ на гэтае пытаньне дае сам А. Фадзееў у апублікаваным у № 23 бюлетэню артыкуле пад назвай “Пэрспэктывы прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі 2001 году і нацыянальна-дзяржаўныя інтарэсы Расіі”: “Народы Расійскай Фэдэрацыі і Рэспублікі Беларусі былі адзінай нацыяй, яны зьвязаны міжсобку векавымі гістарычнымі і культурнымі сувязямі. Без саюзу зь Беларусяй немагчымая рэалізацыя ў пэрспэктыве рэгіянальнага лідэрства Расіі ў Цэнтральнай Эўропе (а ў будучыні, можна спадзявацца, і ў Цэнтральна-Паўднёва-Ўсходняй Эўропе). Барацьба Расіі за рэгіянальнае лідэрства ўва Ўсходняй Эўропе сёньня значна больш прадуктыўная за беспасьпяховыя спробы далучыцца на роўных да “сямёркі” і адыгрываць ролю сусьветнай дзяржавы ў няўклюдным выкананьні расійскага МЗС. Саступіўшы ж лідэрства Польшчы, якая не хавае сваіх стратэгічных памкненьняў у гэтым кірунку (барацьба за лідэрства ў Цэнтральнай Эўропе — асноўны прынцып яе афіцыйнай вонкавапалітычнай канцэпцыі), Расія ня толькі сутыкнецца з новым “залатым актаэдрам” (заміж цяперашняга “трыкутніка”) на сваіх заходніх межах, але канчаткова згубіць надзею дадатна вырашыць украінскае пытаньне”.

**2.**

Як расійскі нацыяналіст, Аляксандар Фадзееў горача прымае беларуска-расійскую інтэграцыю. Пры гэтым Беларусь для яго — ня што іншае, як разьменная карта ў складанай геапалітычнай гульні, стратэгічны пляцдарм, захапіўшы які, можна “дадатна вырашыць украінскае пытаньне” і вярнуць страчаны геапалітычны кантроль над часткай Эўропы, якая ляжыць да нямецкай, аўстрыйскай, грэцкай і італьянскай (*sic!*) мяжы. Расійскі нацыяналізм Фадзеева характэрным чынам спалучаецца зь ярка выражаным нігілізмам што да іншых, “мясцовых” у расійскай тэрміналёгіі культур, напрыклад,

беларускай. Ім фактычна адмаўляецца ў праве на існаваньне.

Аляксандар Фадзееў усяляк жадае прысьпешыць інтэграцыю. Адзін з найважнейшых матываў, які рухаў ім у гэтай публікацыі, палягае ў выяўленьні *сабатажу*, які нібыта чыніцца ёй пэўнымі палітычнымі сіламі.

Паказальна, што аб’ектам атакі становіцца вышэйшае чынавенства Беларусі (“... пэўныя колы вышэйшых чыноўнікаў і на Беларусі, і ў Расіі не сьпяшаюцца з абраньнем саюзнага парлямэнту адно з тае прычыны, што такія выбары непазьбежна прывядуць да падвышэньня інтарэсу практычна ўсіх слаёў актыўнага насельніцтва сваіх краін да праблемы аб’яднаньня ў адну дзяржаву, да ўсьведамленьня праўдзівых чыньнікаў гамаваньня інтэграцыйнага працэсу, сярод якіх адзін з галоўных — чынавенскі падыход”). Вышэйшае чынавенства і шырэй, дзяржаўны апарат Беларусі выклікае фрустрацыі маскоўскіх аналітыкаў з той простай прычыны, што ўяўляе сабой сацыяльную групу, якая за апошнія дзесяць гадоў перажыла дастаткова поўную сувэрэнізацыю і зьвязвае свае асабістыя інтарэсы зь дзяржаўнымі, а значыць і нацыянальнымі інтарэсамі Беларусі.

Пры гэтым само вайстрыё атакі накiравана на Адміністрацыю прэзыдэнта Беларусі (як піша Фадзееў, “...[канстытуцыйны акт саюзнай дзяржавы] яшчэ толькі неабходна распрацаваць у сьценах саюзнага парлямэнту, але, як вядома, ён дагэтуль ня створаны, акурат выбары ў дадзены заканадаўчы орган зь віны адміністрацыі прэзыдэнта А. Лукашэнкі ўвесь час пераносяцца на няпэўную пэрспэктыву”, і праз старонку ізноў: “Адміністрацыя прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі, нягледзячы на ўсе запэўніваньні, да сёньня ня ўнесла аналягічнага законапраекту ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу рэспублікі”), што аўтаматычна навешвае этыкетку сабатажніка

яе тагачаснаму кіраўніку Міхаілу Мясьніковічу. Бедны Мясьніковіч! Відаць, адчуваючы гэткага роду небясьпеку, летась ён двойчы надрукаваў свой опус пад назвай "На шляху да яднаньня" ("На пути к единению") сьпярша ў маскоўскім часапісе "Обозреватель" (№ 6 за 2000 г.), а пасьля ў ня менш адыёзным "Евразийском вестнике" (http://www.e-journal.ru/soyz-st1.html). Заключае гэты артыкул, напоўнены шматлікімі і ні да чога не абавязваючымі зьвесткамі з эканомікі і геаграфіі, наступны фрагмэнт: "Мы хочам збудаваць моцную і дэмакратычную саюзную дзяржаву, якая будзе карыстацца высокім аўтарытэтам у міжнароднай супольнасьці, дзяржаву, у якой рэальна будуць забясьпечвацца і надзейна абараняцца правы грамадзяніна і чалавека...".

Такім чынам, непакой у маскоўскіх аналітыкаў выклікае сам факт таго, што за часы незалежнасьці Беларусі ў краіне паўсталі эліты, якія адкрыта артыкулююць свае інтарэсы, істотная частка якіх разыходзіцца з інтарэсамі элітаў расійскіх (у артыкуле Фадзеева гэтая тэма прагучэла пару разоў і неяк подбегам, напрыклад, у зьвязку зь фінансавым аспэктам беларуска-расійскай інтэграцыі: "Не задавальняе беларускую эліту і іншае — непазьбежнае надзяленьне Цэнтрабанку Расіі новым прававым статусам, улучна з правам беспасярэдняга распараджэньня фінансавымі патокамі, нерухомасьцю на ўсёй саюзнай тэрыторыі, улучна, натуральна, з тэрыторыяй Рэспублікі Беларусі"; толькі пры канцы артыкулу тэма гэтая гучыць надзвычай завойстрана: "Існуючыя рэзкія, часам незамірэнчыя супярэчнасьці паміж палітычнымі элітамі Расіі і Беларусі робяць парлямэнцкі шлях усталяваньня канстытуцыйных асноваў Саюзнай дзяржавы адзіна магчымым"). Галоўным жа прадстаўніком новых беларускіх элітаў уваччу Масквы ёсьць Аляксандар Лукашэнка.

## 3.

У сытуацыі сутыкненьня і канфлікту жыцьцёва важных інтарэсаў менскіх і маскоўскіх элітаў Лукашэнка дагэтуль перайграваў Маскву, навязваючы ёй свой уласны, *беларускі* сцэнар інтэграцыі. Выкарыстоўваючы традыцыйную савецкую рыторыку і фразэалёгію, яму ўдавалася знаходзіць пачуцьцёвы водгук і падтрымку сярод расійскіх палітыкаў і бізнэсоўцаў. Артыкул Аляксандра Фадзеева досыць відавочна паказвае, што “эмацыйная” прывабнасьць беларускага прэзыдэнта прынамсі ў расійскіх “апініятворчых” колах рэзка ідзе на спад. Ужо цяпер яму пачынаюць выстаўляць рахункі. Здаецца, яшчэ момант, і для Масквы Аляксандар Рыгоравіч Лукашэнка станецца больш небясьпечны за Леаніда Данілавіча Кучму.

Пра канфлікт беларускага і расійскага сцэнароў інтэграцыі трэба сказаць некалькі словаў асобна. Як вынікае з іншага артыкулу Фадзеева “Пяць гадоў яднаньня, альбо Палітычная прахіндыяда”, для расійцаў інтэграцыя — гэта фактычна рэкалянізацыя, культурна-эканамічнае паглынаньне з абавязковай заменай “мясцовай адміністрацыі” на прызначаную з імпэрскага цэнтру. І ня важна напачатку, поўнай ці частковай будзе гэтая замена.

Імпэратывам “інтэграцыі па-расійску” ёсьць аслабленьне юрыдычнай і фінансавай самастойнасьці “інтэграванай тэрыторыі” пры захаваньні і павелічэньні культурнага і інфармацыйнага ўплываў, а таксама стварэньне сьпярша фармальна наддзяржаўных органаў, якія зь цягам часу могуць перарасьці ў органы адзінай дзяржавы. Стаўкі Масквы пры такой інтэграцыі вельмі высокія — яе посьпех будзе азначаць ня столькі зьліцьцё дзьвюх “старых” дзяржаваў у адну “новую”, колькі ператварэньне народаў-насельнікаў гэтых дзяржаваў у адну новую “супэрнацыю” (“Галоўнае — грамадзяне расійска-беларускай дзяржавы паступова

прыйдуць да ўсьведамленьня сябе як *адзінага народу* (вылучэньні нашы — **Аўт.**), які мае права і магчымасьць мець свой парлямэнцкі орган”, — рэжа з пляча Аляксандар Фадзееў).

У выпадку Беларусі, апрача культурнай катастрофы і адміністрацыйнай сумятні, рэалізацыя расійскага сцэнару інтэграцыі на практыцы азначала б разбурэньне сфармаванай сыстэмы дзяржаўнага кіраваньня Рэспублікі Беларусі, якой бы яна ні была, кардынальную ломку існуючых дачыненьняў улады і ўласнасьці (нагадаем ужо працытаванае: “Не задавальняе беларускую эліту і іншае — непазьбежнае надзяленьне Цэнтрабанку Расіі новым прававым статусам, улучна з правам беспасярэдняга распараджэньня фінансавымі патокамі, *нерухомасьцю* (вылучэньне наша — **Аўт.**) на ўсёй саюзнай тэрыторыі, улучна, натуральна, з тэрыторыяй Рэспублікі Беларусі”).

Тэма жудаснай неэфэктыўнасьці беларускага дзяржаўнага апарату ў развагах маскоўскіх аналітыкаў таксама прысутнічае не дарма. Так, у згаданым артыкуле Фадзеева “Пэрспэктывы прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі 2001 г. і нацыянальна-дзяржаўныя інтарэсы Расіі” ўтрымліваецца цэлы шэраг нападак на беларускі дзяржаўны апарат: “Напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў дзяржаўны апарат Рэспублікі Беларусі, пры наяўнасьці пэўнай кагерэнтнасьці і згуртаванасьці, пакуль не праяўляе здольнасьці да разуменьня вайстрыні паўсталых перад ім заданьняў, а асобныя ідэалягемы, якімі ён кіруецца, не ўяўляюць сабой адзінай і закончанай ідэалягічнай сыстэмы. Непасьлядоўнасьць у дзеяньнях органаў улады ў шмат чым як і раней тлумачыцца боязяй прыняцьця канчатковых рашэньняў, што сьведчыць, перадусім, пра *пераходны* (вылучэньне наша — **Аўт.**) характар самой дзяржаўнай улады, якая знаходзіцца на пэўнай стадыі на шляху да канчатковай сыстэмнай

інстытуалізацыі”. З такога роду аналітычных канструкцый вынікае, што “канчатковая сыстэмная інстытуалізацыя” беларускага дзяржаўнага апарату можа адбыцца толькі пры *пераходзе* дзяржаўнай улады ў іншую якасьць — марыянэткавай каляніяльнай адміністрацыі, у сфэру кампэтэнцыі якой не ўваходзяць ні фінансавыя, ні прававыя пытаньні. Як не ўваходзяць пытаньні ваеннага будаўніцтва, аховы мяжы, мытнай і фіскальнай палітыкі[1].

З гледзішча Масквы незалежнасьць Беларусі захоўваецца фактычна дзякуючы апартунізму беларускай намэнклятуры, а не рашучасьці прадстаўнікоў беларускай апазыцыі ці непадкупнасьці дзеячоў беларускай культуры (хаця ў гэтым ёсьць момант правакацыі і прапаганды — каб усяляк прынізіць ролю апошніх у палітычным жыцьці Беларусі; Маскве выгадна разглядаць іх як статыстаў у гульні зь вялікімі стаўкамі, у якой удзельнічаюць сапраўды сур’ёзныя асобы). Беларуская намэнклятура як носьбіт рэальнай незалежнасьці Беларусі — гэтая рэальнасьць яшчэ не ацэненая беларускімі аналітыкамі як мае быць.

Заканамерна, што расійскі сцэнар інтэграцыі цішком сабатуецца беларускімі ўладамі на самым высокім

1 Ці трэба дадаваць, што галоўная мэта навязьлівай нэгатыўнай крытыкі эканамічнага курсу беларускіх уладаў пры адначасовай завышанай ацэнцы расійскіх гаспадарчыхператварэньняў *у гэтым кантэксьце* перадусім палягае ў “выкрываньні” неэфэктыўнасьці беларускага дзяржаўнага апарату да кіраваньня краінай, нyздольнасьці беларускіх элітаў ажыцьцяўляць дзейсны макраэканамічны мэнэджмэнт. Апошні паводле часу аналіз Аляксандра Фадзеева — “Беларуская эканоміка ў год выбараў прэзыдэнта”, большая частка якога была перадрукавана газэтай “Наша Ніва”, не пакідае ў гэтым жадных сумлеваў: “Рэспубліканскае кіраўніцтва вырашэньне сваіх эканамічных праблемаў напярэдадні выбараў зьвязвае ў апошні час з атрыманьнем ільготных крэдытаў або ад багатых арабскіх краінаў, у прыватнасьці, пэўныя надзеі пакладаюцца на Кувэйт, або на Кітай. Пра сур’ёзную рэформу ў сфэры эканомікі пакуль няма мовы”.

узроўні. Ня выключана, што ціхі сабатаж напаткае і тыя новыя інтэграцыйныя ініцыятывы, якія, як вынікае з артыкулу Аляксандра Фадзеева, Расія рыхтуецца прапанаваць ужо ў найбліжшай будучыні.

**4.**

Самым пэрспэктыўным кірункам інтэграцыі, на думку Фадзеева, павінна стаць уніфікацыя канстытуцыйнага і інш. заканадаўства дзьвюх краін. Як ён піша, “час зразумець, нарэшце, што нельга ажыцьцявіць захады вайсковага будаўніцтва ў саюзнай дзяржаве без папярэдняга рашэньня галоўных палітычных і канстытуцыйных пытаньняў, якія пяць год настойліва ігнараваліся”.

Фадзееў схільны акурат у роўніцы права бачыць прычыну таго, што буксуе вайсковая інтэграцыя паміж Расіяй і Беларусяй (“Гэтыя цудоўныя дакумэнты... не маглі быць рэалізаваныя з той простай прычыны, што аб’ектыўна патрабавалі зьмены нацыянальных канстытуцыяў Расеі і Беларусі, вайсковага заканадаўства і іншых законаў абедзьвюх дзяржаваў”). Але што там ні гаварылася, уніфікацыя канстытуцыйнага і інш. заканадаўства для Масквы — гэта інтэграцыйная пэрспэктыва, так бы мовіць, першага ўзроўню. Расійскі сцэнар інтэграцыі будзе рэалізаваны толькі пры ўмове вырашэньня інтэграцыйнай задачы другога ўзроўню — ліквідацыі прэзыдэнцкай формы дзяржаўнага кіраваньня ў Беларусі ў такім выглядзе, у якім яна склалася за апошнія гады. Чаму? Давайце зноў учытаемся ў аналізаваны тэкст.

На першы погляд, Аляксандар Фадзееў нават робіць Лукашэнку такі сабе рэвэранс. Ён, напрыклад, піша: “Яшчэ адзін вузел застарэлых супярэчнасьцяў паміж Расеяй і Беларусяй хаваецца ў сфэры рэгуляваньня працэсу руху капіталаў. Увесь папярэдні досьвед

у дадзеным пытаньні — нэгатыўны. Беларускі бок з зайздроснай упартасьцю адхіляе ўдзел расейскіх дзелавых колаў у прадпрымальніцтве і, тым больш, набыцьці імі акцый суб’ектаў гаспадараньня на сваёй тэрыторыі. Выключэньні, праўда, адзначаны адносна прамых інвэстыцыйных уліваньняў і прадастаўленьня крэдытных лініяў пад кантролем нават ня ўраду, *а непасрэдна прэзыдэнта*” (вылучэньні нашы — **Аўт.**). Аднак на гэтым усе пазытыўныя знакі ўвагі да першага прэзыдэнта Беларусі іканчаюцца. Больш за тое, расійскі аўтар пачынае раскідвацца яўнымі інвэктывамі: “Відавочна, палітычныя вярхі Расіі і Беларусі пакуль не гатовыя да фармаваньня саюзнай дзяржавы”. У гэтым кантэксьце пачынае зусім інакш гучаць кагадзе працытаванае: “Час зразумець, нарэшце, што нельга ажыцьцявіць захады вайсковага будаўніцтва ў саюзнай дзяржаве без папярэдняга рашэньня галоўных *палітычных* (вылучэньні нашы — **Аўт.**) і канстытуцыйных пытаньняў, якія пяць год настойліва ігнараваліся”.

Насамрэч *першае* і *апошняе* палітычнае пытаньне для расійскага пляну інтэграцыі — як хутка і эфэктыўна зьнішчыць сыстэму прэзыдэнцкай улады на Беларусі. І гэта адкрыта цьвердзіць расійскі аналітык Фадзееў: “Насамрэч прычына [інтэграцыйных праблем] заключаецца ў іншым: у цяперашніх канстытуцыях Расійскай Фэдэрацыі і Рэспублікі Беларусі ўстаноўлена і замацавана адна форма дзяржаўнага кіраваньня — прэзыдэнцкая. Адсюль і ўся арганізацыя сыстэмы вышэйшых органаў дзяржаўнай улады, дзе прыярытэт, натуральна, аддадзены прэзыдэнту, як кіраўніку дзяржавы. Таму меркаваць, што ў гэтых рэаліях зьмены ў нацыянальных канстытуцыях і прыняцьцё саюзнай канстытуцыі будуць праходзіць гладка і лёгка, а адпаведны рэфэрэндум абвесьцяць заўтра — небясьпечная і вялікая аблуда”. Разгорнем гэты тэзыс: павелічэньне ўладных паўнамоцтваў беларускага

прэзыдэнта азначае запаволеньне інтэграцыйных працэсаў, і наадварот[1].

## 5.

Чаму ж нарастае адчужэньне паміж Лукашэнкам і новымі расійскімі элітамі? Паспрабуем выясніць прычыны гэтай нелюбосьці эканамічнымі чыньнікамі.

Як мы кагадзе высьветлілі, для расійцаў інтэграцыя зь Беларусяй — гэта перадусім культурна-эканамічная экспансія. Прычым новыя расійскія эліты зацікаўленыя ў гэтым эканамічным складніку экспансіі / інтэграцыі ня менш, а можа нават больш, чым у экспансіі культурнай, бо эканамічная дамінацыя стварае трывалае заплечча для рознага роду культурных ініцыятываў.

Расійская спэцыфіка такая, што ў гэтай краіне палітыка цесна зьвязаная з эканомікай. Адзін зь фігурантаў гэтага аналізу Канстанцін Затулін адначасова буйны расійскі бізнэсоўца. У свой час ён быў арганізатарам і кіраўніком шэрагу камэрцыйных структур, у прыватнасьці, заснавальнікам і кіраўніком Маскоўскай таварнай біржы, сталым чальцом яе біржавога камітэту, а таксама прэзыдэнтам “Міжнароднага Біржавога і Гандлёвага Саюзу”.

Капітал новых расійскіх элітаў быў сфармаваны ў выніку глыбокага ператварэньня існуючых эканамічных адносінаў у краіне, выкліканага, у прыватнасьці, прыватызацыяй дзяржаўнай уласнасьці. Атрымаўшы капітал за досыць хуткі адцінак часу, часта неправавым ці напаўлегальным чынам, новыя расійскія капіталісты імкнуцца выкарыстоўваць яго з максымальнай аддачай. Павелічэньне прыбытку пры выкарыстаньні

1 Зь іншага боку, ад палітычнай сьмерці для Масквы Лукашэнку ратуе беларуская апазыцыя. Яе ўзмацненьне пацягне за сабой павелічэньне падтрымкі Расіі асабіста Лукашэнкі і створанага ім рэжыму.

капіталу зьвязваецца імі з пашырэньнем абсягу яго дзеяньня (як тут не прыгадаць клясычную формулу Маркса: “Патрэба пастаяннага павелічэньня рынку дзеля збыту сваіх тавараў гоніць буржуазію па ўсёй плянэце”)[1].

У артыкуле Фадзеева ёсьць момант, ключавы для разуменьня таго, чаму павялічваецца дыстанцыя паміж беларускім прэзыдэнтам і расійскімі бізнэс-коламі. Зьвернемся яшчэ разу да прыведзенага кагадзе фрагмэнту: “Яшчэ адзін вузел застарэлых супярэчнасьцяў паміж Расіяй і Беларусяй хаваецца ў сфэры рэгуляваньня працэсу руху капіталаў. Увесь папярэдні досьвед у дадзеным пытаньні — нэгатыўны. Беларускі бок з зайздроснай упартасьцю адхіляе ўдзел расійскіх дзелавых колаў у прадпрымальніцтве і, тым больш, набыцьці імі акцый суб’ектаў гаспадараньня на сваёй тэрыторыі. Выключэньні, праўда, адзначаны адносна прамых інвэстыцыйных уліваньняў і прадастаўленьня крэдытных лініяў пад кантролем нават ня ўраду, а непасрэдна прэзыдэнта”.

Любы іншаземны капітал для Лукашэнкі аднолькава чужы. Сваім абраньнем на пасаду прэзыдэнта ён абавязаны перадусім лёзунгам сваёй перадвыбарчай кампаніі, якія абвяшчалі ўсямерную падтрымку буйной і сярэдняй беларускай прамысловасьці. За гады

1 Уздым расійскай прамысловасьці, абумоўлены павелічэньнем эканамічнага значэньня расійскага малога і сярэдняга бізнэсу, ужо цяпер павышае прывабнасьць беларускага рынку для збыту расійскай прадукцыі. Гэта істотна зьмяняе балянс сілаў, бо калі раней інтэграцыю інсьпіраваў дзяржаўна-манапалістычны капітал сыравіннай і вайскова-прамысловай галінаў “народнай гаспадаркі”, то цяпер інтарэс у інтэграцыі пачынае сыходзіць зьнізу, з боку непараўнальна меншых суб’ектаў гаспадараньня. Хаця, калі па шчырасьці, Аляксандар Фадзееў выдае жаданае за сапраўднае, калі ў нарысе “Перадвыбарная сэнсацыя” піша: “Цяпер як ніколі відавочна, што беларускія вытворцы прайграюць у канкурэнтнай барацьбе ня толькі заходнім імпарцёрам, але і расійскім пастаўнікам, якія літаральна запоўнілі рынак Беларусі таннымі і якаснымі таварамі, выцесьніўшы зь яго шэраг традыцыйных, айчынных”. Аднак ход яго думкі вельмі паказальны.

свайго прэзыдэнцкага кіраваньня Лукашэнка, як яму здавалася, рабіў усё, каб забясьпечыць яе больш-менш стабільнае функцыянаваньне. З гэтай стабільнасьцю ён зьвязвае і шанцы на сваё палітычнае выжываньне ў будучым.

Дапушчэньне буйнога расійскага капіталу — такім, якім ён ёсьць — на нутраны беларускі рынак для Лукашэнкі было б раўназначнае палітычнаму самагубству. Як і рэалізацыя расійскага пляну інтэграцыі, гэта б пацягнула за сабой новы перадзел уласнасьці, зьмяненьне рамкавых умоваў гаспадараньня і, што найважнейшае, непрадказальную рэструктурызацыю эканомікі Беларусі, выкліканую яе падгонкай да патрэбаў расійскага, а не беларускага рынку. На практыцы гэта прывяло б да масавага банкруцтва беларускіх заводаў і фабрык, да рэзкага ўзросту беспрацоўя і г. д. А эканамічныя катаклізмы непазьбежна справакавалі б катаклізмы сацыяльныя, што ў выніку істотна б звузіла сацыяльную базу падтрымкі цяперашняга беларускага рэжыму і, магчыма, паставіла крыж на самой ідэі інтэграцыі з Расіяй, так па-свойму дарагой Лукашэнку.

## 6.

Фадзееўскі аналіз паказвае, наколькі агрэсіўныя мэты ў дачыненьні да Беларусі можа перасьледаваць новая расійская адміністрацыя[1]. Крывавая разьніна ў Чачні, здушэньне апазыцыйных расійскіх СМІ — гэта, можа быць, толькі першыя этапы доўгатэрміновага пляну, пакліканага павялічыць прэстыж дзяржаўнай улады Расійскай Фэдэрацыі[2].

---

1 Паказальна, што адзін з указаў Пуціна, які ўводзіць рэжым лібэралізацыі для вывазу капіталу ў краіны СНД, застаўся зусім незаўважаным у беларускіх мэдыях.

2 Заходняму назіральніку такая пастаноўка пытаньня можа здацца посткаляніяльнай абсэсіяй. Насамрэч, ці не запомніцца Ўладзімер

Так і не засвоіўшы горкага гістарычнага досьведу, Расія вяртаецца ў Беларусь у якасьці агрэсіўнай імпэрскай сілы, якая для дасягненьня сваіх стратэгічных, "вселенскіх" мэтаў гатовая паступацца народамі і культурамі, дзяржавамі і грамадзтвамі...

Тое, што гэта раней ці пазьней адбудзецца, Лукашэнка, відаць, цьмяна вычуваў яшчэ ў сярэдзіне 90-ых. Сапраўды, часам здаецца, што распачаты беларускім кіраўніком працэс інтэграцыі — гэта ня што іншае, як *гульня на апярэджаньне*, а выйгранкай у гэтай гульні — каналізацыя народнай энэргіі ў патрэбным для беларускай дзяржавы рэчышчы.

Каб раскрыць сутнасьць беларускага сцэнару інтэграцыі, важна адказаць на адно прынцыповае пытаньне: ці была яна абумоўленая аб'ектыўным запатрабаваньнем беларускага грамадзтва, ці ўсё ж гэта *idée fixe* першага беларускага прэзыдэнта?

Як паказваюць апытаньні, праведзеныя незалежнымі сацыялягічнымі агенцыямі, стаўленьне беларускіх грамадзянаў да інтэграцыі паміж Расіяй і Беларусяй дастаткова пазытыўнае. Ува ўсякім разе, колькасьць тых, хто выступае супраць яе або пакуль яшчэ вагаецца, значна саступае колькасьці яе безумоўных прыхільнікаў[1].

---

Пуцін яго сучасьнікам як ініцыятар маштабнай мадэрнізацыі розных сфэраў жыцьця Расійскай Фэдэрацыі. Толькі за няпоўныя два гады свайго кіраваньня ён запачаткаваў рэформу мэдычнага абслугоўваньня і пэнсійнай сыстэмы, канстытуцыйнага ладу, партыйнай, падатковай сыстэмы і г. д. Экспансіянізм жа, якім стала характарызавацца замежная палітыка Крамлю, заўважны адно ў рэгіёне, у якім толькі аслабленая глыбокім унутраным крызысам Расія і здольная праяўляць актыўнасьць — на абшарах СНД і насамперш ува Ўкраіне і Беларусі.

1 Як паведамляе агенцыя БелаПАН, згодна з сацыялягічным апытаньнем НІСЭПД, у сакавіку 2001 г. за саюз Расіі і Беларусі выступала 59% жыхароў Беларусі. Як бачым, ідэя карыстаецца вялікай сацыяльнай падтрымкай, хаця тое ж самае апытаньне паказала, што

Тое, што палітыка збліжэньня з Расіяй увогуле адпавядае цяперашнім запатрабаваньням беларускага грамадзтва, выразна ўсьведамляе кааліцыя апазыцыйных кандыдатаў на пасаду прэзыдэнта Беларусі ў 2001 г., т. зв. “пяцёрка”. У супольна прынятай праграме яна заявіла, што інтэграцыйныя захады ў рамках “Саюзу дзьвюх сувэрэнных дзяржаваў” будуць працягнутыя ў выпадку абраньня апазыцыйнага кандыдата на пасаду прэзыдэнта краіны. Нэгатыўная рэакцыя на гэткага роду заяву сакратара Сойму БНФ Вячаслава Сіўчыка і прэс-сакратара Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ Валер’я Буйвала толькі дадала грамадзкай падтрымкі гэтай апазыцыйнай кааліцыі — масавай сьвядомасьці беларускіх грамадзян цяпер навязваецца думка, што агрэсіўныя, прагныя рэваншу нацыяналістычныя сілы і кандыдаты на пасаду прэзыдэнта ад дэмакратычнай грамадзкасьці ніяк міжсобку не зьвязаныя[1].

**7.**

Задуманы афіцыйнымі беларускімі ўладамі і ўпаасобку першым беларускім прэзыдэнтам уласны сцэнар інтэграцыі істотна розьніцца ад расійскага. Калі расійцы пры дапамозе інтэграцыйных працэсаў імкнуцца захапіць новыя эканамічныя прасторы, то беларусы, наадварот, імкнуцца захаваць эканамічны статус-кво. Іншымі словамі, інтэграцыя для беларускага

меншыня беларусаў выказваецца за зьліцьцё Расіі і Беларусі ў адну дзяржаву. Таксама зварачаем увагу на ваганьне лічбы прыхільнікаў Саюзу.

1 У гэтую схему цудоўна кладзецца той растыражаваны беларускімі мэдыямі і на першы погляд алягічны факт, што ўзначаленая Станіславам Шушкевічам Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада пастанавіла прыпыніць сваё членства ў Каардынацыйнай Радзе Дэмакратычных Сілаў датуль, пакуль яе члены “ня зоймуць прынцыповай пазыцыі ў дачыненьні да дзяржаўнага сувэрэнітэту і кандыдатаў у прэзыдэнты, якія выступаюць за саюз Расіі і Беларусі”, а таксама падтрымаць вылучэньне кандытатам у прэзыдэнты Зянона Пазьняка.

рэжыму мае служыць перадусім кансэрвацыі існуючай структуры эканомікі і дачыненьняў уласнасьці, адпаведнай ёй палітычнай сыстэмы Беларусі, а таксама ідэалягічным мэтам.

Рэалізацыя беларускага сцэнару інтэграцыі была шмат у чым прадвызначана асобай прэзыдэнта Лукашэнкі. Фактычна, ён першы з буйных беларусіх палітыкаў парваў з савецкім мінулым і пачаў арыентавацца на жывы беларускі палітычны рынак, тым часам некаторыя палітыкі адраджэнскай арыентацыі перабывалі і часам яшчэ дагэтуль перабываюць у стане агрэсіўнага інфантылізму — замест таго, каб адаптаваць свае палітычныя праграмы да запытаў беларускага грамадзтва, яны каторы ўжо год спрабуюць падагнаць беларускае грамадзтва да сваіх нібыта ўнівэрсальна-эўрапейскіх палітычных праграмаў.

Ідэал палітыка вачыма Лукашэнкі — быць унутраным голасам кожнага простага беларуса. Любы больш-менш сур’ёзны сацыяльны запыт спараджаў сустрэчную прапанову — найчасьцей адэкватную попыту. Сёлета, у год прэзыдэнцкіх выбараў *(рэд. — Маюцца на ўвазе выбары 2001 г.*), улада ідзе нават на яўнае самапрыніжэньне, патураючы найменшым грамадзкім прыхамацям. Каб забясьпечыць як мага большую прыхільнасьць свайго электарату, Лукашэнка пераўзышоў самога сябе — ён распарадзіўся перанесьці на пазьнейшы тэрмін набор у войска (каб хлопчыкі пасьпелі здаць уступныя іспыты ў ВНУ) і амаль удвая зьменшыць тэрмін адключэньня гарачай вады, зьвязанага з правядзеньнем прафіляктычных работаў на цепласетках. Няма сумлеву, людзі гэта ацэняць.

Існуючы ў беларускім грамадзтве запыт на інтэграцыю Лукашэнка і задавальняе вось ужо сем гадоў. Аднак задавальняе з улікам спэцыфічных беларускіх інтарэсаў, што цяпер больш і больш раздражняе

Маскву. Беларускі сувэрэнітэт ператварыўся ў сутнасьці ў *палітычную валюту* Лукашэнкі, зь якой ён зьвязвае свае надзеі на адносна бяскрызыснае існаваньне створанага ім рэжыму. Не выпадкова сваёй сёлетняй прамове да дэпутатаў беларускага парлямэнту ён даў назоў “Краіна канчаткова аформіла сваю дзяржаўнасьць і набыла рэальны сувэрэнітэт” (адкрывае і закрывае прамову рыторыка ўсхваленьня беларускай дзяржаўнасьці: “Апошнія гады XX ст. можна з поўным правам назваць эпахальнымі ў гісторыі нашага народу. Беларусь канчаткова аформіла сваю дзяржаўнасьць і набыла рэальны сувэрэнітэт. Найважнейшае, што мы з вамі зрабілі, — мы збудавалі сваю дзяржаву з усімі атрыбутамі гэтай дзяржавы” і, адпаведна, “Беларусь павінна стаць магутнай працьвітаючай дзяржавай”).

Пры гэтым Лукашэнка зьвязвае паняцьце “сувэрэнітэту” з “выбудовай дзяржавы”, а не з культурнай самастойнасьцю ці нацыянальнай згуртаванасьцю. Працаваць і лічыцца ня столькі з культурнымі прэфэрэнцыямі, колькі са спажывецкімі настроямі — такі ляйтматыў яго палітычнай дзейнасьці.

Разбуральная культурная палітыка, якая пасьлядоўна праводзіцца беларускім прэзыдэнтам з часу яго абраньня на гэтую пасаду, з усёй відавочнасьцю паказвае, што ён зрабіў адназначны выбар на карысьць пабудовы ў краіне “палітычнай” або “этатысцкай” нацыі, заснаванай на атаесамленьні яе чальцоў зь дзяржавай і яе атрыбутамі, а не “культурнай” нацыі, заснаванай на моўнай і культурнай супольнасьці, адзінстве гістарычнага паходжаньня і г. д.

Гэткага роду палітыка спарадзіла і спараджае моцнае адчужэньне паміж інстытутамі дзяржаўнай улады і асяродзьдзямі беларусаў з моцным нацыянальна-культурным этасам. Не сакрэт, што самі гэтыя інстытуты і іх абмеркаваньне ў названых асяродзьдзях усё

часьцей стаюцца табуяванай тэмай. Але калі мы хочам, каб рэжым Лукашэнкі з доўгай гістарычнай пэрспэктывы ўспрымаўся ўсяго толькі як плаўны пераход ад савецкага таталітарызму да беларускай дэмакратыі, неабходна *нацыяналізаваць* калі не самога Лукашэнку, дык прынамсі пасаду прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі.

## 8.

Сваім правакацыйным тэкстам Аляксандар Фадзееў перш за ўсё прыцягвае ўвагу да таго відавочнага для яго факту, што інтэграцыя пачала разьвівацца па непажаданым для Расіі сцэнары. Артыкул падштурхоўвае да думкі, што драма Лукашэнкі палягае ў тым, што ён ня можа перайсьці нейкай нутраной мяжы, што ён не марыянэтка па натуры.

Аднак зь беларускага гледзішча ўсё выглядае іначай. Сапраўдная трагедыя, якая разгортваецца перад намі, палягае ў лабавым, здаецца, нават сьмяротным сутыкненьні “старых постсавецкіх” (якія кансалідуе Аляксандар Лукашэнка) і “новых незалежніцкіх” элітаў, у іх узаемным непрызнаньні і ігнараваньні, у іх некансалідаванасьці[1].

Як ні банальна гэта гучыць, але незалежніцкія эліты — зьява параўнальна новая для палітычнай гісторыі Беларусі. На сацыяльнай сцэне яны зьявіліся толькі пару дзесяцігодзьдзяў таму назад. Таму спрафанізаваная сьвядомасьць шырокіх народных

1 Тут трэба асобна зацеміць, што аўтар, натуральна, не заклікае апошніх ісьці на калябарацыю зь першымі, а падкрэсьлівае той відавочны для яго факт, што ў выпадку прыходу прадстаўнікоў апошніх да ўлады ім непазьбежна давядзецца выкарыстоўваць першых для нармальнага функцыянаваньня дзяржаўнага апарату. Таму ўжо цяпер важна задумацца над тым, на якія праграмы і лёзунгі магла б купіцца старая савецка-постсавецкая намэклятура. Як выяўляецца, і першыя, і другія кроўна зацікаўленыя ў захаваньні незалежнасьці Беларусі.

масаў дагэтуль успрымае іх як нешта штучнае, чужароднае, “не-сваё”. Сапраўды, як і скуль у зрусіфікаваным да апошняга дзіцяці грамадзтве могуць масава паўставаць носьбіты іншай мовы і іншай культуры?

Гэтую пазыцыю, пашыраную ў пэўных слаёх нашага грамадзтва, часам войстра фармулюе Лукашэнка, абвінавачваючы беларускую апазыцыю (чытай: усё незалежнае беларускае грамадзтва) у страшным граху залежнасьці ад вонкавых крыніц дапамогі. На пытаньне, як палітычныя партыі і іх лідэры, культурныя ініцыятывы, грамадзкія рухі могуць існаваць доўгія гады безь дзяржаўнай падтрымкі, спрафанізаваная сьвядомасьць ня можа даць іншага адказу.

Натуральна, кансалідаваныя Лукашэнкам старыя эліты цураюцца новых элітаў ня толькі таму, што апошнія паўсталі параўнальна позна і яшчэ да канца не засьведчылі сваёй палітычнай вагі. Супрацьстаяньне паміж імі мае рысы ідэалягічнага канфлікту і можа разглядацца як сутыкненьне двух нігілізмаў. Сытуацыя *нігілізм versus нігілізм:* нігілізм лукашэнкаўцаў зьвязаны зь іх чыста ўтылітарным, спажывецкім стаўленьнем да беларускай культуры (якая да апошняга часу заставалася асноўным элемэнтам калектыўнай самаідэнтыфікацыі беларусаў) у яе неспрафанізаваных праявах і абумоўлены проста-ткі абагаўленьнем “эканамічнага базысу”[1]. Нігілізм “адраджэнцаў” матываваны іх сьвядомай адмовай прызнаваць хоць якія эканамічныя дасягненьні і

1 У сваім нядаўным тэксьце “Беларусь у кантэксьце глябалізацыі”, апублікаваным у № 12 за 2000 год маскоўскага часопісу “Обозреватель”(http://www.nasledie.ru/oboz/N12_00/INDEX.HTM), Міхаіл Мясьнікові яшчэ раз расставіў па месцах “рэальныя прыярытэты беларускай улады”: “Базысны інтарэс Беларусі — стварэньне сучаснай постіндустрыйнай эканомікі, устойлівай сыстэмы палітычнай дэмакратыі, сапраўды грамадзянскай супольнасьці, якая захоўвае і павялічвае найлепшыя культурныя традыцыі нашага народу”.

нават рэальнасьці Беларусі і, як вынік, ролю ў гэтых дасягненьнях дзяржаўнага апарату (адзін з самых плённых беларускіх філёзафаў Аляксандар Грыцанаў у “Белорусской газете” цалкам сур’ёзна гаворыць пра “дэбільную эканамічную палітыку беларускіх уладаў”; зрэшты ня ён адзін); сам дзяржаўны апарат і яго ўладкаваньне выклікае ў іх незьлічоныя фрустрацыі; надзеі на будучыню яны, як правіла, зьвязваюць толькі з дапамогай звонку.

Сем гадоў лукашэнкаўскага кіраваньня дапамаглі нам усім лепш зразумець, што такое беларускае грамадзтва, з чаго яно складаецца і чым яно кіруецца. Будзе фатальнай памылкай, калі гэты неацэнны досьвед ня будзе скарыстаны цяпер, калі засталося так мала часу да новых прэзыдэнцкіх выбараў.

Ня трэба баяцца пераймаць ад Лукашэнкі[1] таго, чым ён заслужыў любоў і падтрымку значнай часткі беларускага народу — пільнай увагі да яго рэальных, надзённых справаў і клопатаў, часам вельмі нязвычных для чалавека з эўрапейскай адукацыяй і эўрапейскім ладам мысьленьня. У сваёй дзейнасьці апазыцыйныя палітыкі абавязкова мусяць выкарыстоўваць і расійскую тэму. Геапалітычнае і нацыякультурнае становішча Беларусі сьведчыць, што расійская карта мусова будзе разыгрывацца беларускімі палітыкамі яшчэ многа дзясяткаў гадоў.

2001

1 Цяпер ня час і ня месца асэнсоўваць ролю і значэньне Лукашэнкі ў найноўшай гісторыі Беларусі. Але, відаць, усе пагодзяцца з тым, што гэтая асоба навязала значнай частцы беларускага грамадзтва ўяўленьне аб тым, які павінен быць сучасны палітычны дзеяч. У сёньняшніх варунках даводзіцца лічыцца з гэткага роду іміджам.

## 3. Геній Лукашэнкі,
## альбо Пра фэномэн беларускай улады

Біяграфія Аляксандра Лукашэнкі, можна сказаць, — тыповая й добра вядомая, а таму выкладаць яе тут ня мае сэнсу. Шмат напісана пра беларускага кіраўніка і як палітыка, энэргічнага, амбітнага й экспрэсіўнага, здольнага трымаць у драматычнай напружанасьці аўдыторыі сваіх прыхільнікаў ці падначаленых яму дзяржаўных службоўцаў.

Адметны аратар, Аляксандр Лукашэнка мае безумоўны артыстычны талент, які ня раз прымушаў ягоных слухачоў выціраць сьлёзы замілаваньня й гордасьці за «нашу» ўладу й краіну. Выбуховы й экстравагантны палітык, ён не аднойчы «зрэзваў» сваіх апанэнтаў аргумэнтамі, пасьля якіх самыя розныя аўдыторыі пляскалі яму ў ладкі.

Але ў рэальным, пабытовым жыцьці Лукашэнка значна больш просты і спакойны: ён як бы адзін з тых беларусаў, якія без залішніх мітрэнгаў і ў першы, і ў другі, і ў трэці раз абралі яго прэзыдэнтам краіны. Іншымі словамі, Лукашэнка — своеасаблівы беларускі фэномен, выштурхнуты на паверхню самімі насельнікамі гэтай зямлі. А таму тую заўважную велічыню, якая ўтвараецца ў выніку неадпаведнасці паміж «пабытовым» Лукашэнкам і Лукашэнкам на палітычнай сцэне, экспрэсіўным і няўрымсьлівым, мы будзем называць *геніем* Лукашэнкі.

Такім чынам, “зьнікае” Лукашэнка як “просты вясковы хлопец”, як “дырэктар саўгасу” ці нават як “першы прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь” і зьяўляецца

“лукашэнка” як ананім, імя агульнае, як сукупнае ўвасабленьне шэрагу ідэалягічных практык, міталягічных уяўленьняў, карацей, як міт, што займеў сваё ўласнае жыцьцё.

Каб ясна здаваць сабе справу з таго, што спраўдзілася ў гэтым фэномэне, трэба яшчэ раз кінуць позірк назад.

Тое, што гістарычна ляжыць ззаду ад нас, зазвычай называюць “вялікім сацыяльным экспэрымэнтам”, а тое, што ляжыць яшчэ далей, – каляніяльным досьведам існаваньня ў імпэрыі. Для насельнікаў нашай зямлі вялікі сацыяльны экспэрымэнт, акрамя ўсяго іншага, азначаў яшчэ й далейшую траўматызацыю калектыўнай сьвядомасьці. А таму за ананімам «лукашэнка» ў аддаленай рэтраспэктыве стаіць проста чалавек на зямлі. І гэтаму «чалавеку на зямлі» наканавана прайсьці складаную эвалюцыю, каб у рэшце рэшт з яго і выйшаў «лукашэнка».

Дык што ж выпала перажыць зразуметаму так чалавеку на зямлі? Перадусім, гэта – досьвед быцьця-ў-прасторы-калянізацыі альбо досьвед культурнай агрэсіі, якую захоўвае калектыўная памяць беларусаў. А відавочнай пэрспэктывай усялякіх калянізацыйных захадаў былі і застаюцца рознага роду культурныя гібрыды. Загэтым, гаворачы пра «лукашэнку» як пра ананіма, угрунтаванага ў калектыўна сьвядомае й калектыўна падсьвядомае, мы маем на ўвазе ня толькі яе калянізацыйныя практыкі, але і прычыны, якія робяць магчымай вернасьць ім.

Ідэалягічная машына вялікай імпэрыі працавала для таго, каб пазбавіць «лукашэнку» яго імя, зьнішчыць любыя сьляды «чалавека на зямлі», які стаяў у яго за сьпінай, міталягізаваць ягоную сьвядомасьць.

Такім чынам, «лукашэнка» – плод карпатлівай гістарычнай сэлекцыі. Урэшце сэлекцыянэры

стварылі дасканалы тып з дасканалымі рэакцыямі на вонкавыя раздражняльнікі. А таму адмоўная рэакцыя «лукашэнкі», да прыкладу, на рост беларускага нацыяналізму падчас развалу Савецкага Саюзу і набыцьцё Беларусяй незалежнасьці, была заканамернай.

Трагедыя ананіма “лукашэнкі” і адначасова яго істотнае дасягненьне ў тым, што “беларус” для яго нават не нацыянальнасьць, а тэрытарыяльная прыналежнасьць, несумяшчальная з доўгай, і да таго ж пераважна эўрапейскай палітычнай, юрыдычнай і культурнай традыцыяй. Гэтая супярэчнасьць будзе заўсёды праяўляцца ў сытуацыі выбару й блытаць самыя розныя пэрспэктывы. Адсюль – добравядомыя вынікі розных сацыялягічных апытаньняў, калі беларусы адначасова хочуць і захаваць незалежнасьць краіны, і “ўвайсьці” ў Расею.

“Лукашэнка”, такім чынам, – гэта толькі вяршыня айсбэргу, імя якому “беларускі народ”. Сама веда пра гэты народ доўгі час была манапольнай уласнасьцю імпэрыі, якая дэмагічна выступала ад яго імя і адзінаасобна прэтэндавала на тлумачэньне і выражэньне ягоных законных інтарэсаў.

Паняцьце «народ» мае тут, як мы бачым, сваю спэцыфіку. У пляне зьместу яно не адпавядае ні паняцьцю «нацыя», ні паняцьцю «грамадзянская супольнасьць». «Народ» тут — гэта ўзьніклы на дадзенай тэрыторыі цягам пэўнага часу канглямэрат людзей, аб’яднаных пэўным узроўнем спажываньня і ідэалягічнай індактрынацыі. Да таго ж далёка ня кожная сацыяльная група ці праслойка можа быць аднесеная да «народу». Як засьведчыў досьвед эпохі Лукашэнкі, да «народу» ні ў якім разе ня можа быць залічаная тая частка беларускай інтэлігенцыі, якая не пайшла на калябарацыю з рэжымам («бо яна бясконца далёкая ад народу»), або непадкантрольная

лукашэнкаўскай адміністрацыі бізнэс-эліта («вашывыя блохі» ў тэрміналёгіі Лукашэнкі). Карацей, «народ» — гэта не незалежныя журналісты і актывісты апазыцыйных партый, а сталявары, матальшчыцы і прадзільшчыцы, людзі рабочых прафэсіяў, працаўнікі сяла, міліцыянэры, памежнікі ды вайскоўцы.

Гэтае вульгарнае, ужыванае з мэтай палітычных маніпуляцыяў паняцьце «народ» распаўсюджваецца і на той сэгмэнт беларускага грамадзтва, які беспасярэдне залежыць ад дзяржавы. «Народ» — гэта работнікі адміністрацыйнага апарату, дзяржаўнага сэктару прамысловасьці, бюджэтных арганізацый — усіх тых сфэраў, якія былі сыстэмаўтваральнымі для таталітарнай савецкай дзяржавы. Такі «народ» не валодае ні супольнай культурнай, ні канфэсійнай, ні пагатоў нацыянальнай ідэнтычнасьцю. Яго лучыць у адно кантроль аўтарытарнай дзяржавы, зь якой ён зьвязвае надзеі на дабрабыт.

І ўсё ж народ здолеў абраць сабе лідэра. І ў гэтым ёсьць найвялікшая ягоная заслуга, бо за савецкім часам ці раней ён ня толькі ня мог выбраць кагосьці “свайго”, але нават і ня меў самой магчымасьці такога выбару.

А таму было б вялікай аблудай сказаць, што “лукашэнка” сымбалізуе шлях у нікуды. Якраз, наадварот, ён азначае шлях да іншай Беларусі. Больш таго, ужо нейкі час існуюць некалькі Беларусяў. Адна зь іх намагаецца быць эўрапейскай краінай. Другая рада застацца “ўнутранай калёніяй” Расіі, каб разам з апошняй зьдзяйсьняць сваю вялікую славянскую місію.

Разам з тым ён уяўляе сабой вяршыню недаўстаноўленасьці: ён увасабляе сабой яшчэ недааформленыя зьместы і недаакрэсьленыя значэньні.

Геній Лукашэнкі выявіў усю праблематычнасьць і беларускай нацыі, і беларускага грамадзтва,

і беларускіх элітаў. Яго абраньне на прэзыдэнта ў пэўных колах тлумачылі прыкрай выпадковасьцю, фатальным зьбегам абставінаў, непамыснай палітычнай кан’юнктурай. За нейкі час, аднак, стала ясна, што іншага проста не было дадзена.

Таксама ў гэтых колах мянялася й стаўленьне да асобы Лукашэнкі. Ад страху і адкрытай непрыязьні яно пачало хінуцца ў бок асьцярожнага зацікаўленьня яго асобай. У гэтых колах пачалі справядліва аддзяляць сэнс палітычнай дзейнасьці Лукашэнкі ад яго яскравай, маляўнічай індывідуальнасьці.

Сваім зьяўленьнем Лукашэнка абавязаны гістарычнай мэтамарфозе. Раней такія, як ён, былі дырэктарамі саўгасаў, нізавымі актывістамі, сакратарамі пярвічных партыйных арганізацый, настаўнікамі ў школах, участковымі міліцыянэрамі, пажарнымі, лекарамі, вясковымі фэльчарамі. Ніколі іх не дапускалі на пасады, на якіх у іх зьявіліся б рэальныя інструмэнты палітычнага ціску на рэчаіснасьць.

Адчуваючы сваю непаўнавартасьць і, часткова, увесь камізм свайго палажэньня як вышэйшага кіраўніка дзяржавы, Лукашэнка, асабліва на пачатку сваёй прэзыдэнцкай кар’еры, мусіў штодня і шточасіны пацьвярджаць свой высокі статус перадусім самому сабе. Для гэтага ён выкарыстоўвае моцна пашыраны ў нашых краёх стэрэатып носьбіта ўлады і ўладных паўнамоцтваў. Згодна з гэтым стэрэатыпам, першакрыніцай улады ёсьць найперш сіла, а не выкананьне літары закону. Быць валадаром азначае выпраменьваць гэтую сілу на сваіх падданьнікаў, усьцяж трымаць іх у стане жорсткага падпарадкаваньня. Добрым начальнікам будзе толькі той, ад якога дранцьвее ўсё навокал.

У такім грамадзтве менавіта ўлада дае ўсё. Ні сумленная шматгадовая праца, ні прарыў на навуковай

ніве, ні геройскі вайсковы чын ня здольныя прынесьці таго, чаго дае найвышэйшая ўлада. І каб зрабіць гэтую ўладу сакральнай, яе носьбіт прымушае ўсё грамадзтва лічыць іншых прэтэндэнтаў на ўладу «экстрэмістамі» і «адмарозкамі». Зрэшты, так думае ня толькі ён, але і маса грамадзян, у якіх наіўныя палітычныя пагляды шчасьліва спалучаюцца з рабскай псыхалёгіяй.

Засяродзіўшы ўладу ў сваіх руках, зрабіўшы гэтую ўладу, наколькі гэта магчыма ў дадзеных варунках, абсалютнай, Лукашэнка тым самым абцяжарыў сябе абсалютнай адказнасьцю за ўсё, што дзеецца наўкола. Ён стаецца адказным практычна за ўсё – майскія замаразкі, зьнішчэньне флёры і фаўны, прайгранку беларускай зборнай на чэмпіянаце сьвету па хакеі і г.д.

Нарэшце, сваім зьяўленьнем Лукашэнка выявіў ня толькі праблематычнасьць беларускага грамадзтва, але й беларускай інтэлігенцыі. Можна сказаць нават больш: беларуская інтэлігенцыя (чытай: мясцовая савецкая й зрусыфікаваная), як ніхто іншы, усяляк рыхтавала прыход Лукашэнкі да ўлады, які і стаўся рэчаіснасьцю.

1998–2004

## 4. Культурны застой і эканамічны рост: першыя 10 год Лукашэнкавага кіраваньня

Кнігі, якія згадваюцца ў артыкуле:

*Ідыёт самы настаяшчы. Творы й экспромты ў розных жанрах. Менск-Варшава-Масква: Kontra-press, 2001.*

*В центре внимания всей нашей политики должны быть люди. Материалы совещаний активов областей и г. Минска по вопросам социально-экономического развития регионов Республики Беларусь в 2001-2005 гг. Минск: Беларусь, 2002.*

*А. Г. Лукашенко. Исторический выбор Беларуси. Лекции, прочитанные в высших учебных заведениях г. Минска. Минск: Академия управления при Президенте Республики Беларусь, 2003.*

У Сяргея Даўлатава ёсьць афарызм: «Пасьля камуністаў я найбольш ненавіджу антыкамуністаў». Даўлатаў не любіў камуністаў з антыкамуністамі за іх візіянэрства, дагматызм, вернасьць малажыцьцёвым ідэалам і адарванасьць ад рэальнага жыцьця. Усьлед за Даўлатавым можна сказаць: «Пасьля лукашэнкаўцаў мяне найбольш нудзіць ад антылукашэнкаўцаў». Іх палітычная культура дэфармаваная, стаўленьне да палітыкі вельмі павярхоўнае і грунтуецца на дарэфлексійнай ацэнцы мэтадаў асобы, якую прынята называць галоўным палітыкам у нашай краіне. Ім уласьцівы сьветапогляды, адрозныя ідэалягічна,

але надзвычай падобныя характарам мысьленьня. Іх яднаюць непавага да голасу іншага, нецярпімасьць і агрэсіўнасьць, гераічны патас ахвярнасьці ў імя нібыта вечных, унівэрсальных вартасьцяў, вера ў прагрэсіўны, адзіна правільны характар сваёй пазыцыі і непазьбежнасьць гістарычнага трыюмфу гэтай пазыцыі.

Іншая рэч, што афіцыйны бок цынічна прамаўляе свой *message*, карыстаючыся самымі сучаснымі СМІ і найноўшымі тэхналёгіямі ачмурэньня насельніцтва, а яго праціўнікі вымушаны выказваць свае думкі ў мэдыях раньнекапіталістычнага часу — малатыражных газэтах і часопісах, улётках і нелегальных брашурах.

Кніжка «Ідыёт самы настаяшчы» прэзэнтуе крайнюю пазыцыю адмоўнага стаўленьня да Лукашэнкі. Яе прызначэньне — з «шклоўскага ідала» зрабіць «шклоўскага дэмана», рэпрэзэнтуючы яго праз цэлы шэраг нэгатыўных вобразаў. Дасьледчыку літаратуры, у сваю чаргу, гэта дае мажлівасьць прасачыць храналёгію паўставаньня твораў, а таксама жанраў і стыляў антылукашэнкаўскай палітычнай агіткі.

У вэрсіі ўкладальнікаў «Ідыёта…», яе родапачынальнікам быў грамадзянскі лірык Вядзьмак Лысагорскі, аўтар шырока вядомай паэмы «Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт», за напісаньне якой яго беспасьпяхова й апатычна спрабавалі перасьледаваць. Гэты твор сярэдзіны 90-х выклікаў лавіну насьледаваньняў і імітацыяў, якія займаюць тут ільвінае месца. А яднае іх усіх сэнтымэнтальнасьць, фамільярнае абыходжаньне з палітыкамі, прыземлены мужыцкі гумар (на тэму стаўленьня Лукашэнкі да беларускай мовы і ягонай размытай культурнай ідэнтычнасьці, наконт ягонай схільнасьці да злоўжываньня лексыкай савецкай прапаганды), намёкі на датычнасьць прэзыдэнта да зьнікненьня шэрагу палітыкаў і г. д. Мастацкая вартасьць гэтых

«вяршоідаў» настолькі ўмоўная, што напісаць іх мог бы адзін чалавек ці група аўтараў з прыкладна аднолькавым узроўнем адукацыі і інтэлекту. Па сутнасьці, мы маем справу з палітычнымі ацэнкавымі меркаваньнямі ды лёзунгамі, пададзенымі ў вершаванай форме.

Бальшыня матэрыялу была створана пры канцы 90-х, калі нацыянальная незалежнасьць Беларусі ператварылася ў хадавы палітычны тавар, а дзяржаўная машына запрацавала на выцясьненьне беларускай культуры, зразуметай у шырокім сэнсе, з грамадзкага ўжытку. Таму іх ляйтматыў — перажываньні аб нацыянальнай незалежнасьці й культуры. Па ідэі, асабліва іранічную форму мела ім надаваць макаранічная мова:

*Да і вабшчэ, скажу вам чэсна,*
*Два ў мірэ сільных языка,*
*А мова — эта ўсім ізьвесна —*
*Ліш дзіалект. І то — пака.*

** * **

*Но нічаво — уж скора ўрэмя,*
*Кагда падпішам у Крамле*
*Мы дагавор, што наша племя*
*Ні хочыт быць Русі ваўне.*

*Аляксандра Первава Лукавава ка ўсем возьлюбленым і заблудшым чадам Рэспублікі Бальшавіков*

Абмеркаваньне палітычных мэтадаў дзейнасьці Лукашэнкі займае ў такіх творах другаснае месца. Затое на першым пляне — ягоная асоба, якая досыць агрэсіўна і азартна дэманізуецца, перадусім пры дапамозе эксплюатацыі нізкіх чалавечых жарсьцяў і эфэкту блізкага знаёмства зь вехамі біяграфіі пэрсанажа, прэзэнтаванага як

*байструк-недачалавек (чый бацька* - «женатый одноглазый мужчина по имени Гирш»*), нацыянальны вырадак і здраднік; беспрынцыповы аратар, прыслужнік мафіі, палітычны псыхапат і садыст, грабар свабоды СМІ* («изгнаны редакторы — это ли не факторы?»), *няверны муж, пачынальнік ценявой прыватызацыі, маскоўскі халуй, кадэбісцкі стаўленік, далакоп дэмакратыі, яе інстытуцый і працэдур, нацыянальны праклён, вызнаўца чужой палітычнай сымболікі, узурпатар улады, прыхільнік Гітлера, мілітарыст савецкай загартоўкі, аматар нецэнзурнай лексыкі, палітычная прастытутка; будаўнік лядовых палацаў і паветраных замкаў, пацыент шклоўскага дурдому; «абмежаваны, цьвердалобы, сьлязьліва-гнеўны цемрашал», «всінародный пустазвон».*

Як і ў любым прапагандысцкім опусе, яго канструкцыя трымаецца на тонкім спалучэньні праўды, паўпраўды і непрыкрытай хлусьні. Гэты хісткі балянс, здаецца, незваротна зьнікае пры апісаньні вонкавага выгляду пэрсанажа. Градус яго акарыкатурваньня тут зашкальвае. Пэрсанаж вытрымлівае параўнаньне выключна з прадстаўнікамі эўразійскай і афрыканскай фаўны: *«касамозгі, віславусы», «чэрап вусаты», «пляшывы, ваўкаваты пёс», «цыганскі кот-баюн», «каменна-вусаценькі бажок», «дзікім воласам скрозь, нібы шчэцьцю, зарос», «плешивый косолапый гад», «шкловская обезьяна сипун-ревун... ворочает тараканьими усищами, убаюкивает сладкими речами».* Або:

> *Сёньня ён у вышшым чыне*
> *Ды нікчэмны, як гарыла.*
> *Спачуваю я жанчыне,*
> *Што казьліну нарадзіла!*

Гэтую лінію не бяз бляску разьвіў і біёграф Лукашэнкі Яўген Мяжэўскі, згодна зь якім будучы беларускі

прэзыдэнт у пачатковай школе пастаянна прагульваў заняткі і, *«ожидая с уроков своих одноклассников, пугал их, кукуя с придорожных елок».*

Зьверападобны пэрсанаж надзяляецца пярэстым атачэньнем, асноўным спосабам «апусканьня» якога робяцца маніпуляцыі з прозьвішчамі. Зімоўскіператвараецца ў Зюзімоўскага, Азаронак — у Азьвяронка (варыянт Абдуронак), Казіятка — у Азіятку, Цапкала — у Цыпкалу, Замяталін — у Вымяталіна (варыянт Дрысталін), Ціцянкоў — у Піцянкова (варыянт Цюцянкоў), Гаварухін — у Гаўнюхіна, Чыкін — у Чмыкіна, Посахаў — у Пасюхова. І — што, мабыць, павінна гучаць асабліва дасьціпна — самога пэрсанажа называюць Алкашэнкам.

Калі ўкладальнікі «Ідыёта...» ставілі сабе мэтай падрыў існых культурных герархій, то яны, безумоўна, яе дамагліся. З пункту гледжаньня падбору літаратурнага матэрыялу і яго мастацкай якасьці яны як бы вярнуліся ў пачатак XIX ст., калі літаратура, напісаная неўнармаванаю, насычанай рэгіяналізмамі і русізмамі беларускай моваю, была здольная толькі да бурлеску і пародыі. Герархія літаратурных жанраў і стыляў амаль двухсотгадовай даўніны тут старанна захаваная: кепскаю беларускаю (або макаранічнаю) моваю напісаны банальныя творы ў нізкіх жанрах з маргінальнай эстэтычнай вартасьцю, а па-расейску — творы ў «высокіх» жанрах і/або з інтэлектуальнымі прэтэнзіямі. Ці ж эфэктыўная заснаваная на каляніяльных культурных мадэлях крытыка асобы, якая дала другое жыцьцё інстытуцыям і практыкам расейскага культурнага дамінаваньня ў Беларусі, — пытаньне рытарычнае. Замест дэманізацыі пэрсанажа такая крытыка вядзе адно да баналізацыі яго вобразу.

Паводле клясыфікацыі Міністэрства інфармацыі, «Ідыёт самы настаяшчы» — масавае грамадзка-палітычнае выданьне. Яго адрасная група — народныя масы,

а не карпарацыі палітыкаў ці інтэлектуалаў. Гэта, аднак, ня значыць, што і першыя, і другія не падзяляюць пададзеных у гэтай кніжцы ўяўленьняў пра Лукашэнку або ацэнак яго асобы і дзейнасьці. Можна сказаць больш: палітыкі і інтэлектуалы, як публічныя ідэолягі, да якіх прыслухоўваецца ўсё грамадзтва, нясуць на сабе цяжар бацькоўства гэтых ацэнак і ўяўленьняў.

І хаця мысьленьне палітыкаў пра Лукашэнку, несумненна, больш лягічнае і сыстэмнае, але бязь іх стараньняў папулісцкія формулы кшталту “Лукашэнка — агент ФСБ” ці “нацыянальны здраднік” ня могуць стаць здабыткам масавай сьвядомасьці. Магчымасьць паназіраць за працэсам імплянтаваньня такіх формулаў даў нядаўна Зянон Пазьняк падчас сваёй прэс-канфэрэнцыі на радыё «Свабода». Тэзу «Лукашэнка - агент расейскіх спэцслужбаў» ён абгрунтаваў так:

*Барацьба ідзе за Беларусь, і ў гэтым змаганьні Лукашэнка ёсьць стаўленік і закладнік расейскага гэбізму на Беларусі. Ягоныя паказныя канфлікты з Масквой — гэта ёсьць сваркі ў лягеры саюзьнікаў дзеля палітычных мэтаў.*

*Лукашэнка не ператварыўся ў змагара за незалежнасьць. Думаючым людзям ня трэба паўтараць прапагандысцкіх «вэрсусаў». Прыступы ягонага «сувэрэнітэцтва» правяраюцца ўнутранай і зьнешняй палітыкай, а яна — не зьмяняецца. Сутнасьць жа яе — вынішчэньне ўсяго беларускага. (У апошні час вынарадаваньне стала нават больш жорсткім.) Я ўжо казаў, што сварка Лукашэнкі з Масквой — гэта паказная грызьня ў лягеры саюзьнікаў. Канфлікт ня мае прынцыповага характару (бо ў гэты ж час рыхтуецца ўвядзеньне расейскага рубля, гандлююцца пра «канстытуцыйны акт», плянуюць выбары ды рэфэрэндумы і г. д.).*

Тлумачэньнем палітычнай непахіснасьці Лукашэнкі яго апорай на ўсюдыісных і надзвычай эфэктыўных расейскіх чэкістаў павінны быць задаволеныя ўсе тры бакі: і расейскія спэцслужбы, якім робіцца бясплатная рэкляма і тым самым умацоўваецца міт аб іх усёмагутнасьці, і Лукашэнка, які сам дзе можа кічыцца сваёй блізінёй да іх, і сам Пазьняк, які знайшоў зручную інтэрпрэтацыю сваёй палітычнай дыскваліфікацыі.

Такая спрошчаная тэлеалёгія — гэта тэлеалёгія носьбіта траўматызаванай сьвядомасьці, схільнага гіпэрбалізаваць адны грамадзкія працэсы і затушоўваць або ідэалізаваць іншыя. Зрастаньне Лукашэнкі з расейскімі спэцслужбамі ў трактоўцы Пазьняка становіцца ўнівэрсальнай адгадкай на ўсе загадкі «лукашэнкаўскай» эпохі палітычнай гісторыі Беларусі[1].

Як на мяне, за настойлівай апэляцыяй да «вонкавых агрэсіўных сілаў» стаіць паталягічнае нежаданьне крытыкаў Лукашэнкі ўбачыць унутраныя прычыны сваіх паразаў, адмовіцца ад культурных і гістарычных мітаў, якія дэфармуюць успрыняцьце навакольнай

---

1 Крыху іншы варыянт залежнасьці беларускай палітыкі ад ФСБ, Крамля і іншых расейскіх велічынь прапагандуе вядомы сацыёляг Алег Манаеў. Паводле яго, адзін з ключоў ад кабінэту з шыльдай «Прэзыдэнт РБ» знаходзіцца ў Крамлі, Лукашэнкава палітыка «новага нацыяналізму» не знаходзіць сур'ёзнай падтрымкі як у Маскве, так і сярод беларускай намэнклятуры ды ў грамадзтва ў цэлым, бо «здравомыслящие люди понимают: Россия добилась больших успехов, чем Беларусь», а рэгулярныя паразы дэмакратычных сілаў тлумачацца іх антырасейскімі выпадамі. Выснова з гэтага: прымайце наша грамадзтва зь яго русіфікацыяй, саветызацыяй і іншымі болькамі такім, якім яно ёсьць, гаварыце зь ім на адной мове -- інакш яно вас не зразумее. Кіньце цешыць сябе дурной ілюзіяй, што на беларускай мове, мове палітычных аўтсайдэраў тут можна некага ці нешта разварушыць. Насамрэч маем справу з падменай паняцьцяў: справядлівае патрабаваньне да дэмсілаў улічваць у сваёй палітычнай барацьбе інтарэсы расейскамоўных беларусаў падмяняецца безапэляцыйным заклікам улічваць палітычныя інтарэсы Крамля (стандартныя для любога буйнога геапалітычнага актора: уплываць на суб'екты палітычнага поля і маніпуляваць «мясцовай» грамадзкай думкай).

рэчаіснасьці. У аснове такога мысьленьня ляжыць пасылка, што мы, адраджэнцы і нацыянальныя руплівцы, ня можам быць разгромленыя ўласнай жа нацыяй, паколькі мы адраджаем яе тысячагадовыя традыцыі і робім усё магчымае для яе дабра. Як нацыя можа прагаласаваць супраць гонару нацыі, супраць свайго сумленьня, проста не ўкладаецца ў галаве. Сэнсавы акцэнт робіцца на паўнаце, мудрасьці і сьпеласьці беларускай нацыі, а таксама на багацьці і адвечнасьці яе традыцыяў. Калі гэты падыход не вытрымлівае сутыкненьня з рэальнасьцю, адказам становіцца не яго рэвізія, а гістэрычны пошук ворагаў сярод чужых: нацыю цяпер ірве на часткі дракон расейскай ФСБ.

Тым часам гісторыя незалежнай Беларусі даводзіць, што паразы нацыянал-дэмакратаў выкліканыя тым, што краіна збольшага заселеная «гома саветыкусам», а для сур’ёзнага разгляду тэмы маніпуляцыяў грамадскай апініяй з боку палітычных інжынэраў, зьвязаных з спэцслужбамі, не стае аргумэнтаў і фактаў. На жаль, за вернасьць такой абстракцыі даводзіцца плаціць палітычнай маргіналізацыяй: з ФСБ, як і з абсалютным злом, простаму чалавеку няма як змагацца, яе можна толькі баяцца (і хавацца ад яе).

У адрозьненьне ад публічных палітыкаў інтэлектуалы вольныя ад абавязку пастаянна падкрэсьліваць адданасьць сваім ідэйным прынцыпам (пад выглядам якіх у нашым малаадукаваным грамадзтве часам крыюцца дзікія забабоны) і дбаць пра грамадзкі рэзананс сваіх выказваньняў. Таму ў іх асяродзьдзі дыскусіі на актуальныя палітычныя тэмы найбольш жывыя і ідэалягічна найменш запраграмаваныя.

Адно з такіх абмеркаваньняў датычна ролі і значэньня Лукашэнкі адбылося летась паміж, кажучы мовай савецкай прапаганды, двума наймітамі амэрыканскага капіталу — супрацоўнікамі беларускай службы радыё

«Свабода» Юр’ем Дракахрустам і Сяргеем Навумчыкам у інтэрнэт-выданьні «Naviny.by».

На думку Ю. Дракахруста, стаўленьне наступных пакаленьняў беларусаў да Лукашэнкі можна будзе параўнаць з стаўленьнем сучасных гішпанцаў да дыктатара Франка, наступствы чыёй дыктатуры краіне ўдалося параўнальна лёгка пераадолець. Шмат якія гішпанцы лічаць, што Франка выратаваў краіну ў тагачасных умовах. Лукашэнку, у адрозьненьне ад Франка, давялося будаваць дзяржаву фактычна з нуля, і таму ён навечна застанецца ў гісторыі як першы прэзыдэнт Беларусі, пры якім краіна набыла свае інстытуты, хай прымітыўныя і фэадальныя па сутнасьці і якія хоцькі-няхоцькі давядзецца пасьля дасканаліць. Яму наканавана ўвайсьці ў пантэон беларускіх дзеячоў ад Вітаўта да Машэрава, стаць увасабленьнем аднаго з этапаў беларускай гісторыі, якую, «у адрозьненьне ад прэзыдэнтаў», не выбіраюць.

У адказ С. Навумчык абвінаваціў свайго апанэнта ў міталягізацыі Лукашэнкі, выкліканай ягонымі незалежніцкімі заявамі, зробленымі пад уплывам сэзоннага абвастрэньня стасункаў з Расеяй. Лукашэнка насамрэч дзяржавы не ствараў, а толькі дзякуючы трагічнаму зьбегу абставінаў узурпаваў у ёй уладу. Ён не гарант беларускага сувэрэнітэту, паколькі сам сувэрэнітэт залежыць ад ягоных капрызаў. Падмуркі дзяржаўнасьці былі закладзеныя, пакуль парлямэнт узначальваў Станіслаў Шушкевіч. Сам Лукашэнка не распрацоўваў ні Дэклярацыі аб сувэрэнітэце, ні законапраектаў аб стварэньні войска, памежнай і мытнай службы, фінансавай сыстэмы і г. д. Перасьледуючы карысьлівыя мэты («*рабілася ўсё, як вядома, «пад Кебіча*»), ён падтрымаў толькі ўвядзеньне пасады прэзыдэнта. Ад 1994 г., з гледзішча адпаведнасьці нацыянальным інтарэсам і дэмакратычным стандартам, пачынаецца суцэльная

дэградацыя беларускай дзяржавы, якая празь дзесяць год дасягнула свайго гістарычнага максымуму. Парлямэнт па-рабску залежны ад Лукашэнкі і функцыянальна недзеяздольны, апазыцыя пазбаўлена доступу да беларускага тэлеэфіру, незалежнасьць судовай сыстэмы цалкам зьнішчана, спэцслужбы, міліцыя і пракуратура выкарыстоўваюцца для палітычнага перасьледу, войска, памежная і мытная служба абслугоўваюць інтарэсы Расеі.

Калі Лукашэнка і герой, то выключна нэгатыўны, значна горшы за Машэрава, пры якім кнігі Быкава, Барадуліна, Брыля, Бураўкіна выходзілі непараўнальна большымі накладамі, рэгіянальныя газэты друкаваліся па-беларуску, а юбілейны вечар Караткевіча быў паказаны па тэлебачаньні. Праўда, пры Машэраве цяжка было пачуць на вуліцах Менску «беларускую гаворку, але за беларускае слова не цягнулі ў міліцэйскі пастарунак». Лукашэнка стварыў такі прэцэдэнт нацыянальнага выраджэньня, якога ня ведае сусьветная гісторыя, бо ніхто дагэтуль з нацыянальных лідэраў не дазваляў сабе і свайму атачэньню забараняць нацыянальную сымболіку, мову і гісторыю, разбураць нацыянальную адукацыю і цынічна зьдзекавацца з нацыянальных пачуцьцяў.

Такім чынам, у 2003 г. Беларусь, як ніколі, была блізкая да страты сваёй дзяржаўнасьці, існаваньне якой залежыць вылучна ад волі аднаго чалавека. І ў тым, што Беларусь пакуль застаецца незалежнай, аніякай Лукашэнкавай заслугі няма:

*Уявіце сабе бацьку, які падышоў да краю бездані зь немаўлём і трымае яго на выцягнутых руках. Ці будзеце вы хваліць яго за тое, што ён ня кінуў дзіцё ўніз (бо мог жа і кінуць)? Хутчэй у вас узьнікнуць сумненьні ў адэкватнасьці паводзінаў такога бацькі. У штаце Нью-Ёрк падобны экспэрымэнт (стварэньне пагрозы жыцьцю асобе, якая ня ў стане сябе*

*абараніць) абыдзецца вам у бясплатныя гамбургеры на вельмі абмежаванай тэрыторыі цягам ад трох да пяці гадоў — гэта ўжо як вашаму адвакату ўдасца дамовіцца з судзьдзём.*

Хаця Сяргею Навумчыку не адмовіш у назіральнасьці і праніклівасьці, шэраг яго аргумэнтаў можна бязь цяжкасьці аспрэчыць. Яго мысьленьне не свабоднае ад ідэалізацыі падзеяў дзесяцігадовай даўнасьці і вызначаецца атаясамліваньнем палітычнай рыторыкі і палітычнай прагматыкі лукашэнкаўскага рэжыму. Каб увекавечыць гістарычную ролю апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце XII скліканьня, ён вымушаны разумець «пабудову беларускай дзяржавы» тэндэнцыйна, як разавы акт заснаваньня яе інстытутаў, а не пастаянную мэтанакіраваную працу для падтрыманьня яе дзеяздольнасьці. Апрача зьмяненьня заканадаўства і перапрафіляваньня міністэрстваў і ведамстваў, незалежная Беларусь востра патрабавала кадраў, якіх дагэтуль не рыхтавалі на яе зямлі: мытнікаў і памежнікаў, вышэйшых афіцэраў і вайсковых лекараў і г. д. Без пастаноўкі іх вытворчасьці на паток, што было зроблена ўжо пры Лукашэнку, нельга сур'ёзна гаварыць пра «нацыянальную дзяржаўнасьць».

Ідэя, згодна зь якой беларуская дзяржава стаіць на краі згубы, бо яе арганізацыя не адпавядае высокім дэмакратычным стандартам, таксама з абсягу сафістыкі. Гісторыя існаваньня дзяржаваў налічвае тысячы гадоў, а гісторыя высокіх дэмакратычных стандартаў мае ледзьве пару стагодзьдзяў. Вядома, пры іх выкананьні дзяржаўная сыстэма робіцца больш стабільнай, але й нічога ня ведаючы пра іх, пэўныя дзяржавы існавалі тысячу гадоў. Рэпліка пра неадпаведнасьць дзяржаўнай палітыкі нацыянальным інтарэсам навеяна перш-наперш іх дыямэтральна розным разуменьнем апанэнтамі. Проста адзін выступае ад імя меншыні, заклапочанай крызысам нацыянальнай культуры, укараненьнем

у краіне высокіх стандартаў дэмакратыі і рынкавай эканомікі, а другі — ад імя бальшыні, якая не ўспрымае нацыянальнай культуры як каштоўнасьці і спавядае патэрналізм. (Адчуваньне гэтай дыхатаміі нацыянальных інтарэсаў ёсьць у прадмове Лукашэнкі да кнігі «Исторический выбор Беларуси», калі ён гаворыць пра разуменьне «*нацыянальных інтарэсаў, уласьцівае кіраўніцтву Рэспублікі Беларусі*».)

Да таго ж, аўтар сьцьверджаньня «ў 2003 г. Беларусь найбліжэй стаяла да страты сваёй дзяржаўнасьці» яўна прэтэндуе быць мэтафізычным голасам нацыі, а само яе паняцьце разумее як вянец сусьветнага культурна-гістарычнага працэсу:

*...Абсалютна неістотна, колькі чалавек спавядаюць [нацыянальныя] пачуцьці і лічаць сабе абражанымі — дзесяць мільёнаў ці проста дзесяць. У XIX ст. у Чэхіі людзей, якія размаўлялі па-чэску, было менш за сотню, але іхнія высілкі і вера ў нацыянальнае адраджэньне зрабілі тое, што здавалася неверагодным. Вось гэтым людзям і ўзьведзеныя помнікі ў чэскіх гарадах.*

Вынесем за дужкі яўную нацяжку пра 100 чалавек, якія ў XIX ст. гаварылі па-чэску (мабыць, маецца на ўвазе колькасьць буйных інтэлектуалаў у буйных гарадох). Згодна з прапагандаваным тут падыходам, калі сярод грамадзян і палітычных лідэраў пануе некампэтэнтнасьць, магчымы толькі элітарысцкі (арыстакратычны), а фактычна аўтарытарны стыль вядзеньня палітыкі, якая мае ажыцьцяўляцца ў імя нацыянальнага адраджэньня і дыктатуры нацыянальных інтарэсаў нават тады, калі яны па-сапраўднаму ўсьведамляюцца мізэрнай часткай эліты (людзьмі вышэйшай культуры). Пра дэмакратыю, кіраваньне пры якой ажыцьцяўляецца ад імя бальшыні і якая па азначэньні тоіць у сабе небясьпеку яе тыраніі, гаворка як бы зусім не ідзе.

Але самае неспадзяванае ў гэтым адказе — прыняцьце яўна каляніяльнай культурнай герархіі ў выглядзе «пантэону нацыянальных дзеячоў ад Вітаўта да Машэрава». Калі месца Вітаўта ў ім больш-менш апраўданае (хаця залічаць яго ў беларускія дзеячы нашы гістарыёграфы пачалі дзесьці з 1930-х гг.), то з Машэравым усё значна цяжэй. Пры ім духоўная атмасфэра дэбеларусізацыі дасягнула свайго апагею, а прысутнасьць беларускай культуры ў грамадзтве зьвялася да этнаграфізму і папулізму. Таму калі мы не адкідаем гэты пантэон у прынцыпе, памяшчаць у яго Машэрава, маскоўскага намесьніка ў беларускіх правінцыях, і не памяшчаць Лукашэнкі, першага прэзыдэнта незалежнай Беларусі і хроснага сына Машэрава ў пляне духоўнай культуры, вельмі праблематычна. Лукашэнка па-свойму пайшоў значна далей за Машэрава, абвінавачваючы Крэмль у дзяржаўным тэрарызьме, адключаючы расейскія тэлеканалы і публічна разважаючы пра магчымасьць уваходжаньня Беларусі ў Эўрапейскі Зьвяз.

Сказаць, што пасьля дзесяці гадоў эміграцыі *(рэд., – маецца на ўвазе эміграцыя С. Навумчыка*) ўспрыманьне Лукашэнкі ягоным апанэнтам стала гратэскавым, заснаваным на чужых і ўласных фобіях або што яно падкрэсьлівае няўменьне бачыць сьвет інакш як у чорна-белым сьвятле, значыць не сказаць усяго. Тут мы маем справу, бадай, з спробай задаць нарматыўнае прачытаньне фэномэну Лукашэнкі.

Адна з апошніх спробаў акрэсьліць «канон» мысьленьня аб Лукашэнку належыць нашаніўскаму публіцысту Сяргею Паўлоўскаму (гл. «Нашу Ніву» за 15 ліпеня 2004 г.). Паводле яго, наша эканоміка апошнім часам разьвіваецца і ў грамадзтве пануе мір дзякуючы не Лукашэнку, а «аб’ектыўным працэсам разьвіцьця», сіле і велічы нашага разумнага, гаспадарлівага і самастойнага народу. Наш народ пабудаваў бы кальцавыя дарогі, бібліятэкі ды лядовыя

палацы і без Лукашэнкі, які мноства разоў парушыў закон і тым самым як бы паставіў сябе па-за правам. Безь яго ў краіне быў бы лепшы парадак, рэгулярна выплачваліся б пэнсіі, зьмяншалася б беспрацоўе. На бяду, беларусы ня бачаць Лукашэнку альтэрнатывы, бо ён зьнішчыў нашу нацыянальную самапавагу. Калі нарэшце яго скінуць, у нас зьявіцца моцны парлямэнт (Беларусь за ўсю сваю тысячагадовую гісторыю ня ведала аўтарытарнага дыктатара — толькі веча, сойм і партыі), будуць шэсьць-сем незалежных тэлеканалаў і свабода думак, «скончыцца застой у нацыянальным разьвіцьці — тысячы людзей займуцца творчай беларускай працай», дырэктары прамгігантаў будуць самі разьвіваць вытворчасьць і нарэшце краіна «вернецца да стану збалянсаваных інтарэсаў усіх сваіх жыхароў».

Тое самае іншымі словамі выказаў у сваім нядаўнім інтэрвію вэб-рэсурсу «Naviny.by» палітоляг Уладзімер Роўда:

*За дзесяць гадоў народ паказаў, што ён здольны працаваць, стабілізаваць сытуацыю, дабіцца некаторага паляпшэньня матэрыяльнага становішча, разьвівацца па эўрапейскім шляху. Але ня дзякуючы прэзыдэнту, а, хутчэй, насуперак яму.*

Як і Антон Луцкевіч зь Лявонам Гмыракам сто гадоў назад, Роўда з Паўлоўскім заклапочаныя горам народным, а іх сьветапогляд інсьпіраваны апалёгіяй роднай старонкі, паэтыкай барацьбы дабра са злом, замілаваньнем чалавекам працы. Іх народніцтва, ідэя якога зводзіцца да служэньня народу, тут арганічна дапаўняецца яшчэ адной інтэлектуальнай імплікацыяй XIX ст., навеянай пазытывізмам, — верай ува ўсеагульны прагрэс. Каб не пакрыўдзіць народу і зьняць зь яго любую адказнасьць за Лукашэнкава панаваньне, ён разглядаецца сам па сабе, надзяляецца ўласным існаваньнем і аказваецца быццам ні пры чым.

Ужо ўсьлед за Зянонам Пазьняком, Паўлоўскі ўспрымае Лукашэнку як абсалютнае зло, якое ў яго варыянце падзеяў непазьбежна зьмятуць з палітычнай сцэны нейкія аб’ектыўныя заканамернасьці. У сьвеце, дзе пануе дабро, справядлівасьць і існуе найвышэйшае наканаваньне, змагацца зь ім ня варта: не пераадоленьне «застою ў нацыянальным разьвіцьці» наблізіць сыход Лукашэнкі, а яго палітычная сьмерць выкліча нацыянальнае адраджэньне.

Формула «Народ сам па сабе — Лукашэнка сам па сабе» немагчымая бязь веры ў гэтыя аб’ектыўныя заканамернасьці. Каб яны працавалі, павінны існаваць аб’ектыўныя перадумовы — і ў дадзеным выпадку імі служаць агістарычныя ўяўленьні пра тысячагадовую беларускую дэмакратыю і векавыя традыцыі нацыянальнай самапавагі беларусаў, зьнішчаныя Лукашэнкам. Ці ж не прасьцей, аднак, дапусьціць, што гэтай самапавагі ў нацыі ніколі не існавала, што і паказаў усяму сьвету першы беларускі прэзыдэнт? І чаму, калі мы верым у гэтыя заканамернасьці, мы ня хочам прызнаць, што «некаторае паляпшэньне матэрыяльнага становішча» беларусаў было аб’ектыўным наступствам эканамічных рашэньняў, прынятых на самым версе?

Мэта гэтага доўгага і бадай задоўжанага ўступу — паказаць, што стратэгія ачарненьня Лукашэнкі такая ж канфармісцкая і тупіковая, неадпаведная нацыянальным інтарэсам (таму што не дазваляе нацыі зразумець прыроду «лукашэнкаўшчыны»), як і вонкава супрацьлеглая стратэгія яго ўслаўленьня. Цьверджаньне, што пры Лукашэнку дэградацыя беларускай дзяржавы набыла катастрафічны памер, паводле сваёй бяздоказнасьці раўназначнае меркаваньню маскоўскага аналітыка Сяргея Караганава, што Аляксандар Лукашэнка — адзін з самых таленавітых палітыкаў на прасторы СНД, бо грунтуецца на затушоўваньні адных аспэктаў яго

дзейнасьці і выпячваньні іншых (апрача ўсяго іншага, Караганаў такой ацэнкай Лукашэнкі падкрэсьлівае, што Масква вітае насаджэньне расейскага каляніялізму ў былой расейскай калёніі самім прадстаўніком калёніі). Так лукашэнкаўцы з антылукашэнкаўцамі дасягаюць стратэгічнага кансэнсусу — фэномэн Лукашэнкі аказваецца зонай, закрытай для мысьленьня і адкрытай адно для прапаганды.

Стан, калі інтэлектуалы не прадукуюць адэкватных формулаў пазнаньня, а сур'ёзныя высновы з «лукашэнкаўшчыны» так і ня зробленыя, нельга лічыць нармальным. Абапольная забарона мысьленьня пра Лукашэнку не дазваляе разгледзець рэальныя практыкі, мэханізмы, праграмы і інстытуцыі, на якіх трымаецца яго панаваньне.

На шчасьце, па-за межамі нацыянальных рамак застаецца магчымасьць для непрадузятасьці, якой і скарысталіся ў пэўнай ступені чэскія аналітыкі з уплывовага выданьня «Transitions Online». У артыкуле «Лукашэнка: чалавек свайго часу?» (31 траўня 2004 г.) яны паспрабавалі адказаць на пытаньні «Чаму ў Беларусі за 10 апошніх гадоў не ўдалося ўкараніць дэмакратыю?», «Чаму Лукашэнка застаецца папулярным і непахісным?» і не задаволіліся ўжо дадзенымі адказамі.

Так, палітычная мэтады Лукашэнкі ўзыходзяць да савецкай эры, за што на Захадзе ён успрымаецца як анахранізм, а ў самой Беларусі зьмяншаецца колькасьць асяродкаў апазыцыі, але толькі гэтым не растлумачыш сакрэту яго палітычнага выжываньня. Яно было б немагчымым безь яго здольнасьці выдатна балянсаваць паміж рознымі палітычнымі сіламі і ўменьнем падзяляць і ўладарыць:

*Ён захаваў старыя савецкія сымбалі і традыцыі, але пераняў такую рыторыку савецкіх часоў, якая*

*падкрэсьлівае салідарнасьць з «старэйшым братам» Расеяй і ў той жа час прышчапляе савецкі варыянт беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьці. Ён захаваў калгасы і трымае на плаву старую прамысловасьць, але запрасіў у краіну замежныя банкі (калі не замежныя фінансавыя інстытуты), дазволіў дробны бізнэс у духу «гуляш-камунізму», пайшоў на пэўную прыватызацыю. Ён зьмяняў, пераставляў і адпраўляў у адстаўку чыноўнікаў. Ён надзяляў іх ільготамі, але не дзяржаўнай маёмасьцю. Магчыма, яго бамбізы застрэлілі колькі палітычных апанэнтаў. Але сярэдні беларус усё яшчэ цешыцца большай свабодай, чымся ў савецкі час.*

У трактоўцы названага чэскага выданьня важная асаблівасьць фэномэну Лукашэнкі — ягоная вялікая папулярнасьць у народзе. Яе прычыны ў эканамічнай сіле беларускага рэжыму: Лукашэнкаў стыль кіраваньня дазволіў пераадолець хаос у краіне. У параўнаньні з Украінай ці Расеяй беларуская прамысловасьць, нягледзячы на вялізныя дзяржаўныя датацыі, знаходзіцца ў дзеяздольным стане і дае работнікам працу, у краіне няма алігархаў і шалёнага сацыяльнага расслаеньня. Турмы хоць і перапоўненыя, але цяжкіх крымінальных злачынстваў параўнальна мала, а ўзровень карупцыі нізкі.

Нягледзячы на рытуальныя скокі вакол інтэграцыі з Расеяй, Лукашэнка абмяжоўваў ролю расейскага бізнэсу ў краіне, узмацняў беларускае пачуцьце адметнасьці, а калі Масква паказвала, што хоча іншага лідэра, «прыбіраў» патэнцыйных прамаскоўскіх канкурэнтаў (так ён зрабіў у сёлетнім красавіку, арыштаваўшы Міхаіла Марыніча, які меў цесныя бізнэс-сувязі з Расеяй). Наступнікам Лукашэнкі будзе не расейскі намесьнік, а вылучэнец беларускай сыстэмы, які прадэманструе моцныя асабістыя якасьці, найперш палітычную выжывальнасьць і волю адстойваць нацыянальныя інтарэсы.

Такім чынам, падсумоўваецца ў «Transitions Online», Лукашэнка — ня проста савецкі атавізм, а фэномэн пераходнага пэрыяду, вельмі пасьпяховы ў некалькіх важных адносінах. Ён заслужыў падтрымку, забясьпечыўшы пэўную стабільнасьць. Фэномэн Лукашэнкі можа азначаць пераход да экстравагантнай формы аўтакратычнай дзяржавы, але шмат хто ва Ўкраіне пазайздросьціў бы такой форме кіраваньня. Не выпадкова з прычынаў, зразумелых шмат якім беларусам, расейцы таксама прагаласавалі за сыстэму, якая выяўляе цяпер лукашэнкаўскія тэндэнцыі. Заканчваецца артыкул канстатацыяй, што Беларусь дагэтуль мае статус краіны-ізгоя, які заснаваны на асуджэньні міжнароднай супольнасьцю асобы Лукашэнкі, а ня створанай ім сыстэмы.

Пра падмену крытыкі створанай Лукашэнкам сыстэмы крытыкай ягонай асобы яшчэ пару гадоў таму гаварыў і палітоляг Андрэй Ляховіч. Каб унікнуць гэтага, далей мы засяродзімся на крытыцы палітычнай культуры, культурнай і эканамічнай палітыкі беларускага рэжыму з максымальна магчымай дыстанцыяй да самога Лукашэнкі. Іначай кажучы, нас будзе цікавіць не канкрэтная асоба, а яе непаўторнае культурнае асяродзьдзе, праграмы, стратэгіі і прынцыпы, якія абвяшчаюцца дзяржавай або прызнаюцца грамадзтвам рацыянальнымі.

## ПАЛІТЫЧНАЯ КУЛЬТУРА

Пасьля распаду СССР беларуская намэнклятура перажывала пэрыяд дэзарыентацыі. Калі раней яе палітычная легітымнасьць пацьвярджалася і зацьвярджалася ў Маскве, то цяпер крыніцай яе здабыцьця, па лёгіцы рэчаў, мусіў стаць беларускі народ. У гэты крытычны момант і паявіўся Лукашэнка зь ягоным талентам эфэктыўна спэкуляваць на вострых палітычных тэмах. Ён абапіраўся на жывыя электаральныя патрэбы, імкнуўся задавальняць

бягучы попыт на палітычным рынку, у імя чаго яму даводзілася то шукаць кансэнсусу, то ісьці на радыкальны канфлікт зь іншымі ўплывовымі палітычнымі акторамі — намэнклятурай і нацыянал-дэмакратычнымі сіламі. Перамога Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах 1994 г., якая ўпершыню на прасторы СНД парушыла правіла, згодна зь якім выбары адбываюцца толькі для таго, каб афармляць пераемнасьць выканаўчай улады, завяршыла кароткі пэрыяд заняпаду кабінэтнай палітыкі і нараджэньня палітыкі, канкурэнтнай у Беларусі. У яе аснове ляжала палітызацыя ў эгалітарысцкім духу маральна-этычных пытаньняў, на якіх зацыклена традыцыйная этнічная культура беларусаў («*Главный принцип моей политики — это справедливость*»)[1], абяцаньне паставіць у цэнтар дзяржаўнай палітыкі раней не прадстаўленыя палітычныя інтарэсы, рэвалюцыйны характар рыторыкі — што адрозьнівала Лукашэнку ад любога іншага лідэра краін СНД сярэдзіны 90-х, якія прайшлі «грунтоўную» савецкую партыйную або гаспадарчую школу[2], — патас суровага канфлікту з тымі сіламі і асобамі, якія хочуць зла беларускаму народу, падкрэсьліваньне ўласнай блізіні да яго («*Я не пошел по накатанной колее, как иные политики*») і, нарэшце, прэзэнтацыя сябе як палітычнага лідэра, які вядзе актыўнае публічнае жыцьцё і пастаянна заклапочаны станам сваёй грамадзкай падтрымкі.

Найбольш непрадстаўленымі на дзяржаўным узроўні былі палітычныя інтарэсы, вульгарныя з пункту гледжаньня эўрапейскага назіральніка. У чэрвені 2004 г., калі, згодна з дадзенымі НІСЭПД, толькі 39,5 % беларусаў выступалі за рэстаўрацыю СССР і 50,8 % — супраць, мала хто ўжо памятаў, што ў лістападзе

1 Тут і далей вылучаныя курсівам выказваньні на расейскай мове належаць Аляксандру Лукашэнку.

2 Дзякуючы гэтаму палітыка на нейкі час зрабілася справай кожнага, г. зн. палітычна актыўны грамадзянін мусіў выпрацаваць сваё стаўленьне да асобы Лукашэнкі.

1992 г. усё было наадварот: 55,1 % беларусаў былі за аднаўленьне СССР і толькі 22,3 % — супраць. Як паказваюць зьвесткі тагачасных апытаньняў, яшчэ адным масавым грамадзкім інтарэсам было згортваньне «гвалтоўнай» беларусізацыі і вяртаньне да савецкага культурнага статус-кво. Лукашэнка чуйна прыслухоўваўся да гэтых незадаволеных масавых інтарэсаў і, будучы ўжо прэзыдэнтам, адны зь іх рэалізаваў у плашчыні рэальнай палітыкі, другія — сымбалічна. Калі браць папулярныя этыкеткі яго асобы, то ён хутчэй не «закладнік расейскага гэбізму», а палітычны апартуніст, які ў сваіх карысьлівых мэтах дамогся трыюмфу інтарэсаў расейскамоўнай і расейскакультурнай бальшыні грамадзтва, што нейкі час стрымліваўся палітычнымі, культурнымі і інфармацыйнымі мэханізмамі. Мабыць, іх гістарычны трыюмф быў непазьбежны: нездарма Сакрату Яновічу Менск пад бел-чырвона-белымі сьцягамі здаваўся горадам пад беларускай акупацыяй.

(Нязбытая траўма ці, можа, палітыканства нацыянал-дэмакратычных ідэолягаў выяўляецца кожны раз, калі яны імкнуцца супрацьпаставіць добры народ дрэннаму Лукашэнку — падаць яго трыюмфальныя культурныя ініцыятывы сярэдзіны 90-х як вымучаныя ім асабіста або навязаныя яму расейскімі спэцслужбамі ў якасьці платы за палітычную або эканамічную падтрымку. Момант іх грамадзкага запатрабаваньня, як правіла, гістэрычна ігнаруецца: надзелены тысячагадовымі дэмакратычнымі традыцыямі беларускі народ сам ня мог падняць руку на сваю шматвекавую культуру.)

Гэтая чуйнасьць да глыбінных жаданьняў і спадзяваньняў розных сацыяльных групаў разам з агрэсіўнай фразэалёгіяй і якасна новай канцэпцыяй узаемадзеяньня з публікай былі асноўным Лукашэнкавым «know how» у палітычнай сфэры: акрэсьленай праграмы палітычнага будаўніцтва ў яго не было.

Палітычны інтэрас можна параўнаць з таварам у рынкавай эканоміцы: калі попыт на яго заўважаны і задаволены, ён траціць у сваёй рынкавай вартасьці. Хоць пытаньне панаваньня расейскай мовы і культуры ў Беларусі ўжо дзесяць гадоў як згубіла палітычную вастрыню, сваімі пастаяннымі спэкуляцыямі вакол гэтай тэмы Лукашэнка не пакідае найменшага сумневу: яго кіраваньне сымбалізуе рэванш расейскамоўных беларусаў за спробу пахіснуць іх дамінантнае становішча ў грамадзтве. Вядучае культурнае «пасланьне» лукашэнкаўшчыны ў тым, што толькі цяперашні рэжым гарантуе захаваньне існага культурнага статус-кво. Народу зь нячыстым культурным сумленьнем гэта дае адчуваньне стабільнасьці, а Лукашэнку, які ўспрымае замарожваньне культурнага балянсу як адзін з элемэнтаў курсу на агульную палітычную стабільнасьць, дае магчымасьць выкарыстоўваць страхі, што гэтай «маліне» калісь прыйдзе канец (для гэтага нацыянальны рух павінен быць пераможаны не да канца: галоўны культурны раздражняльнік павінен сымбалічна прысутнічаць у грамадзкай прасторы). Усе ягоныя праграмныя прамовы апошняга году дэмагагічна распальваюць фобіі наконт гэтага:

*Ведь в свое время, в 1995 году после первых президентских выборов, многие русские сидели на чемоданах. Вы знаете, какая это была политика.*

*Я не хочу, чтобы… русских ребят посадили снова на чемоданы. А ведь в начале 90-х это было, когда у нас националисты были у власти… когда русских решили вычленить и выслать из страны.*

*Когда пошло нагнетание национализма, я был категорически против этого.*

*В начале 90-х годов у власти были определенные люди, которые буквально «продавливали»*

*белорусский язык. Я был тогда депутатом в парламенте, у меня была особая позиция. Я всегда говорил: знаете, если мы сейчас под давлением введем белорусский язык, мы откатимся назад. Почему? Потому что в научных дисциплинах, в технических у нас терминология не создана. А там, где и создана, она пока слабее, чем на русском языке. И потому предложил: давайте не будем под диктовку Шушкевича и прочих «продавливать» эти вопросы, иначе будет откат. Так и произошло.*

*У нас это уже было в начале 90-х, когда у власти были определенные люди. Они попытались заставить все страну размаўляць на той мове, на якой яны хацелі. Что получилось? Поверьте, это одна из причин поражения той власти. Очень серьёзная причина.*

У апошнім выказваньні Лукашэнка сам прызнаецца, што яго дзікі бунт супраць мовы быў цынічнай палітычнай акцыяй, якая забясьпечыла яго лепшую пазнавальнасьць у народзе. Блізіню да народу Лукашэнка падкрэсьліваў таксама сваёй далечынёй ад намэнклятуры[1] («*Я не работал ни председателем райисполкома, ни первым секретарем райкома,*

1 Зь цягам часу канфлікт з намэнклятурай трансфармуецца ў яе жорсткі прэсынг за кланавасьць, прадажнасьць, беспрынцыповасьць і бесхрыбетнасьць, зладзеяватасьць. На пачатку другога прэзыдэнцкага тэрміну намэнклятура па-ранейшаму ўспрымалася наверсе як хісткая апора дзяржаўнай машыны. У той час у краіне склаўся жорсткі аўтарытарны рэжым і значна павялічыўся набор інструмэнтаў кантролю намэнклятуры. Улады не абмяжоўваліся яе псыхалягічным прэсынгам («У вас все должно быть в порядке - от усов до ботинок»), дапоўнены абяцаньнямі крымінальнага пакараньня за сабатаж прэзыдэнцкіх рашэньняў («Создадите обстановку криминальную - поотрываю головы»;«Не дай бог, он влезет куда-то - завтра тюрьма»), а і праводзілі рэгулярныя перастаноўкі ў ёй. Аднак пры такой сыстэме ратацыя ўжываецца з абмежаванымі мэтамі -- каб прадухіліць фронду ў намэнклятурным асяродзьдзі і зьменшыць карупцыю, а не для таго каб спрыяць дынамізму ўсёй палітычнай сыстэмы і лепш каналізаваць грамадзкія інтарэсы.

*обкома, облисполкома, тем более не сиживал в ЦК*»), асабістай сьціпласьцю («*Я своих родственников в Минск не перевез*»), спарадычнай шчырасьцю («*В последнее время много шумит наша оппозиция: «Балтика», «Балтика», Лукашенко «кинул» российских олигархов!» Ну, радовались бы, что хоть один человек нашелся, который их «кинул». Нет, «переживают»*») і насычанай вульгарызмамі ды бытавізмамі гутарковай расейскай мовай (*«без гвалта», «кровь из носа», «скостить долг»*), якая неўзабаве стала мовай беларускай публічнай палітыкі.

Яшчэ адзін важны аб’ект увагі — гэта імплікацыі палітычнай культуры позьняга СССР у Лукашэнкавым сьветапоглядзе. Напэўна, само яго ўяўленьне пра ідэальнага палітыка — асабіста надзвычай сьціплага, амаль аскетычнага, разам з тым ваяўнічага і гіпэртрафавана прынцыповага, чуйнага да народнага гора, энэргічнага, не без палітычнага экстрэмізму ў галаве, гатовага на ўсё ў імя народнага дабра, схільнага ў разе патрэбы ахвяраваць уласнай сям’ёй на карысьць дзяржаўных інтарэсаў, нецярпімага да несправядлівасьцяў, скептычна настроенага да любых формаў непрамой дэмакратыі было навеяна савецкай іканаграфіяй палітычных лідэраў. І ня маюць рацыі тыя, хто ўсьлед за Аляксандрам Фядутам зводзяць палітычны ідэал Лукашэнкі вылучна да асобы Юр’я Андропава. У ім ёсьць нешта і ад Леніна, і ад Сталіна, а можа, нават ад Хрушчова. Зь імі Лукашэнку яднае і разуменьне ўласнага «ўвацарэньня» як вянца культурна-гістарычнага працэсу «ў асобна ўзятай краіне», пры якім цалкам адпадае неабходнасьць штосьці зьмяняць на самым версе дзяржаўнай улады, а асноўныя культурныя і нацыянальныя супярэчнасьці раз і назаўсёды пераадоленыя — застаецца толькі падпраўляць асобныя недахопы. Існая форма кіраваньня «па змаўчаньні» абвяшчаецца дасканалай, пачынаецца «канец гісторыі». Яго характэрная адзнака ў тым, што «асабістая сьціпласьць» усё

часьцей абарочваецца непрыхаваным эгацэнтрызмам «кіраўніка дзяржавы», які лічыцца больш кампэтэнтным за любога іншага грамадзяніна ў любых пытаньнях. Перафразуючы Віталя Сіліцкага, найбольш улюбёны Лукашэнкаў займеньнік — ня «ты» і ня «мы», а «я»:

*Почему я Мясниковича послал в Академию? Да потому, что, при всем моем уважении, академики не могли в трех соснах разобраться.*

*Меня эти выборы довели до белого каления.*

*Я б разбился в блин, но нашел, куда реализовать это масло.*

*Вы получили льна больше, а мне волокно надо.*

*БГУ из руин и пепла подняли на моих костях. Что я там ни делал! А на президентских выборах самый низкий процент голосования — в БГУ.*

*Я для каждого пытался что-то сделать. В результате наш народ как был советским, так им в основном и остался.*

Нарэшце, да савецкай палітычнай культуры ўзыходзіць Лукашэнкаў антыамэрыканізм і іншыя праявы ксэнафобіі, а таксама ўспрыманьне расейскай культурнай прасторы як сваёй, а эўрапейскай — як чужой і нават варожай. Гэтыя ўстаноўкі, дарэчы, аказаліся надзвычай жывучымі ў нашым грамадзтве: паводле апытаньняў НІСЭПД, у чэрвені 2004 году 44,3 % беларусаў лічылі, што галоўная пагроза краіне зыходзіць ад ЗША.

Пры гэтым Лукашэнка — чалавек з культурнага пагранічча, якому ўласьцівыя два вымеры праўнага пачуцьця. Адно зь іх прышчэплена расейскім

культурным полем, другое — беларускай традыцыйнай культурай. Таму, з аднаго боку, у яго былі пэўныя эўрапейскія праўныя інстынкты, якія дазвалялі Беларусі мець узровень карупцыі, роўны славенскаму. З другога боку, ён жыве ў сьвеце ўласных маральна-этычных нормаў, уяўляе сабой прыклад сучаснага Радзівона Раскольнікава, які ідзе на разбуральныя палітычныя акцыі ў імя сваіх абстрактных ідэалаў.

Гэтае несупадзеньне асабістага праўнага «коду» Лукашэнкі з нарматыўным расейскім асабліва выразна відаць падчас яго крытыкі расейскіх парадкаў. Лукашэнкава крытыка Расеі — гэта свайго роду культурная крытыка, заснаваная на ўяўленьні пра нізкую праўную культуру расейцаў і, як вынік, няздольнасьць расейскай дзяржавы ажыцьцяўляць манаполію на гвалт, збор падаткаў ды эфэктыўна супрацьстаяць росту злачыннасьці:

*За последние два месяца в Москве застрелили несколько профессоров. За что застрелили этих обычных людей, которые занимались преподаванием? Это всё результат безмозглой, непродуманной политики. Там, где бешеные неучтенные деньги, там криминал, там кровь.*

Яшчэ пару словаў пра Лукашэнкаў палітычны папулізм. Ён стаў індыкатарам прорвы паміж рэальным грамадзтвам і нацыянальнымі элітамі. Тое, што эліты не знаходзіліся ў дзеяздольным стане (у момант абраньня Лукашэнкі на прэзыдэнта інтэлектуальныя эліты ня мелі традыцыі самастойнага ўдзелу ў палітыцы, а гаспадарчыя ўмелі гаспадарыць пераважна з Расеяй) і не ўспрымаліся нацыяй як безумоўны аўтарытэт, падкрэсьліла іх спроба стварыць сымбалічныя межы збліжэньня з Расеяй. У сярэдзіне 90-х беларускія інтэлектуалы — журналісты, асьветнікі, аналітыкі і палітычныя дзеячы — імкнуліся навязаць палітычнаму кіраўніцтву краіны ўяўленьне пра гэтыя сымбалічныя

межы, за якія нельга заходзіць. Іх дэманстратыўнае патаптаньне «народным прэзыдэнтам» і стварыла эфэкт небясьпекі страты незалежнасьці.

Фэномэн, калі нацыя не ўспрымае нацыянальныя эліты як аўтарытэт, высьвечвае яшчэ адзін цікавы аспэкт яе ўнутранай арганізацыі. Такое можа быць толькі ў т. зв. «глухім» грамадзтве, розныя часткі якога існуюць у розных інфармацыйных прасторах і вызнаюць розныя культурныя герархіі. Калі радыкальна фармуляваць тэзу: каб жа ў 1994 г. Зянон Пазьняк паяўляўся на экранах тэлевізараў не з «нацыянальным прарокам» Васілём Быкавым, а з удзельнікамі расейскага ВІА «Иванушки Интернешнл», гэта магло б даць яму большую прыбаўку галасоў. У такім грамадзтве лёсавызначальныя праграмы разьвіцьця ня могуць прымацца шляхам грамадзкага кансэнсусу — яго цела разарвана на шматлікія «камунікацыйныя» мяншыні[1], лідэры якіх саму магчымасьць публічных дэбатаў выкарыстоўваюць найперш для пашырэньня свайго ўплыву і павелічэньня колькасьці сваіх прыхільнікаў.

Аб «глушэчы» нашага грамадзтва сьведчыць і адчужэньне ўім нацыянальнай літаратуры ад нацыянальных масаў. Калі ў літаратуры мадэль незалежнага быцьця Беларусі пачала распрацоўвацца гадоў сто таму, то для масаў і іх папулісцка настроеных лідэраў патрэба нацыянальнай незалежнасьці застаецца пад пытаньнем нават і цяпер. Інфармацыйная прастора ў (пост-)каляніяльным грамадзтве ўладкаваная так, што нацыянальная эліта

1 Пра культурны сьвет самога Лукашэнкі: «Из больших писателей я очень люблю Пушкина, особенно отдельные его произведения. Очень любил в свое время, будучи молодым человеком, Есенина, и не только его стихотворения об отношении к женщине». У інфармацыйным пляне мадэль «імпэрыя - калёнія» можна параўнаць з адносінамі «горад - вёска» ў пасьляваеннай Беларусі: комплекс вясковай непаўнавартнасьці выражаўся ў гіпэрцікавасьці да гарадзкіх падзеяў, а сам горад успрымаўся як цэнтар цывілізацыі, асяродак дабрабыту і заканадаўца мод.

не ўспрымаецца як культурны лідэр; у ім таксама адсутнічае нармальная камунікацыя паміж сэгмэнтамі грамадзкага цэлага — ідэі і праграмы інтэлектуалаў даляютаць да масаў пад уплывам геапалітычных катастрофаў.

Іншымі словамі, тое, што Лукашэнка і культурна блізкія яму людзі ўспрымаюць нацыянальную культуру як фальшывы сакрум, мае ня столькі эстэтычныя (г. зн. тлумачыцца ня толькі папулярнымі ўяўленьнямі аб поўным убостве нацыянальнай літаратуры, адсутнасьці нацыянальнай гісторыі да 1917 г. і «настоящего белорусского языка»), колькі камунікацыйныя прычыны. Гэтым ён дае знаць пра свой асаблівы культурны сьвет, у якім беларускія падзеі ўспрымаюцца пры расейскім інфармацыйным пасярэдніцтве, надзвычай тэндэнцыйным, паводле Лукашэнкавага ж уласнага прызнаньня. Абвінавачаньне расейцаў у інфармацыйнай неаб’ектыўнасьці - адзін з улюбёных конікаў Лукашэнкавых публічных прамоваў апошняга часу, мяккі тэрор у дачыненьні журналістаў расейскіх электронных СМІ — важны элемэнт дзяржаўнай палітыкі [1].

Праявай палітычнага папулізму Лукашэнкі было паразытаваньне на позьнесавецкай сымбалічнай

1 «Телевидение смотрит каждый. Наркотик этот дали населению... Белорусское телевидение, как внушается, «дрэннае». Переключил на ОРТ или РТР. И смотрит порнуху... Вы же понимаете, что я не могу закрыть вот эти «окна» Москвы и Запада, через которые нас снабжают информацией».
Раздражненьне ўзмацняецца тым, што «Москву и Запад» немагчыма зьнішчыць або закрыць прэзыдэнцкім указам або званком з прэзыдэнцкай адміністрацыі: да іх даводзіцца прыстасоўвацца самому рэжыму, ісьці на сур’ёзную ўнутраную ломку.
Беларусы толькі-толькі пачынаюць жыць у агульнанацыянальнай інфармацыйнай прасторы, што выклікала вялікае хваляваньне нашых расейскамоўных інтэлектуалаў. Яно й зразумела: у такіх варунках даводзіцца прывыкаць да новай дыспазыцыі культурных роляў і значэньняў.

спадчыне, у прыватнасьці, савецкай міталёгіі апошняй вайны. Пакуль асобныя апазыцыйныя палітыкі былі зацыкленыя на дэканструкцыі імпэрскай абраднасьці, Лукашэнкава заігрываньне з савецкімі вэтэранамі выглядала вельмі жыва і пераканаўча. Што ж датычыць т. зв. «новага» або «папулісцкага» нацыяналізму Лукашэнкі, то, як і ўсякі іншы нацыяналізм, на сваім ідэйным узроўні ён застаецца бедным паняцьцем — нязьменна складаецца з мэсіянізму з сакралізацыяй нацыянальнай гісторыі і мовы. Адно што ў Лукашэнкавым выпадку ролю нацыянальнай мовы выконвае каляніяльная мова і нацыянальная гісторыя падаецца ў каляніяльнай трактоўцы.

Палітычная культура Лукашэнкі прадыктавала выбар такой палітычнай сыстэмы, пры якой зарукай яе стабільнасьці становіцца нязьменнасьць палітычнага лідэра (адразу пасьля апошніх прэзыдэнцкіх выбараў «актыву» адной зь беларускіх абласьцей было заяўлена: *«И не надейтесь, что это последний период! Лучше рассчитывайте, что Лукашенко будет еще два периода»*), а сэнсам існаваньня — нарошчваньне палітычнага кантролю над усімі сфэрамі публічнага жыцьця, у тым ліку і акадэмічнага[1], прымусовая дэпалітызыцыя грамадзтва і абмежаваньне сфэры публічнай палітыкі. Пакінуўшы ўбаку аспэкты тэмы, цікавыя для палітолягаў (пра біялягічнае старэньне сыстэмы, у аснову якой не пакладзеныя ўнівэрсальныя ідэі, пра ўнутраныя асяродкі яе нестабільнасьці і г. д.), далей мы паглядзім, як курс на вынішчэньне альтэрнатывы ў палітычнай

1 Можна сказаць, што пытаньне закрыцьця Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту было вырашана яшчэ ў 2001 г., калі кіраваць Нацыянальнай акадэміяй навук быў пастаўлены Мясьніковіч, які хуценька навучыў акадэмікаў разьбірацца ў трох соснах. Само прызначэньне сымбалізавала пачатак палітычнай экспансіі на патэнцыйна неляяльныя асяродкі акадэмічнага жыцьця. Другі аспэкт нарошчваньня экспансіі -- пачатак жорсткага цэнзураваньня зьместу навучальных праграм: прыкладна ў тым самым часе быў выцягнуты на паверхню жыцьця «бедолага Трощенок» (выраз Лукашэнкаў).

сфэры карэлюе з курсам на вынішчэньне альтэрнатывы ў сфэры культуры.

## КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА

Культурную палітыку Лукашэнкі прынята лічыць кан’юнктурнай і зьвязваць з ваганьнямі бягучага палітычнага курсу. Такі пункт гледжаньня выславіў Віталь Сіліцкі ў «ARCHE» (№2, 2004):

*На фоне палітычных кампаніяў, якія разгортваюцца афіцыёзам і ўжо атрымоўваюць мянушкі кшталту «газавай вайны за незалежнасьць», раздачы тэнісістам ордэнаў «за перамогу над Расеяй», Лукашэнка пасьлядоўна прытрымліваецца палітыкі русіфікацыі гістарычнай сьвядомасьці і сьветапогляду беларусаў (пра моўную русіфікацыю мы тут нават і ня ўзгадваем). Калі расейскі націск на Беларусь узмацняецца, калі незалежніцкая рыторыка, здавалася б, усё больш апаноўвае афіцыйную прапаганду, улада сьвядома мацуе ідэалягічную пляцоўку, што можа стаць падставай для страты дзяржаўнасьці і незалежнасьці. Як растлумачыць такі парадокс? Адна з самых распаўсюджаных вэрсіяў — Лукашэнка дагэтуль пакідае сабе магчымасьць для новага паходу ўва ўнутраную расейскую палітыку.*

На першы погляд, зь лёгікай усё у парадку: курс на русіфікацыю «гістарычнай сьвядомасьці і сьветапогляду беларусаў» сьведчыць пра расейскія амбіцыі Лукашэнкі. Аднак насамрэч мы яшчэ раз сутыкаемся з рэцыдывам тэлеалёгіі залежнасьці беларускай палітыкі ад расейскіх велічынь у духу Зянона Пазьняка і Алега Манаева, калі лёгіка ўнутраных працэсаў у беларускай палітыцы тлумачыцца ўзьдзеяньнем вонкавых фактараў, перадусім злачынамі або цнотамі Масквы.

Перш-наперш трэба разабрацца з тэрмінамі: у культурнай сфэры адбываецца не актывізацыя

русіфікацыі «гістарычнай сьвядомасьці і сьветапогляду беларусаў», а вяртаньне да савецкіх, каляніяльных па сваёй сутнасьці трактовак беларускай гісторыі і ўяўленьняў пра месца беларускай мовы і культуры ў грамадзтве, прычым у адрозьненьне ад савецкіх часоў дапускаецца пэўны «гістарыяграфічны плюралізм»[1] і магчымасьць публічных дэбатаў пра месца беларушчыны ў грамадзтве[2].

Калі мы прымаем гэты тэзыс, давядзецца сказаць і наступнае: сэнс культурнай палітыкі Лукашэнкі ня зводзіцца да русіфікацыі і бяз гэтага даўно зрусіфікаванай ці, хутчэй, «ніякай» гістарычнай

---

1 Пар. ацэнку становішча Лукашэнкам: *«В учебных заведениях парадоксальная ситуация - что ни преподаватель, то своя «история». Трактуют события, как кому заблагорассудится. И в результате у школьников, студентов такая каша в голове, что нам, прошедшим основательную советскую школу и вуз, даже и вообразить невозможно».*

2 Як сьведчыць «Исторический выбор Беларуси», Лукашэнку даводзілася апраўдваць сваю культурную лінію ў кожнай з чатырох менскіх унівэрсытэцкіх аўдыторыяў, у якіх ён выступаў. Дзеля гэтага на сустрэчах зь менскімі студэнтамі Лукашэнка падаваў сябе як «отличного знатока белорусского языка» (*«Я, конечно, отлично знаю белорусский язык. Надо просто каждый раз включиться, немного прочитать, чтобы снова свободно, без ошибок, не на трасянцы размаўляць з вамі»*), прапагандаваў беларусізацыю зьнізу і ўсур'ёз дапускаў магчымасьць, што раней ці пазьней родная мова запануе ў грамадзтве:
*И любому ректору всегда говорю: не давите на людей. Экзамены сдавать, выбирай -- белорусский или русский язык. Сдавай на любом языке. И поверьте, только так, не иначе, если суждено, мы придем к одному языку, который мы называем беларускай мовай. Но я бы очень хотел, чтобы у нас остался и русский нашим родным языком.*
Але Лукашэнка ня быў бы Лукашэнкам, калі б ён пасьлядоўна не палітызаваў моўнага пытаньня, ці, кажучы яго словамі, *не давил бы им людей*. У той жа самы час у іншай студэнцкай аўдыторыі ён прамаўляў: *«русский язык я... никому не позволю оплевать и никому не позволю его устранить их нашей жизни. Это наше достояние, как и Победа в Великой Отечественной войне»*. (Тым самым два «здабыткі» -- перамога і расейская мова -- залічаюцца ў адзін паняцьцёвы шэраг падзеяў апошняга стагодзьдзя, што супярэчыць абсурднай ідэі пра расейскую мову як «древний язык белорусов».)

сьвядомасьці беларусаў, яе мэта — рэстаўрацыя культурнага статус-кво за кошт зьберажэньня каляніяльна-савецкай спадчыны, пагружэньне нацыі ў стан гістарычнай амнэзіі шляхам цынічных маніпуляцыяў з нацыянальнай гісторыяй і культурай (у экстрымнай трактоўцы Лукашэнкі расейская мова становіцца «древним языком белорусов»: «*Наше «двуязычие» имеет древние корни и древние традиции*»). Інакш кажучы, стаўка гэтай палітыкі — не мітычная заваёва Крамля, а маніпуляваньне грамадзкай сьвядомасьцю і ўзмацненьне цынічнага праўладнага дыскурсу. У гэтым пункце культурная палітыка Лукашэнкі выяўляе поўную пераемнасьць з расейскай каляніяльнай палітыкай у беларускіх правінцыях: каб захаваць палітычную стабільнасьць і замарозіць разьвіцьцё нацыянальнай самасьвядомасьці, нацыянальную культурную спадчыну цэнзуруюць і фальсыфікуюць, а з гуманітарных навук па магчымасьці робяць прапаганду (адно цяпер гэта называецца «навучыць акадэмікаў разьбірацца ў трох соснах»).

Як і ў савецкія часы, кіраваць беларускім народам прасьцей і надзейней, калі ён мае надзвычай плыткае і тэндэнцыйнае ўяўленьне пра самога сябе. Што, напрыклад, рабіла савецкая прапаганда з «нацыянальнымі прарокамі» Коласам і Купалам у 40-80-я гг. XX ст.? Мэтадычна ператварала іх у жыхароў камуністычнага пантэону, чыя творчасьць ідэальна супадала з дырэктывамі пануючае партыі. Так выбітныя адраджэнцы Купала і Колас, якія, калі б чалавечае жыцьцё доўжылася вечна, хадзілі б цяпер на апазыцыйныя мітынгі, дэманстрацыйна гаварылі б на беларускай мове і галасавалі б супраць Лукашэнкі, станавіліся антыподамі саміх сябе, а іх адпаведна праінтэрпрэтаваная творчасьць прыводзіла ў рух машыну, якая зьнішчала беларускую культуру.

Цяпер пра своеасаблівыя плюсы культурнай палітыкі Лукашэнкі. Яна выпхнула за маргінэс тую частку «адраджэнскай» інтэлігенцыі, якая бачыла адзінай крыніцай культурнай актыўнасьці дзяржаўную падтрымку. Яна таксама паказала ўсю прастытуяванасьць «згодніцкай», пралукашэнкаўскай часткі інтэлігенцыі. Панаваньне Лукашэнкі прывучае праяўляць прыватную ініцыятыву ў культурнай сфэры: у прыватных руках апынуліся выдавецтвы, пэрыёдыка й важныя адукацыйныя праекты. Разгул палітычнай і культурнай рэакцыі дае кожнаму сьвядомаму беларусу непасрэдна адчувальную матывацыю да арганічнай культурнай дзейнасьці, якая можа мець неспадзяваныя палітычныя наступствы.

Адмова Лукашэнкі ад клясычнай нацыяналістычнай праграмы выклікала выбух народнай падтрымкі і разам з тым абмежавала магчымасьці для палітычнай гульні ў доўгатэрміновай пэрспэктыве. Дзякуючы сваёй манеры вядзеньня палітыкі — чапляцца за бягучую падтрымку масаў папулісцкай трактоўкай бягучых падзеяў — ён пазбаўлены панаднай магчымасьці выступаць рэспэктабэльным абаронцам вечных інтарэсаў нацыі. У нашай частцы Эўропы нацыя можа шмат сьцярпець у імя свайго нацыянальнага разьвіцьця, а палітычныя лідэры і сілы выкарыстоўваюць сымбалічны капітал нацыянальнай традыцыі для палітычных мэтаў. Гэта, дарэчы, добра разумелі расейскія камуністы і нямецкія нацысты. Каб мабілізаваць беларускія масы на сваю падтрымку і дабіцца іх ляяльнасьці да свайго рэжыму, яны эксплюатавалі нацыянальныя лёзунгі, улучна з абвяшчэньнем нацыянальнай квазідзяржаўнасьці. Аднак рэальная гісторыя Беларусі прайшла пад зусім іншымі знакамі, і пры канцы XX ст. выкарыстаньне нацыянальнай сымболікі для мабілізацыі масаў успрымалася палітычнымі прагматыкамі тыпу Лукашэнкі як аджылая палітычная стратэгія. (Ня выключана, што Лукашэнкавы наступнікі такі пойдуць на подкуп нацыянальна сьвядомай часткі грамадзтва.)

І яшчэ крыху — пра сьляды расейскага каляніялізму ў культурнай карціне сьвету Лукашэнкі і культурна блізкіх яму палітыкаў ды інтэлектуалаў. Яны да апошняга верылі, што перацёк ідэяў, мадэляў і праграмаў разьвіцьця можа ісьці толькі з Масквы ў Менск, у лепшым выпадку ставіліся да беларускай мовы як мясцовай экзотыкі, а ў горшым зусім не цярпелі яе, былі перакананыя ў сваёй асаблівай цывілізацыйнай місіі (бо толькі расейская культура можа ўзьняць культурны ўзровень Беларусі) і тэндэнцыйна разумелі беларускі нацыяналізм як ідэалёгію этнічнай выключнасьці і ксэнафобіі (пар. «*Национализм, межэтническая вражда в Беларуси не приживутся — народ не тот*»), а не як стваральны культурны і інтэлектуальны рух, якому нацыя абавязана сваімі асноўнымі культурнымі здабыткамі, а Рэспубліка Беларусь — самім існаваньнем на палітычнай мапе сьвету.

І ўсё-такі Лукашэнку цяжка папракнуць у культурнай несумленнасьці. У заблытанай і непасьлядоўнай дзяржаўнай палітыцы першай паловы 90-х у дачыненьні да нацыянальнай мовы й культуры было насамрэч значна больш палітычнага каварства. Ані каліва ня тоячыся, Лукашэнка рэгулярна і публічна паўтарае заклікі аб недапушчэньні беларускай мовы да шырокага грамадзкага ўжытку. Ён не адчувае згрызотаў сумленьня, бо выказвае сваю культурную праўду. Беларуская мова для яго, як і мільёнаў беларускіх грамадзян, — адзнака іншай культуры, ня-блізкае, не-інтымнае, ня-цёплае, полюс адштурхоўваньня ў больш утульны і абжыты жыцьцёвы сьвет.

І закругляючы тэму аб пазытывах культурнай палітыкі Лукашэнкі. Яна з усёй выразнасьцю выявіла ўсю парнаграфічнасьць пашыраных самаўяўленьняў беларусаў пра саміх сябе як пра высокадухоўны, культурны, эўрапейскі, адукаваны і памяркоўны народ. Выявілася, што наша памяркоўнасьць — гэта

ня што іншае, як канфармізм, пад маскай духоўнасьці хаваецца культурная дыстрафія, бяспамяцтва, дзікасьць і падатлівасьць на маніпуляцыі, што наш гістарычны час радыкальна не супадае з агульнаэўрапейскім, а культурныя паталёгіі нацыі настолькі сур’ёзныя, што наўрад ці будуць пераадоленыя на працягу некалькіх наступных пакаленьняў.

## ЭКАНАМІЧНЫ КУРС

Для дэмакратычнага візіянэра, які дакладна ведае, што пасьпяховая трансфармацыя постсавецкіх эканомік магчымая толькі ў лібэральным кірунку, эканамічная палітыка рэжыму Лукашэнкі настолькі ненармальная, што ён пастаянна знаходзіцца ў прадчуваньні яго гаспадарчага краху. Вось ужо больш за дзесяць год гэткія прароцтвы рэгулярна праточваюцца ў прэсу і так жа рэгулярна не пацьвярджаюцца жыцьцём.

Як кажа Лукашэнка, любая палітыка заснавана на эканоміцы, таму эканамічная сфэра для беларускага рэжыму — аснова для яго палітычнай легітымацыі як для шырокай публікі, так і для яго функцыянэраў (напэўна, мноства іх на пытаньне «Чаму я працую на Лукашэнку?» адказваюць самім сабе: «Таму што ён сумленны і гаспадарлівы чалавек»). Калі ў абсягу культуры і гуманістыкі заахвочваецца кансэрвацыя каляніяльнай спадчыны, то ў гэтай галіне вітаецца арыгінальнасьць і недагматычнасьць. Гэты праграмны момант асабліва выразна відаць у «Историческом выборе Беларуси», калі параўнаць узаемасупярэчлівыя, па сутнасьці процілеглыя, Лукашэнкавы выказваньні на тэму «Ці была Беларусь ускраінай Расеі» перад студэнтамі эканамічнага ўнівэрсытэту і студэнтамі БДУ. Перад эканамістамі (с. 10):

*Из всех постсоветских республик мы, Украина, Казахстан и другие, кроме России, не можем сегодня сказать, что мы имели какие-то определяющие*

*традиции и опыт государственности.*
*Да, известные элементы были. Но все основные атрибуты государства были сконцентрированы в Москве. Тогда и кнопки все нажимались, и команды давались к исполнению из Кремля. Мы были «окраиной», «провинцией», как хотите называйте, и, естественно, не имели того, что дожно иметь государство... Из нашей страны, наоборот, все уплывало. И до революции и после Октябрьской революции.*

Перад студэнтамі БДУ (с. 119):

*Беларусь никогда не была «отсталой аграрной окраиной самодержавной России». Не буду из-за недостатка времени приводить конкретные факты, напоминать о нашем возрождении, культурном, национальном возрождении, зазвучавшем в творчестве Франтишка Богушевича, Адама Гуриновича, позднее — Янки Купалы, Якуба Коласа, Максима Богдановича, других представителей белорусской интеллигенции. Все это характерно для этого периода.*

Нацыянальная эканоміка — адна з асноваў нацыянальнай бясьпекі, зь якой зьвязаныя першачарговыя нацыянальныя інтарэсы. У імя іх абароны Лукашэнка любіць публічна пабыць русабофам, які ліе сваю жоўць на ўсходнюю суседку зь яе «дзікім гаспадараньнем» і «5-7 працэнтамі насельніцтва, што маюць сёньня ў руках асноўныя фінансавыя, грашовыя рэсурсы, калі ўсе астатнія ня маюць нічога», і, нарэшце, палкім праэўрапейскім ідэалістам, для якога веліч заходніх эканомік адкрываецца на фоне расейскага «беспредела»:

*Хотелось бы, чтобы экономика, социальная политика Беларуси была чем-то похожа на шведскую... на германскую, на бельгийскую. Все это*

*ближе нам в социальном смысле. И мы откровенно об этом говорим. Мы на это ориентируемся, нас не устраивают бандитские отношения внутри общества.*

Эканоміка — сфэра, у якой рэжым ня толькі шукае, але і знаходзіць легітымнасьць. Пра пэўную эфэктыўнасьць беларускай эканамічнай мадэлі гавораць і гаспадарчыя паказьнікі, і вынікі апытаньняў грамадзкай думкі. У нас добрая зьбіральнасьць падаткаў, пастаянны эканамічны рост, пачынаючы з 1996 г., адзін з найвышэйшых у СНД узроўняў аплаты працы. Спасярод усіх краін СНД толькі ў Беларусі і Расеі пазытыўнае сальда міграцыі. Беларусь - ці не адзіная краіна ў СНД, у якой эканамічная трансфармацыя не завяршылася стварэньнем фінансава-прамысловых алігархій. У 2004 г. выдаткі на нацыянальную адукацыю ў дзесяць разоў перавышалі выдаткі на нацыянальную абарону, замежны доўг складаў усяго 10 % ад ВУП, валютныя рэзэрвы Нацбанку набліжаліся да 1 млрд даляраў ЗША, а залаты запас - да 20 тон. Паводле дзяржаўнай статыстыкі, у 2002 г. даходы грамадзянаў перавысілі даходы ў 1990 г. на 30 %. Пра якаснае паляпшэньне матэрыяльнага становішча гавораць матэрыялы апытаньняў НІСЭПД: калі ў лістападзе 1994 г. 9,5 % беларусаў заявілі, што іх дабрабыт палепшаў, 17,3 % адказалі, што ён не зьмяніўся, і 72,1 % — што пагоршаў, то ў чэрвені 2004 г. 7,0 % беларусаў меркавалі пра паляпшэньне свайго дабрабыту, на думку 64,0 %, ён не зьмяніўся і толькі 26,6 % адзначалі яго пагаршэньне.

Каб зразумець вытокі цяперашняй эканамічнай палітыкі, трэба зрабіць невялікі экскурс у блізкую гісторыю. Згодна з савецкай статыстыкай, пры канцы СССР Беларусь абганяла ўсе астатнія рэспублікі паводле тэмпаў эканамічнага росту: у 1970-1986 гг. рост ВУП на душу насельніцтва склаў 240 %. Аснову прамысловасьці ўтваралі рэсурсаёмістыя прамысловыя гіганты, арыентаваныя на агульнасаюзныя рынкі

збыту, а таксама на рынкі краінаў усходняга блёку. Экстэнсіўны эканамічны рост быў маніяй мясцовага ЦК і знаходзіў спагадлівы водгук у Маскве, дзе Беларусь цанілі за культурную стабільнасьць (або, інакш кажучы, максымальна магчымую дэбеларусізацыю грамадзкага жыцьця) і гераічнае партызанскае мінулае. Прамысловая палітыка зводзілася да павелічэньня вытворчасьці, залежнай ад агульнасаюзнага рынку сыравіны, і надзвычайнай канцэнтрацыі працоўных рэсурсаў у індустрыйных цэнтрах, што прыводзіла да істотных структурных перакосаў у разьвіцьці краіны. Яна распадалася на адносна разьвітыя гарады і эканамічна адсталую вёску, у якой рынак бытавых, камунальных і адміністрацыйных паслуг знаходзіўся ў зародкавым стане, таварна-грашовыя адносіны часта падмяняліся дакапіталістычнымі формамі абмену і адчуваўся хранічны дэфіцыт працоўнай сілы.

На пачатку 90-х т. зв. «разрыў гаспадарчых сувязяў», фінансавая лібэралізацыя і зьяўленьне мытных бар’ераў паставілі буйную прамысловасьць на край пагібелі. Узьніклы на касьцях савецкай эканомікі бізнэс прынёс тыпова «эўразійскую» культуру гаспадараньня, накіраваную на максымілізацыю прыбытку, мінімалізацыю падаткаў, подкуп фіскальных чыноўнікаў і супрацоўнікаў іншых дзяржаўных органаў. Аслабленая дзяржава траціла манаполію на збор падаткаў і ўжываньне гвалту. У краіне, у якой адсутнічалі сур’ёзныя сыравінныя рэсурсы, асноўныя капіталы ў той час зарабляліся банальнымі фінансавымі махінацыямі і напаўкрымінальным ценявым бізнэсам.

Максымальна спрошчана асноўнымі прычынамі рэзкага зьніжэньня матэрыяльнага становішча насельніцтва ў той час можна назваць рэзкае зьмяншэньне вытворчасьці нацыянальнага багацьця і яго несправядлівае разьмеркаваньне карумпаваным дзяржапаратам, суіснаваньне якога з крыміналізаваным бізнэсам і выклікае зь цягам часу

да жыцьця фэномэн алігархій. Збольшага за гэта плюс «за насаджэньне беларускай мовы» слабахарактарны прэм’ер Кебіч і паплаціўся сваёй палітычнай кар’ерай улетку 1994 г.

Асноўны сэнс эканамічнага экспэрымэнту Лукашэнкі палягаў у тым, што савецкую эканамічную базу ў Беларусі, несувымерную з рэальнымі эканамічнымі патрэбамі і эканамічнымі інтарэсамі нацыі («*Это наша беда, что мы имеем такую экономику... Она огромная, порой даже, я бы сказал, излишняя для нашего населения, нашего государства*»), можна ажывіць пры дапамозе камбінацыі неспалучальных на першы погляд захадаў — дзяржаўнага ўмяшаньня і рынкавай лібэралізацыі, замарожваньня адносін уласнасьці і захаваньня прыватнага сэктару (у адным Менску больш за 70 тыс. прыватных суб’ектаў гаспадараньня) у рэжыме барацьбы з карупцыяй і эканамічнай злачыннасьцю [1].

Праграмным момантам гэтага эканамічнага курсу была адмова ад палітыкі дапасаваньня да структурных патрабаваньняў МВФ, у прыватнасьці ад масавай прыватызацы [2], і ад уключэньня ў сусьветную

1 Пар. формулу самаапісаньня рэжымам існай гаспадарчай сыстэмы: «Сацыяльна арыентаваная эканоміка зь дзейснымі мэханізмамі дзяржаўнага і рынкавага рэгуляваньня, рацыянальным разьвіцьцём прыватнага сэктару разам зь дзяржаўным». Рынкавыя мэханізмы эканамічнай мадэлі — стымуляваньне спажываньня і абароту, пэўная фінансавая лібэралізацыя, стымуляваньне павелічэньня колькасьці і якасьці паслуг (у тым ліку стварэньне прыватнага рынку адукацыйных і мэдычных паслугаў), барацьба з ільготамі, перавод дзяржапарату на кантрактную сыстэму («Такого вы не имели в советские времена») і г. д. Цалкам рынкавай трэба прызнаць стратэгію захаваньня і захопу замежных рынкаў. А ўвогуле, палітыку, скіраваную на рост рэальнага сэктару эканомікі, вытворчасьць тавараў і паслугаў пры перасьледзе фінансавых спэкуляцыяў, праводзіць кожны эўрапейскі ўрад.

2 Падобна да беларускай мовы. адмова ад т. зв. абвальнай прыватызацыі, «при которой поднимается мутная волна и хватает больше тот, кто обладает большей сноровкой. А у кого такой сноровки больше? У тех, кто при власти, у их приближенных, родственников,

капіталістычную сыстэму падзелу працы. Замест гэтага з мэтай выжываньня экспартаарыентаванай прамысловасьці стаўка была зроблена на стварэньне зоны рэгіянальнай эканамічнай каапэрацыі і супольнай мытнай прасторы з краінамі СНД, выкарыстаньне пераваг геаграфічнага становішча Беларусі («*возле России, где есть ресурсы, где в центре Европы через тебя все идет и движется*»). У 2004 г. каля 60 % выробленых беларускай эканомікай тавараў і паслугаў збывалася на замежных рынках, у прыватнасьці, на расейскім рынку прадавалася прадукцыі беларускага машынабудаваньня амаль на 1 млрд дал. ЗША, а трэціну бюджэтных паступленьняў дае мытны камітэт.

Інструмэнтам эканамічнай палітыкі была падтрымка простымі дзяржаўнымі датацыямі і падатковымі крэдытамі дзяржаўнага сэктару эканомікі — прамысловасьці і буйнатаварнай сельскагаспадарчай вытворчасьці. Дзяржаўны кантроль над прамысловымі прадпрыемствамі, калгасамі і саўгасамі выяўляўся таксама ў рэгуляваньні цэнаў, непасрэднай рэалізацыі ўрадавымі агенцыямі выробленай прадукцыі, лабіяваньні ў Расеі нізкіх цэнаў на рэсурсы, найперш энэрганосьбіты, забесьпячэньні іх сыравінай і рынкамі збыту, пратэкцыянізьме і абмежаваньні канкурэнцыі з замежнымі вытворцамі («*Есть у нас руководитель Рахманько. Он за счет бюджета всунул в поезд «Минск-Москва» японские телевизоры. Сейчас вынимает и ставит «Горизонты*»). Практыка «бюракратычнага гандлю» і цэнтралізаваных

---

сынков и прочих», уяўляе сабой важны элемэнт палітычнай ідэнтычнасьці рэжыму і ключавым месцам прапаганды.
Захаваньне статус-кво ў галіне ўласнасьці дазваляе ня толькі захоўваць існы балянс «улады — ўласнасьці», але і эфэктыўна перашкаджаць экспансіі замежнага капіталу на ўнутраны рынак, у прыватнасьці, пераводу нацыянальных эканамічных чэмпіёнаў у чужыя рукі. Пар. «Я не хочу, чтобы завтра «Коммунарка» отошла к «Бабаевке».

закупак рэсурсаў для прамысловасьці яшчэ нядаўна працьвітала пры ўзаемаадносінах з Расеяй.

У каротка- і сярэднетэрміновай пэрспэктыве дамінаваньне дзяржаўнай уласнасьці прадухіліла каляпс рэальнага сэктару эканомікі і дазволіла пазьбегнуць выбуху беспрацоўя. Але захаваньне адміністрацыйнымі мэтадамі прамысловасьці на плаву і пакетаў сацыяльных гарантыяў для яе працаўнікоў ня вырашыла задачы павышэньня яе эканамічнай эфэктыўнасьці. Тым ня менш, імкненьне прыватнага бізнэсу хаваць свае рэальныя даходы і недаплачваць падаткі будзе, напэўна, і надалей стымуляваць нежаданьне ўладаў што-небудзь зьмяняць у гэтай галіне, у тым ліку перагледжваць практыку т. зв. «індывідуальнай прыватызацыі». Высьвятленьне адказу на пытаньне, якая форма ўласнасьці больш эфэктыўная ў беларускай эканоміцы, адкладаецца на заўтра[1].

Прысутнасьць дзяржавы ў эканоміцы праяўляецца

---

1 Сам Лукашэнка, чыё мысьленьне прасякнутае ўзьвелічэньнем дзяржавы ў гегельянскім духу, тлумачыць эканамічныя посьпехі менавіта дзяржаўным інтэрвэнцыялізмам. Пар.
*Я это протоптал собственными ногами. И видел, что там происходит. У нас еще не наступила та дикая конкурентная ситуация и среда, при которой начали бы жестко думать о том, как нам выжить. Она идет. Мужики, она идет сюда. И с Запада, и с Востока. Она уже вот стучится. Не просто стучится, она уже одной ногой здесь. Если вы этого не видите, то я уже вижу и чувствую. Я это уже ощущаю.*
На яго думку, блякаваньне рашэньня *«пустить с молотка останавливающиеся, а точнее, остановленные уже самые важные и крупные предприятия»* палепшыла эканамічную кан’юнктуру ў краіне і павялічыла ў канцавым выніку іх рынкавы кошт. Гэты аргумэнт нельга адкідаць як дэмагагічны: ува Ўкраіне каляпс савецкіх прамысловых гігантаў прывёў да таго, што на пачатку XXI ст. адным з найбуйнейшых платнікаў падаткаў у Кіеве быў бровар «Оболонь». Адным з самых даходных відаў бізнэсу заставаліся фінансавыя махінацыі: ува Ўкраіне налічвалася амаль 200 банкаў, якія мелі значна больш супольнага зь фінансавымі кампаніямі, чымся са стабільнымі крэдытнымі ўстановамі.

таксама ў адміністрацыйным пераразьмеркаваньні каля 50 % нацыянальнага багацьця пры дапамозе бюджэтных трансфэртаў ад больш багатых да больш бедных. У краіне, дзе каля 40 % прадпрыемстваў — стратныя, гэта дазваляе выконваць папулісцкія абяцаньні ўладаў, але стрымлівае матывацыі фінансавых рэцыпіентаў да разьвіцьця і мадэрнізацыі. Буйным прыватным бізнэсам займаюцца, «лежачы» пад КДБ, МУС або іншымі «праваахоўнымі» органамі, з згоды прэзыдэнцкай Адміністрацыі і публічнага выяўленьня ляяльнасьці асабіста прэзыдэнту. Яшчэ адно наступства дзяржаўнага інтэрвэнцыянізму — бюракратычная зарэгуляванасьць найбольш дынамічных рынкаў, уваход і прысутнасьць на якіх патрабуе «адкатаў» рэгістрацыйным і кантрольным органам. Нарэшце, гіпэртрафія дзяржаўнай прамысловасьці і курс на нязьменнасьць палітычнай адміністрацыі кансэрвуе савецкую працоўную этыку: функцыянэры ўсіх вэртыкаляў улады зьневажаюць людзей, будучы, як і прэзыдэнт, перакананымі ў сваёй беспакарнасьці і незаменнасьці.

Лукашэнкаў эканамічны экспэрымэнт давёў усім добра вядомую ісьціну: пры жорсткім аўтарытарызьме, як і пры любых іншых недэмакратычных формах кіраваньня — манархіі або тэакратыі, — можна дасягнуць эканамічнага ажыўленьня, калі пазьбегнуць узьнікненьня алігархічных кланаў, выкараняць карупцыю і прадухіляць масавую галечу. На мове здаровага розуму гэта называецца «Багацеюць там, дзе ня крадуць». І наадварот, любая эканамічная трансфармацыя бессэнсоўная пры недзеяздольнасьці дзяржаўнага апарату і захопе дзяржавы алігархічнымі кланамі.

Які ж кошт заплаціла за гэты экспэрымэнт нацыя? Лукашэнкаў стыль кіраваньня прадугледжвае задавальненьне эканамічных інтарэсаў зьверху, а ня зьнізу. У выніку няздольнасьць нацыянальнай

эканомікі задаволіць канкрэтны эканамічны інтэрас, а ня толькі той, які прызнаны і санкцыянаваны наверсе, выклікае ў ёй структурныя дыспрапорцыі. Навязанае дзяржавай вызначэньне прыярытэтаў эканамічнай палітыкі — жытло, харчаваньне, экспарт — сымулюе задавальненьне ўсяго спэктру эканамічных інтарэсаў і, калі задумацца, толькі падкрэсьлівае няздольнасьць эканомікі апэратыўна і паўнавартасна задавальняць бягучы спажывецкі попыт. Інакш кажучы, пры такой мадэлі дзяржаўная эканоміка арыентуецца не на жывога спажыўца зь яго хуткаплыннымі прэфэрэнцыямі, а на пасярэдніка паміж спажыўцом і вытворцам у выглядзе прэзыдэнта або яго ўпаўнаважаных, якія надзяляюцца кампэтэнцыяй улоўліваць тэндэнцыі на спажывецкім рынку і дыктаваць цэнавую палітыку. Акурат гэты перакос выпукляе сам Лукашэнка, гаворачы: «*Нас захлестнул товар с Запада и уже даже из России*». Дзіва што: нават на прыярытэтным рынку харчаваньня Беларусь імпартуе з Расеі цяпер больш тавараў, чым экспартуе.

Коштам «захаванасьці дзяржаўнай уласнасьці» аказваецца, кажучы словамі А. Л., «*такое воровство, когда только ленивый не тащит с завода, колхоза, совхоза*». У імя яе прэзыдэнт вымушаны асабіста пераглядаць вынікі тэндэраў у Міністэрстве аховы здароўя, клапаціцца пра энэргазьберажэньне на асобных аб’ектах і пра расьлінаводзтва як галіну народнай гаспадаркі. Курс на захаваньне тэхналягічна адсталых прамысловых гігантаў савецкай пары паглыбляе прафэсійную дэкваліфікацыю іх абслугоўвага пэрсаналу, які аказваецца неўспрымальным да найноўшых тэхналягічных інавацыяў. Дадатковай платай за іх захаваньне становяцца непазьбежна прысутныя зоны карупцыі на сутыку дзяржаўнай сыстэмы і прыватнага бізнэсу, сталая небясьпека страты яе кіраванасьці, гіпэртрафія кантрольных органаў і аўтаркічныя самазаклінаньні, што Беларусь можа выжываць толькі пры апоры на ўласныя сілы.

У памнажэньні на хранічны інвэстыцыйны голад, старэньне і зношанасьць асноўных вытворчых фондаў і іншыя эканамічныя болькі гэта дало зафіксаваны справаздачай ААН аб чалавечым разьвіцьці 2004 г. вылет Беларусі з групы высакаразьвітых дзяржаваў у групу зь сярэднім узроўнем разьвіцьця. Паводле гэтага дакумэнту, Беларусь у сваім разьвіцьці адстае ад Эстоніі роўна ўдвая.

На пачатку дзесяцігодзьдзя ў Эўропе былі дзьве краіны з найніжэйшым узроўнем сацыяльнага расслаеньня — Беларусь і Славаччына. Параўнаньне абодвух палітычных рэжымаў сьведчыць пра кан’юнктурны характар палітыкі сацыяльнага эгалітарызму і яе залежнасьць ад аўтарытарызму. У Беларусі ёй надыдзе канец.

І нарэшце, пра найбольшую трагедыю эканамічнага разьвіцьця Беларусі. Для мяне няма сумневу, што чым большымі аказваюцца (часта папяровыя) гаспадарчыя посьпехі, тым больш Лукашэнка ўпэўніваецца, што распад СССР тлумачыўся не эканамічнымі, а палітычнымі, ідэалягічнымі і сымбалічнымі фактарамі, і тым глыбей Беларусь акунаецца ў змрок палітычнай і культурнай рэакцыі.

Калі палітычная сыстэма прасякнутая недэмакратычнымі адносінамі, а ўладная эліта не зацікаўленая ў сваім абнаўленьні, адбываецца татальнае ігнараваньне або замоўчваньне грамадзкіх інтарэсаў. Пры такой закрытасьці непазьбежная гіпэртрафія кантрольных органаў: Анатоль Тозік і прэзыдэнцкія кантралёры падмяняюць незалежную прэсу.

У эканоміцы, кіраваньні дзяржаўным апаратам, мытнай службе, нацыянальнай абароне, ахове здароўя і нават школьніцтве (афіцыйная забарона будаваць новыя больніцы і школы па-свойму

лягічная), фіскальнай сыстэме і сумежных абсягах Лукашэнка прыняў шмат рацыянальных і ўзважаных рашэньняў. Пераемнасьць зь імі давядзецца захаваць яго наступнікам, якімі б яны ні былі. Вельмі, аднак, хочацца, каб яны ніколі больш не належалі да тыпу аднавымерных людзей, для якіх усё багацьце запатрабаваньняў нацыі зводзіцца да дасягненьня і ўтрыманьня элемэнтарных цывілізацыйных даброт.

2004

## Біяграфія

Валер Булгакаў нарадзіўся ў 1974 годзе ў Менску. У 1995 годзе скончыў філялягічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэта, у 1998 годзе — асьпірантуру пры катэдры гісторыі беларускай літаратуры філфаку БДУ. У 2000–2003 гадах — асьпірант аддзелу гісторыі філязофіі Ўкраіны Інстытуту філязофіі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны. Кандыдат філязофскіх навук (2005). Аўтар манаграфіі «Гісторыя беларускага нацыяналізму» (Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2007. — 331 с.). У 2006–2007 гадах стыпендыят Інстытуту грамадзянскай прасторы пры Вышэйшай школе гандлю і права імя Р. Лазарскага ў Варшаве.

Ад 1993 года браў удзел у выдавецкіх праектах Беларускага фонду Сораса. Разам зь Ігарам Бабковым заснаваў інтэлектуальны часопіс «Фрагмэнты» (1996). У 1998 разам з Андрэем Дынько заснаваў часопіс «ARCHE», які рэдагуе да гэтага часу.
Ляўрэат прэміі імя Ежы Гедройца (2010).

ВАЛЕР БУЛГАКАЎ

Беларусь 1994–2004 гг.: разбудова дзяржавы
і перасьлед нацыі

**Аўтар ідэі сэрыі** *Максім Жбанкоў*
**Каардынатар** *Алесь Анціпенка*
**Галоўны рэдактар** *Валянцін Акудовіч*
**Рэдактар** *Алесь Анціпенка*
**Карэктар** *Ліка Жаўрыд*
**Дызайн вокладкі** *Сяргей Ждановіч*

У сэрыі **“Бібліятэка “Беларускі калегіюм”** выйшлі:
**Віталь Сіліцкі** “Адкладзеная свабода**”**,
**Алесь Анціпенка** “Быць (пры)сутным”,
**Сяргей Харэўскі** “ПраЧутае”

Фармат 84x1081/32. Папера афсэтная. Гарнітура «Calibri».
Друк афсэтны. Наклад 300 асобнікаў.

Паліграфічнае выкананьне:
Вільня